Зьбігнеў Уладзімеж ФРОНЧАК

# АНЁЛЫ, ЧЭРЦІ І КАБЕТЫ

Апавяданні

*Пераклад з польскай*

Брэст
«Альтернатива»
2017

УДК 821.162.1-32
ББК 84(4Пол)-44
Ф92

У афармленні вокладкі выкарыстана
карціна «Дзяўчына з кветкай і люстэркам»
Тэадора Аксентовіча

Пераклад П. Ляхновіча

**Фрончак , З.**

Ф92 Анёлы, чэрці і кабеты : апавяданні / Зьбігнеў Уладзімеж Фрончак. – Брэст : Альтернатива, 2017. – 224 с., [іл.]

ISBN 978-985-521-593-7.

Вы верыце, што заяц можа лётаць, анёл-ахоўнік ратаваць пада-печную, пракладваючы сьляды па мінным полі? Што эвалюцыя папугая прывядзе да зьяўлення новых «гома сапіенс»? Што ў чарцей можа быць гонар і шляхетнасьць? Што жанчына здольная кахаць да скону? Або калекцыянаваць мужчын? Не? Так? Гэта няважна. Важна тое, што апавяданьні, уключаныя ў зборнік знакамітага польскага пісьменьніка Зьбігнева Уладзімежа Фрончка «Анёлы, чэрці і кабеты», ненавязліва прымушаюць чытача думаць. Пра хуткаплыннае жыцьцё, пра сваю місію ў ім, пра каханьне і нянавісьць, пра добрае і нядобрае. Напісаныя па-майстэрску, зь цёплым польскім гумарам, ад якога хочацца ўсьміхацца, а часам і плакаць.

**УДК 821.162.1-32**
**ББК 84(4Пол)-44**

**ISBN 978-985-521-593-7**

# ДА БЕЛАРУСКАГА ЧЫТАЧА

Мае тэксты ўжо некалькі гадоў зьяўляюцца ў беларускіх газетах.

Я рады, што цяпер на беларускі рынак трапляе зборнік маіх апавяданьняў «Анёлы, чэрці і кабеты».

Пра што я ахвотней за ўсё распавядаю?

Пра каханьне, злачынствы, Бога, анёлаў і чарцей. Пра радасьць і сьмерць, пра жанчын і зданяў, пра сяброў і адкрыцьці. Пра тое, што я ўведаў сам, што пачуў і прачытаў.

Я люблю старыя газеты, хронікі, часопісы…

Інфармацыя не памірае, бо дзеі людзей, памяць пра іх перакананьні і ўчынкі – вечныя.

Мне прыходзілася, разьбіраючы сьляды старажытных нататкаў, рэпартажы, анекдоты, дзёньнікавыя роздумы і старыя здарэньні, выстаўляць свае адзнакі, каментары і водгукі. Бывала, я станавіўся на недаацэнены або закінуты аўтарамі мінулых эпох сьлед і даходзіў да ашаламляльных падсумаваньняў. Сенсацыйную тэму або гісторыю шматгадовай даўніны, пра якія забытыя або невядомыя аўтары намякалі адным сказам, я зьвязваў з іншымі здарэньнямі, заўважаў дзівосныя аналогіі, ўсё гэта злучаў у пасьлядоўны, і – думаю – устойлівы твор.

У Польшчы – як і паўсюль у сьвеце – здарылася шмат дзівосных гісторый. У шматлікіх польскіх паселішчах кажуць: ёсьць шмат чаго, што і ня сьнілася

ўладальнікам каней. Я запомню гэта, бо гэта – гумарыстычны парафраз вядомага выразу Шэксьпіра.

А я ў сваёй прозе люблю спалучаць выпадкі і асобы польскай правінцыі з постацямі, вядомымі па падручніках гісторыі, нашумелых фільмах і літаратурных творах, люблю зьвяртацца да вядомых выслоўяў, сказаў і вершаў. Вось таму і зьяўляюцца ў гэтай кніжцы польская Жана д'Арк на Вепжы, Монтэ-Хрыста з-пад Любліна і Гамлет зь Дзясятай.

Люблю папесьціць чытача пацешнымі асацыяцыямі, абагульненьнямі, дастаўляе мне задавальненьне як задуменнасць, так і усьмешка на яго твары. Я вельмі цаню гумар, хоць часам у маіх творах гэта сьмех скрозь сьлёзы.

Я закаханы ў кніжкі, і гэтую любоў да пісанага слова падкрэсьліваю пры любой магчымасьці. З кніжкамі зношуся зь дзяцінства. Добрымі лічу тыя, дзе ёсьць пасланьне. Пасланьне для мяне – гэта думка, парада, навука. Якое пасланьне выцякае з маёй кніжкі?

Я выразіў яго ў апошняй фразе кніжкі, і гучыць яно: «Майце адвагу быць шчасьлівымі».

Для шчасьця трэба адвага?

Вялікая адвага.

Самымі цяжкімі зьяўляюцца простыя рэчы: казаць праўду, шанаваць людзей, усьміхацца ім, не пазьбягаць працы, пакланяцца Богу. Гэтаму вучыў мяне дзядуля Аляксандр, ужо шмат гадоў нябожчык, а я з кожным годам адкрываю і зазнаю, што яго на-

вучаньні – незвычайныя. Неяк пад уплывам дзядулі Аляксандра я напісаў, што ў барацьбе дабра са злом перамагае толькі дабро. Праз шмат гадоў я пачуў, як наш улюбёны Папа, Папа-славянін, Ян Павал II казаў: «Перамагай зло дабром». Як жа гэта блізка да таго, што вызнаваў мой дзядуля Аляксандр!

Я шчасьлівы, ды і горды, што на сваім шляху спатыкаў добразычлівых і проста добрых людзей.

Я карыстаюся словам, працую ў слове, зьвяртаюся за словам.

Я імкнуся не прычыняць словам прыкрасьці, словам стараюся сеяць дабрыню, узаемны давер. І пра гэта таксама нагадвае мая кніжка, часам у жартоўнай форме, часам у сур’ёзнай, бо гэткае ж і жыцьцё, гэткія каханьне і сьмерць.

Я дзякую перакладчыку, пану Паўлу Ляхновічу, чалавеку мудраму і адчувальнаму да шматлікіх фарбаў жыцьця, які разумее ўсе значэньні слоў: каханьне, павага, сяброўства.

*Зьбігнеў Уладзімеж Фрончак*



*Мая майстэрня. Жаан Міро*

# ЦЁЦЯ МАНЯ ЛЯЦІЦЬ У АМЕРЫКУ

Трымае ў руцэ квіток і візу ў Амерыку. У Чыкага яе чакае сын Кжыштаф, нявестка і ўнукі. І праца. Будзе прыбіраць, гатаваць, даглядаць садочак.

На аэрадроме побач дочкі са сваімі мужамі. Пазірае над нашымі галовамі. Можа бачыць вёску, сваю Домбе, хату, падпертую каламі, і развалены плот. Там прайшлі яе вёсны і восені, леты і зімы. Міналі пасяўныя і дажынкі. Штогод урабляла вагон буракоў і бульбы. Адна. Дзядзька рана спачыў на цьвінтары.

Здолела перажыць, вытрываць. Адкарміць парася, выгадаваць ката і сабаку. Набыць для дзяцей абутак, сшыткі, часам кніжкі. Заўжды здаровая. Была раз у шпіталі, дык ад тугі памерла сучка Сойка. Ці ад чагосьці іншага? Невядома. Папраўляе сівыя валасы. Ужо 65 гадоў. А жыцьцё – толькі пачынаецца.

# НАВОШТА ГРОШЫ ДАЛАКОПУ?

Некалькі гадоў таму паехаў я з Радаўца ў Грэцыю праз Люблін, Варшаву, Будапешт… Знайшоў у Салоніках працу на могілках. У Радаўцы на гэтай працы завіхаўся кульгавы Караль Гвузьдзь, але і ў Салоніках трэба было хаваць памерлых. Плацілі някепска, так што за цьвінтарны пост я трымаўся, хоць не прывяз-

ваўся ні да месцаў, ні да людзей. У Польшчы пакінуў ВНУ і двух нявест…

Неяк балбатаў з адным у піўнушцы ля гары Афон, адкуль шмат вякоў назад, – калі верыць мітам, – Язон выправіўся за залатым руном.

– Вывез дзьве тысячы мерцьвякоў, – спавядаўся той перада мной.

Нямала. Гэта столькі, лічы, ва ўсім Радаўцы, дзе я вырас.

– У ложку аднаго зь нябожчыкаў знайшоў мяшэчак паўнюткі драхмаў. Трымаў на далоні, і тут – сястра памерлага зьявілася. Была такой няшчаснай і засмучанай, і ня радавалі яе спадкі па браце. Так што мяшэчак грошай аддаў ёй. На халеру далакопу грошы? – спытаўся хутчэй сябе, ніж мяне.

Каб умацаваць яго ў перакананьні, што не памыляецца, заплаціў я за два півы, што ён са мной выпіў.

# НЕМЕЦ ПЛАКАЎ...

«Хлопцы ня плачуць», – гаворыцца ў новай польскай песеньцы.

Але ў старой песьні, якую сьпявалі некалькі пакаленьняў палякаў, гураль выціраў сьлёзы рукавом, бо дзеля хлеба прыйшлося яму пакінуць родны кут, улюбёныя горы.

Мужчыны плачуць. Вобраз плакальшчыка зьяўляўся і ў літаратуры, і ў кіно: не аднойчы мужчына заліваўся

сьлязьмі, калі ў выніку жыцьцёвых няшчасьцяў быў вымушаны прадаць зямлю, каня, апошнюю карову.

У Польшчы канца XX і пачатку XXI стагоддзя вялікім попытам карысталіся аўтамабілі, перагнаныя зь Нямеччыны, панавала і пануе перакананьне, што нямецкія ўладальнікі дбаюць аб транспартных сродках, езьдзяць па цудоўных дарогах, і таму машыны прадаюць ня ўходаныя. У Польшчы дзесяцігадовы нямецкі аўтамабіль каштуе меней, чым гэткі ж у Нямеччыне. Як гэта? Бо суайчыньнікі маюць цяму ў руках і галовы не для шапак. У прызначаных да продажу аўто адкручваюць назад лічыльнікі прабегу, спрытна ліквідуюць сьляды большых і меньшых сутыкненьняў, а гандляры – паколькі Польшча доўгая і шырокая – прапануюць вялікі сьпіс выбітных якасьцяў аўтамабіляў, расхвальваюць рухавік, арыгінальныя дэталі, камфортную язду, малы расход паліва, разгон… У Любельскіх аўтакамісіёнках, ці як іх зараз: аўтахаўзах,пачуў я яшчэ адзін аргумент. Не тэхнічны, псіхалагічны!

– Немец плакаў, як прадаваў! – прыглушана запэўніваў уладальнік патэнцыйнага пакупніка.

Словамі падбадзёрваньня выклікаўся вобраз польскага вяскоўца, вымушанага з-за кепскіх акалічнасьцяў прадаваць канягу. Двудушны аргумент хаваў конскую дозу іроніі.

Немцы ня плачуць. Калі прадаюць аўто.

# АНТЫГОНА З КРАСНАГАСТАВУ

Сёньня Антыгону ставяць у тэатрах Парыжу, Варшавы і Масквы. Твор аўтара Януша Главацкага зьяўляецца ўдалым аднаўленьнем сувязяў з драматургіяй вялікага грэцкага трагіка Сафоклеса. Главацкі разьмясьціў у сучасных рэаліях вялікай краіны драму жанчыны, што годна і адважна абвясьціла перавагу боскіх правоў над чалавечымі. Падзеі гэтыя не прыдуманыя, а ўзятыя з жыцьця... А гісторыя любіць паўтарацца. Аднак, перш чым сітуацыя са старажытнай Грэцыі паўтарылася ў Новым Ёрку, яна разыгралася ў Красныўставе, маленькім мястэчку на Любельшчыне.

Роля Антыгоны ў краснастаўскай драме адыграла сямнаццацігадовая Рыфка, дачка жыдоўскага карчмара. Карчма яе бацькі знаходзілася на любельска-львоўскім шляху каля Ізьбіцы. Быў 1915 год, другі год сусьветнай вайны. Красныстаў занялі аўстрыйцы. У тыя часы на тых тэрыторыях расьперазаліся зладзеі, авантурысты, ашуканцы і звычайныя разбойнікі. Да тых людзей належаў і герой гэтай легенды. Зваўся ён Яська Развора і быў дужы, як тур. Разбойнічаў на прыгожай рацэ Вепж, часьцяком выпіваў у корчмах Замосьця, Шчэбжэшына і не прапускаў у ваколіцы ніводнага фэсту. Кахалі яго, здаецца, усе панны і ўдовы, стралялі вочкамі замужнія, закахалася і Рыфка. Яна яго ведала добра, бо ў бацькавай карчме бываў ён частым госьцем. Раззухваціўся вельмі Развора, за

нішто лічыў божыя запаветы і акупацыйныя ўлады. Абдзіраў багацеяў, не літаваў бедакоў, здаралася, рабаваў на шляху вайсковыя абозы. Цэлыя вазы! І коней з вупражжу не пакідаў, вядомая справа.

Аўстрыйцы не маглі заплюшчваць вочы на такую дзёрзкасьць. Цярпелі Развору, пакуль абдзіраў сялянаў, памешчыкаў ды карчмароў, але калі працягнуў рукі да вайсковых грузаў, стаў злачынцам, дыверсантам, тэрарыстам, як зараз бы сказалі прапагандысты. Схапілі яго хутка, менавіта ў карчме Рыфкінага бацькі. Піў там вечарам больш, чым заўсёды, бо гаспадар частаваў адборнымі напоямі і ня зьвягаў пра аплату. Саманадзейны зух не прадчуваў, што ў стайні схаваўся і чакаў яго вайсковы аддзел. Закутага Развору зацягнулі ў Красныстаў, зь ім і ягонага ад'ютанта, Болька Рузэчку. Суд быў кароткі, уласна кажучы, яго зусім не было. Камендант сказаў толькі: «Павесіць!»

Да сёньня ў Краснымставе паміж турмой і міжгародным вакзалам расьце трохсотгадовая ліпа. На ёй зялёная шыльдачка зь інфармацыяй, што гэта помнік прыроды. Тады, гэта значыць восемдзесят зь нечым гадоў таму, шыльдачкі не было, ліпа стаяла за могілкавым мурам. Цьвінтара ўжо няма, там база міжгародных аўтобусаў.

Пад той ліпай паставілі Развору і Рузэчку. Вешаць іх хутка і таемна не зьбіраліся. Якраз наадварот. Сагналі з усяго мястэчка людзей, каб запамяталі, што новая ўлада мае цьвёрдыя рукі і на літасьць ніхто разьлічваць ня

можа. Сярод натоўпу краснаставянаў стаяў Ян Чвурнуг, дзед Яна Хенрыка Ціхошы, папулярнага паэта з Краснагаставу. Дзед – тады падлетак – перажыў дзьве сусьветныя вайны і вайну польска-бальшавіцкую, пра атамана Яську Развору распавядаў яшчэ ў васьмідзесятых гадах бурлівага дваццатага стагоддзя.

Аўстрыйскія афіцэры конна, побач стаў плутон з багнэтамі на карабінах, сьмертнікам надзелі петлі і выбілі з-пад ног зэдлі. Рузэчка роспачна задрыгаў нагамі і зьнерухомеў, над Разворам парвалася вяроўка. Ускрык радаснага зьдзіўленьня прайшоў праз натоўп, камендант спалатнеў, а Развора зьлёгку ўсьміхаўся.

Ёсьць няпісаны закон – калі рвецца вяроўка, сьмертніку даруецца жыцьцё. Але была вайна, прытрымліваліся толькі права, выгаднага для мацнейшых. Так што зьвязалі шнур зноў, але ён аказаўся кароткім. Не даставаў да галіны. Зьбянтэжанасьці аўстрыйцаў, здавалася, ня будзе краю. Разбойнік увесь час усьміхаўся. Некалькі дзён таму варажбітка ці цыганка сказала яму, што ён не загіне ад чалавечай рукі. Няўжо тая загадкавая варажба спраўджвалася?

– Пасадзіць яго на каня! – крыкнуў хтосьці з афіцэраў. Жаўнеры імгненна зразумелі сэнс загаду. Коннаму хапала карацейшай пятлі. Вяроўку на шыі прыгаворанага можна было абкруціць вакол сука. Каня хлопнулі па задзе, і ён скочыў уперад. На гэты раз шнур вытрымаў. Прароцтва часткова спраўдзілася. У абдымкі сьмерці разбойніцкага атамана занёс конь.

– Павінен вісець тыдзень! Хаваць забаронена! – крыкнуў па-нямецку камендант, а перакладчык пераклаў.

Аднак ужо ўначы Развора быў зьняты і пахаваны. Зрабіла гэта Рыфка. Ёй дапамагаў малодшы брацік. Ён, нягледзячы на свой горб, узьдзёрся на ліпу, перарэзаў шнур, а Рыфка зацягнула цела нябожчыка на цьвінтар і там пахавала. Некаторыя казалі, што магілы не капала, а паклала цела ў склепе нейкай заможнай краснастаўскай сям'і. Таму аўстрыйцы не знайшлі сьлядоў сьвежай зямлі. Зрэшты, на пошукі пахаванага не было часу. Трэба было пакараць жывых. Вінаваўцу хутка схапілі, яна не адмаўлялася ад свайго ўчынку. На жыдоўскую грамаду наклалі кантрыбуцыю. Рыфку пасадзілі пад замок. Паводле адных – у арыштанцкай камеры, паводле другіх – бацька сам зачыніў дзяўчыну ў каморцы. Месца не мае значэньня. Несумненна толькі, што замкнутая зьдзейсьніла самагубства. Як Антыгона.

## ГАМЛЕТ ЗЬ ДЗЯСЯТАЙ

Гамлет, вядома, прынц дацкі. Дзясятая – для многіх зразумела, раён Любліна. Некаторыя ведаюць, што пра Дзясятую вялікі польскі паэт Ян Каханоўскі напісаў эпіграму. Завітаў колькі год таму ў тую старонку ды і ўвекавечыў месца і час прыгожай рыфмай. Эпоха

была прыгожая, бесклапотная ды далёкая. Дзея ж нашага сказаньня разыгралася ў гады апошняй вайны, у часы барацьбы, болю і вынішчэньня. Дамы на Дзясятай, як багатыя, так і бяднейшыя, мураванкі і драўляныя, стаялі на нябрукаваных вуліцах сярод шырокіх садоў, абнесеных агарожамі. Жыхароў было няшмат, і ўсе ведалі адзін аднога.

Нямецкая акупацыя Любліна цягнулася ўжо ля двух гадоў, патрулявалі горад днём і ўначы, не мінալі і Дзясятую.

«Данія – турма» – падымаецца праблема ў шэксьпіраўскай трагедыі. У Польшчы, паняволенай камунізмам, у змрочныя часы ваеннага становішча акцёры, што ігралі ў трагедыі Шэксьпіра Гамлетаў, акцэнтавалі гэты кароткі, але красамоўны сказ і выклікалі воплескі глядзельнай залы. Акцёры і публіка ўмацоўваліся ў перакананьні, што сапраўднае мастацтва – яно па-над часам.

Люблін – турма! – растлумачыў гістарычны момант свайму аднагодку Яну Дадосу, якому ў нашым сказаньні выпала роля Гамлета, васямнаццацігадовы Зыгмунт Клос, канспіратыўная мянушка Коса.

– Лес – свабода! Ідзем у лес! – высновы ён рабіў зухавата.

Высокімі словамі хацеў паназаляць калегу, пакпіць, маўляў, той па ўласным выбары хоча застацца ў турме. Яна Дадоса гэта не кранула, высокія словы ён прапусьціў паўз вушы, і на твары задзірлівага Косы

адбілася расчараваньне. Але выпадку трыюмфу над калегам ён дачакаўся.

Па сьцежцы ад тытунёвай фабрыкі, сярод пустак, ужо напаўсухіх з-за верасьнёўскага сонца, ішла маладая яшчэ кабета, танклявая, з доўгімі прыгожымі валасамі, у барвовай летняй сукенцы, маці Яна. За ёю прысьпешваў моцны мужчына ў росквіце гадоў, рыжаваты, з хуткімі пранізьлівымі вачыма і энэргічнымі рухамі. Гэта быў немец, вайсковы камісар тытунёвай фабрыкі. Калі выйшлі сьцежкай і апынуліся на шырокай вуліцы, бесцырымонна ўзяў жанчыну пад руку.

– Ты! Паплач ойчыму ў манжэту! – прашыпеў Зыгмунт па мянушцы Коса і гэтым зачапіў калегу за жывое, той ажно пазеленеў ад злосьці.

Цяжка зьдзівіцца такой рэакцыі.

Бацька Яна, даваенны паліцыянт, прапаў бязь вестак у 1940 годзе, ягонае месца ля заўсёды прыгожай Анэлі Дадос заняў нямецкі камісар фабрыкі. Ян падазраваў – ніхто ўжо ня скажа, ці справядліва – што ў зьнікненьні бацькі немалы ўдзел прыняў гэты рыжаваты немец.

Тады, на той небрукаванай вуліцы, сярод садоў, што зьгіналіся ад чырвоных яблыкаў і фіялетавых сьліваў, ён адпусьціў жаночыя плечы, адхінуў штыкеціну спарахнелага плоту, нырнуў у садовую зяляніну, каб праз хвіліну вярнуцца з двума апетытнымі фруктамі. Адзін падаў Анэлі, другі падкідваў на далоні.

На Дзясятай пра яго казалі «людзкі», некаторыя вымаўлялі нават «людзкі немец». Сапраўды, рабочых не абражаў, не прыніжаў, не ссылаў у лагеры. Так што мог бяз страху і бяз зброі хадзіць па вулках Дзясятай, можна таксама дапусьціць, што меў дазвол на раман з полькай, у гэтым выпадку з Анэляй. Абраньніцы немцаў і іхныя каханкі павінны былі асьцерагацца рэпрэсіяў з боку падпольшчыкаў, тыя пэцкалі іх дзьверы, абстрыгалі валасы. Анэля не баялася за сваё здароўе, маёмасьць і прыгажосьць.

Тым разам пасьля апоўдня за яе агароджай гучаў патэфон, даносіўся сьмех, бавіліся добра.

Неўзабаве ў садах Дзясятай пазрывалі з дрэваў яблыкі і сьлівы, паападала лістота, мароз скаваў зямлю і прысыпаў яе сьнегам. Надыходзілі Каляды.

– Давайце прыбяромся Ірадам, чортам і анёлам і пойдзем калядаваць! – прапанаваў Ян Дадос дваім сябрам, Юзку Брылу і Антку Мірэцкаму. Перад вайной на сьвята па Дзясятай калядавалі браты Невядомскія, але ў ваенныя гады іх было не чуваць. – Вывучым ролі, дзьве калядкі, пачнем са сьвятога Шчапана!

– Гэта можа быць небясьпечна! – заўважыў Юзак Брыла, малы, хваравіты і палахлівы.

– Можа быць, – згадзіўся Янак. – Таму сыграем толькі ў маім доме!

Гамлет, як мы памятаем, загадвае нанятым камедыянтам сыграць перад каралеўскай парай напісаную ім сцэну. Напамін аб сьмерці былога ўладара ад рукі

ўзурпатара. Ян вырашыў сыграць у калядных касьцюмах гісторыю сьмерці свайго бацькі ад матчынага каханка. І сыгралі.

На злодзеі шапка гарыць – кажа старая польская прымаўка. Простая сцэна, у якой забойца захапіў маёнтак і жонку забітага, вельмі відавочна ўсхвалявала камісара. Ці зразумеў ён, што юнак адгадаў ягонае бясслаўнае мінулае? Відаць так, бо пачаў уважлівей назіраць за сынам каханкі, а той – па вядомых прычынах – пачаў прыкідвацца звар’яцелым.

Мінула пару тыдняў, месяцаў, зазелянела Дзясятая, зазелянеў Люблін і ўвесь сьвет.

Увесну ён прыняў рашэньне аб зьнішчэньні матчынага каханка. Мог бы застрэліць, але за рэвальверам не палез. З дапамогай Антка Мірэцкага, па мянушцы Тарзан, адной красавіцкай ноччу, калі камісар вяртаўся з дому Дадосаў, яго павалілі, зьвязалі і, нагружанага мяшком з камянямі, кінулі ў гліняны кар’ер. Разьнёсься моцны ўсπляск, быццам у ваду трапіў увесь горад, увесь Люблін разам з Дзясятай, а не адзін чалавек зь мяшком на галаве. Праз пару хвілінаў перастала булькацець, зьніклі кругі і пачалі затухаць калыханьні вады. Павінен быў па волі хлопцаў застацца на дне назаўсёды. Але здолеў вызваліцца ад сьмяртэльнага баласту, непрыкметна даплыў да другога берагу, аддыхаўся ў трысьнягу, сабраў сілы і толькі празь некалькі мінут кінуўся наўцёкі. Пагоні ня сталася.

– Ідзі ў кляштар! – сказаў неўзабаве Ян сваёй дзяўчыне, васямнаццацігадовай Вандзе.

Просьбы, ці можа парады, яна не зразумела.

Паміж маладой парай, Вандай і Янам, некалькімі тыднямі раней выбухнула пачуцьцё, вялікае і гарачае, як у кніжках. Яна была ягонай дамай сэрца і багіняй вайны. Хацеў яе выратаваць, захаваць ад той ваеннай завірухі, ад таго млына сьмерці, што малоў з жахлівай сілай.

Кляштар – як можна меркаваць – здаваўся яму найлепшым сховішчам.

Тым днём ён зьявіўся ў партызанскім аддзеле Арміі Краёвай. У акцыях рызыкаваў жыцьцём, па ўсім відаць – шукаў сьмерці. У лесе не знайшоў. Паранены падчас патруляваньня ваколіцаў Зэмбожыц, быў схоплены жаўнерамі Вэрмахту і перавезены ў любельскі замак. Гэта была адна з самых бязьлітасных турмаў сьвету. Маці ў роспачы спрабавала ратаваць. Не атрымалася, хлопца расстралялі. Праз тры месяцы пасьля сьмерці адзінага сына Анэля Дадос наклала на сябе рукі.

Маладзенькая Ванда не пайшла ў кляштар. Выбрала самоту сярод людзей, даглядала магілы Яна і яго маці.

Ад Яна, увязьненага ў замку, дайшлі да яе два лісты. Казала – поўныя каханьня. Гэта былі дзьве паштоўкі запоўненыя алоўкам. Я бачыў іх. Паштоўкі – гэта занадта гучна. Гэта чвартківаркуша са школьнага сшытка. Колькі пачуцьцяў можна было запісаць на такіх

шматках паперы? Ну – некалькі сказаў, крыху болей словаў? Але для яе, абраньніцы Яна, гэта былі акіяны пачуцьцяў, Гімалаі прызнаньняў! Хапіла на цэлае жыцьцё.

Гісторыя гэта магла б, нават павінна насіць назву «Каханьне зь Дзясятай». Гэта была б паэма, эпас аб вялікім пачуцьці Яна і Ванды. Аднак пані Ванда прасіла ня ўзгадваць яе, абмежавацца толькі аповедам пра яго, Яна. Волю яе я пастараўся выканаць, адсюль назва «Гамлет зь Дзясятай».

## МОНТЭ-ХРЫСТА З-ПАД ЛЮБЛІНА

У нумары «Земі Любельскай» ад 7 лістапада 1907 году зьмешчана згадка зь гіпнатычным загалоўкам «Помста бандыта». «Дня 6 б.м. – інфармуе папулярная газэта – у вёсцы Старасьцец, пав. Любельскі, у селяніна, што вяртаўся дадому, стрэліў з аднастволкі вядомы бандыт Юзаф Каспжак. Каспжак за тыдзень да гэтага уцёк з турмы ў Янове».

Два сказы, а колькі сэнсу!

Ня кожны дзень уцякаюць з турмы, іншая справа, што ня кожны дзень туды трапляюць.

Прыемней хадзіць па вуліцы, ніж па камеры, і аднак спробы вырвацца з-за кратаў прымаюцца мала кім, а ўцёкі, што закончыліся посьпехам, трапляюць у легенды.

Подзьвіг Юзафа Каспжака, названага ў газэце бязь хітрыкаў бандытам, варты аповесьці.

Турма ў Янове Любельскім пабудаваная ў гадах 1820-27 сёньня не існуе, але належала да самых цяжкіх у краіне. Гэта зь яе казематаў вывелі на шыбеніцу, усталяваную пасярэдзіне яноўскага рынку, сялянскіх завадатараў студзеньскага паўстаньня (1863 г. – заўв. перакл.) Якуба Пранжыну і Юзафа Фліса. Сядзелі там людзі рэвалюцыі 1905 году і простыя злачынцы, паражоўшчыкі і падпальшчыкі, канакрады і бандыты. Грунтоўнымі камерамі і тоўстымі мурамі карысталіся яшчэ немцы ў часы апошняй вайны.

І яшчэ адно адступленьне.

Няма на Любельшчыне вёскі Старасьцец, ёсьць Старосьцін і Старасьціца. Старосьцін большая, зь сядзібай гміны. Меншая, Старасьціца разьмешчана ў маляўнічай даліне над Вепжам, у мінулым яе клікалі Старасьцец, а жыхароў гэтак жа калісьці як і сёньня – старасьцічамі. Тут памятаюць – а як жа! – Юзафа Каспжака, якога паўсюль называюць атаманам і ведаюць гісторыю яго ўцёкаў.

– Уцёк, прыкінуўшыся мёртвым! – гэткія меркаваньні пачуў я ад векавых тубыльцаў, добра зарыентаваных у звычаях і дзеях наваколья і лёсах суседзяў. З гэтай гісторыі можна скласьці інтрыгуючы сюжэт. Памёр вязень, і стражнік загадаў Каспжаку запхнуць цела ў мяшок. Той паклаў нябожчыка на нары, прыкрыў коўдрай, а сам залез у мех. Стражнікі панесьлі

клунак за браму, шпурнулі пад плот, парэшткі меўся забраць выкліканы магільшчык. Неўзабаве на скрыпучым возе ён дацеляпаўся да сьценаў турмы, але дарэмна шукаў труп, не знайшоў таксама і меха.

Гэта быў уцёк з гатунку такіх, пра якія гаворыцца: зухавата, маляўніча, непраўдападобна. Задумка была рызыкоўная, адчайная, але ня сёньня вядома, што толькі рызыканты зьяўляюцца аўтарамі бліскучых посьпехаў. Схованка ў мяшку, выкіданьне парэшткаў стражнікамі, бяз сумневу прыводзяць да думкі пра Эдмунда Дантэса, героя вядомага рамана, які пасьля пасьпяховых уцёкаў зь вязьніцы ў замку д'Іф, узяў імя і тытул графа Монтэ-Хрыста. І яшчэ адна, сьмелая, хоць усё ж не далёкая аналогія. Монтэ-Хрыста і Каспжак, ужо вольнымі людзьмі чэрпалі радасьць жыцьця з помсты.

*

Граф Монтэ-Хрыста – герой, створаны французкім раманістам, меў – як паўсюль вядома – правобраз у літаратуры. І той быў няшчасьнікам, абвінавачаным з-за зайздросных дружбакоў. Увязьнены за шпіянаж правёў у крэпасьці Фэнэстрэле восем гадоў. Пасьля выхаду ўзяўся за нож і пакінуў яго ў сэрцы першага здрадніка. Другога атруціў, а пры спробе расправіцца з трэцім даносчыкам мсьцівец быў забіты. Столькі здолеў вычытаць Аляксандр Думас у актах паліцэйскага архіву. Сам ён стварыў постаць шляхетную, якая прабуджае – як шырокі і доўгі сьвет – усеагульную сімпатыю.

*

Каспжак, перш чым трапіў у вязьніцу, меў нарачоную, прыгожую Зоську. Быў вызначаны тэрмін шлюбу, кавалер замовіў абутак у найлепшага шаўца ў Любліне, маладая панна ўжо два разы прымерала сукню, краўчыха заканчвала чарговыя даробкі. Плаціў жаніх, ён меў форс і грошы, і хоць выхоўваўся ў сялянскім атачэньні, але ў багатых бацькоў, зямлі не апрацоўваў, ужо тры гады займаўся разбоямі. Быць можа беспакарана разбойнічаў і надалей, калі б ня здрадзіў калега, Ян Дронг, закаханы ў ягоную выбраньніцу. Адбыўся суровы вырак, ссылка ў Сібір, здраднік пацёр рукі, Зося заплакала.

І хто мог падумаць, што прыдзецца яму яшчэ стаць тварам да твару з асуджаным? Прайшло, значыць, ледзьве пара месяцаў, і адбыўся шлюб Зоські зь Янам Дронгам.

Калі нечакана вярнуўся атаман, Зося была ўжо маці, Дронг бацькам, што не абараніла яго ад сьмерці. Каспжак прамахнуўся з аднастволкі, але дакончыў справу нажом. З забітага сьцягнуў абутак, бо лічыў яго сваім, гэта былі замоўленыя ім да шлюбу чаравікі, забраныя – пасьля яго ўвязьненьня – Дронгам.

Сыскаў абутак, а бабу – не! Пайшоў, ня солана хлябтаўшы – са сьмехам апавядаў мне сын старасты, Ежы Тжмель. Гаварыў зь іроніяй, бо ці ж можна спачуваць бандыту?

Граф Монтэ-Хрыста бязьлітасна расправіўся зь Фэрнандам Мандэгам, Данглерсам, Кацпрам Цадэроўсам, Герардам дэ Вілефортам.

Уцякач зь яноўскай турмы забіў Яна Дронга і на гэтым не спыніўся. Выправіў на той сьвет Уладыслава Сікору і Антонія Рыцоня. Што яднала ахвяраў? Яны былі дружбакамі на вясельлі яго Зоські і ненавіснага Яна Дронга.

Толькі дружбакамі, ці таксама здраднікамі атамана?

*

Граф Монтэ-Хрыста ў фінале раману пакідае Эўропу, выбірае Ўсход, побач зь ім зьяўляецца грачанка з прыгожым імем Гайда, ладная, шляхетная, і – на маё зьдзіўленьне – як напісана на старонках Вікіпедыі, крыху помсьлівая.

Магчыма легенда пра мсьціўца з-пад Вепжа створана пад уплывам чытаньня французкага раманіста?

Раман Аляксандра Думаса апублікаваны ўрыўкамі у французкіх газэтах у 1844 годзе, праз два гады быў ужо у руках польскага чытача. Да 1907 году, калі з аднастволкай у полі зору зьявіўся прагнучы помсты Каспжак, яго прачытала ўжо тры пакаленьні палякаў. Гэта былі – зразумела – чытачы з элітарных асяродкаў.

Ці мог Юзаф Каспжак прачытаць твор Думаса?

Гэта, здаецца мне, мала падобна да праўды.

Відавочна, ён ведаў літары.

Мог паставіць подпіс.

*

Непісьменны, але інтэлігентны. І бязьлітасны. А яшчэ энэргічны і кемны. Ведаў як ніхто іншы, што няма чаго шукаць паблізу ад сям'і. Павінен быў ратавацца чарговымі ўцёкамі. Выбірае Галіцыю як край, дзе можна ацалець, там шукалі ратунку перасьледваныя пошукавымі лістамі пэпээсаўцы і звычайныя канакрады. Неадкладна рушыць бліжэйшай ночай пасьля выкананьня помсты, празь лясы, начамі. Але не адзін. Бярэ з сабою старэйшую сястру Зосі, Ванду. Тая была гарбатая і таму ня мела посьпеху. А можа была не гарбатая, а толькі храмая? Прынамсі, быў нейкі цялесны недахоп, якім палохала кавалераў, але не разумовы. Атамана Юзафа не спалохала.

Кульгавая, ці гарбатая, але заўжды жанчына. Абраньніца.

Рушыць у сьвет, цешыцца жыцьцём з Вандай, як Монтэ-Хрыста з Гайдай.

– Монтэ-Хрыста, – услых вымавіў я, думаючы пра Каспжака. – Сапраўдны граф!

– Што за граф?! – не на жарт спалохаўся Ежы Тжмель. – Нічога сабе, – бурчэў потым, відавочна незадаволены параўнаньнем. – Ат, таксама мне граф – дурны, што жыраф!

# ЖАНЧЫНА, ЯКАЯ ЗАБІВАЕ

Жыхары майго горада маюць асаблівы густ! Не ад сёньня – ад вякоў!

Падабаецца ім – а часта нават захапляе – тое, што ў іншых гарадах, рэгіёнах бывае адкінутым. Увесну 1922 вялікай папулярнасьцю ў маім Любліне карысталася п'еса амерыканскага драматурга Сідні Гарыка «Жанчына, якая забіла» На сцэнах іншых гарадоў твор пакідаў афішы пасьля пары сьпектакляў, а ў Любліне ён біў рэкорды наведваньняў, публіка валіла ў тэатр праз дзьверы і вокны. Сёньня гэтая рэч не зьяўляецца на сцэнах, прыпамінаецца толькі, што гісторыя адбывалася сярод багатых амерыканцаў. Тыя, як вядома, маюць свае капрызы і прымхі, вось аднаму закарцела доказаў здрады сваёй жонкі. Хацеў разводу, а вядома, што найлепш пакінуць сужонку, калі яна няўстойлівая ў пачуцьцях. Знайшоў платнага спакушальніка, лавелас атрымаў аванс, і вядомымі яму спосабамі давёў справу да спатканьня. У тагачасным Любліне гэта было немагчымым, але ў Амерыцы і не такое рабілася. Дайшло да другога рандэву, потым да трэцяга… Аванс быў салідны, ды і прапановы прывабныя… балі, банкеты, вячэры пры сьвечках, рамантычныя гатэлі, шпацыроўкі, паездкі. Сужонка мільянера – іншай разьвязкі драматург прыдумаць ня здолеў – закахалася ў спакушальніка. Калі той палічыў, што сваю працу выканаў, забраў належную плату і выра-

шыў разьвітацца з асобай, зь якой яму прыйшлося так прыемна правесьці апошнія тыдні. І тут – можна сабе ўявіць – зрабіў памылку. Бо жанчыну – як кажуць знаўцы тэмы – лягчэй зьвесьці, чым кінуць. Зьведзеная і кінутая забіла каханка.

Адзначым таксама, што ў люблінскім сьпектаклі люблянак захапіў рольлю спакушальніка Юзаф Градніцкі, непараўнальны акцёр-каханак, тагачасны дырэктар тэатру. Пра сьпектакль балбаталі ў дамах і на вуліцах, дыскутавалі на пасяджэньнях Гарадской Рады, узгадвалі ў прэсе, а ў нумары 64 «Земі Любельскай» (5 сакавіка 1922 г.) над гераіняй зьдзеквалася сама Ванда Сьлівіна, у той час зорка люблінскай журналістыкі, шырока вядомая пад фанабэрыстым літаратурным псеўданімам «Ягенка з-пад Любліна».

Я напісаў, што любельцы маюць асаблівы густ, але трэба было лепш напісаць «люблянкі маюць свой характар і тэмперамент, здрады не даруюць». Гэтай думкі прытрымліваўся вялікі польскі паэт Баляслаў Лесьмян, маэстра вершаванай мовы, і ўніклівы назіральнік жыцьця, а асабліва кабет. У 1914 годзе, у час знаходжаньня на Любліншчыне, ён апублікаваў зграбную аповесьць «Майка», і паказаў гісторыю любоўных прыгодаў шаўца Дзюры і яго сужонства з млынаркай. Дзюра,хоць і селянін, але сэрца меў вялікае і шчырае, гатовае біцца для шматлікіх кабет, адважна прыцягваў позіркі паннаў і ўдоваў, а любоўныя прыгоды меў нават з вадзянымі русалкамі! Аднак да шлюбу павёў

удаву, нявеста трывала стаяла на зямлі, і ня звыкла заплюшчваць вочы на нявернасьць сужонка. Свайму былому мужу здолела даць такую лупцоўку, што небарака выпусьціў дух, ды і Дзюра хутка пераканаўся і зразумеў, што на паблажлівасьць сваёй абраньніцы разьлічваць ня можа! Біла яго часта, ахвотна і ўмела.

«Гэта літаратура», – скажа нехта.

Ня буду пярэчыць, але адразу спытаю: «А ці бывае інačай у жыцьці?»

У памятным 1914 годзе, у першыя тыдні вайны, у Любліне галасна абмяркоўвалі Сафію Унукаўну, якая забіла каханка і заручонага. І ў забойцы не ўпаў з галавы ніводзін волас! Паслухайце! Гаспадар бакалейнай крамы – чалавек заможны, але недаверлівы – хацеў пераканацца ў пачуцьцях сваёй заручонай. І прыйшла яму ў галаву ня вельмі разумная думка – папрасіў калегу, каб прапанаваў яго блакітнавокай Сафійцы любоўнае спатканьне.

Была складзена прапанова, адрасатка прыняла яе зь яскравым задавальненьнем. Мала таго, у працэсе спатканьня былі зроблены чарговыя прапановы – і хоць былі яны сьмелыя, нават маглі здацца шакуючымі – таксама ня сталіся адрынутымі! І можа не адбылося б нічога больш горшага, калі б герой пасьцельнай прыгоды не даклаў аб ёй – не ўнікаючы пікантных падрабязнасьцяў – цікаўнаму калегу. Панна Сафія ня зьнесла выбрыкаў заручонага, і адным трапным стрэлам з рэвальвера паклала канец ягоным пакутам. У рэвальверы яшчэ засталіся чатыры кулі, іх яна па-

слала – тым жа вечарам – у грудзі гаваркога каханка. Ночы хапіла, каб спакаваць самыя патрэбныя рэчы, і на сьвітанку, разам з пасьпешна адступаючымі расейскімі пасадоўцамі, яна рушыла на ўсход. Насоўвалася аўстрыйскае войска, і прыходзілі новыя парадкі.

«Нічога так не псуе жаночы спакой, як гаваркі мужчына!» – гэтым выслоўем забаўляліся ў Любліне ў цяжкія часы сусьветнай вайны.

Яно і сёньня папулярнае ў маім горадзе!

## ПРАФЕСІЙНЫ БАНДЫТ

У люблінскіх газетах першых гадоў XX веку – у крымінальных хроніках – зьявіўся зварот «прафесійны бандыт». Ім абазначалі шматразова пакараных злачынцаў. Сёньня пра такіх кажуць «рэцыдывіст». Тэрмін «бандыт-аматар» не выкарыстоўваўся. І па сёньня такога вызначэньня не існуе.

Прафесійны бандыт, гэта – як можна здагадацца – спрактыкаваны адмысловец, дасьведчаны ў разбоях, які як мала хто ведае прафесію злачынцы.

І яшчэ адна рэч.

На літасьць, ці паблажлівасьць прафесійнага бандыта разьлічваць было нельга. Такому, калі ўжо трапіў на яго шляху, трэба неадкладна, ці дакладней кажучы, без супраціву, аддаць апошні грош, апошнюю кашулю і скарынку хлеба. Тады можна было захаваць галаву.

*

За сваё доўгае жыцьцё я пару разоў чуў пра Паўла Быкоўскага.

Некаторыя з маіх інфарматараў казалі пра яго: «сапраўдны разбойнік», іншыя – «мярзота», прэса – даваенная, вядома – пісала каратка: «прафесійны бандыт». Яго калегі, сябры, таварышы, якіх я сустракаў гадоў дваццаць пяць таму, казалі проста – Быкоўскі.

Пару дзён назад, у старым нумары «Земі Любельскай» ад траўня 1921 году, знайшоў я пра Быкоўскага згадку. Паведамлялася, што ён быў схоплены і перададзены ў «рукі судовых уладаў». Зьвестак аб прысудзе я не знайшоў. Няўжо «прафесійны бандыт» быў – як сёньня кажуць – вызвалены за адсутнасьцю доказаў? Нічога яму ня здолелі паставіць у віну?

Шнарыў ён на Любліншчыне, ад Красьніка да Хэлма і ад Замосьця да Пулавы. Маёнткі абыходзіў, іх добра ахоўвалі, падарожных жа не прапускаў ніводнага, і трапляў то на памешчыка ў брычцы, то на адваката, то на гандляра. Браць прыклад зь Яношыка нават ня думаў. Беднымі не цікавіўся. Грошы выкарыстоўваў на сябе і сваіх каханак. Нечакана зьяўляўся то ў адной вёсцы, то ў другой. Забіраў коней, быдла, маёмасьць, нарабаваныя рэчы збываў жыдам. І зусім не за паўцаны. У гандлі быў як і ў жыцьці, цьвёрды і бязьлітасны. Скупшчыка, занадта ўпартага ў сваёй цане, вымушаў да ўступак кулакамі. І неаднаразова палохаў нажом. Самымі частымі ахвярамі былі заможныя сяляне. Але нават заможны селянін, гэта не памешчык, як

і ня кожны жыдоўскі гандляр – Ракфелер. Хацеў гульбы, таму вымушаны быў нападаць часта. І нападаў. Думаю, што тэрмін «прафесійны бандыт» хавае яшчэ адно значэньне, гэта мабыць ня столькі «працавіты разбойнік», такое вызначэньне зьяўляецца ўрэшце рэшт няўдалым, колькі «няспынны ў бандыцкай працы».

*

Да яго, бывала, далучаліся некалькі вісусаў. Аб такой кампаніі ён не клапаціўся. Нельга сказаць, што ня меў дару лідарства. Ён разумеў – мінулі тыя часы, калі можна было ладзіць набегі, штурмаваць маёнткі і корчмы, дзейнічаць камандай. Пераапрануты ў манаха, земляmера, судовага выканаўцу, пілігрыма ці валацугу ён мог рабаваць і красьці колькі заўгодна. Ня выключана, што знаходзіў у гэтым задавальненьне. Дзяліцца здабычай з таварышамі ня зносіў. Разыходзіліся зь ім не бяз крыўды, можа той ці іншы пакляўся адпомсьціць?

*

У Варшаве ягонай каханкай была Ганна Неўчас, у Любліне – Апалонія Жук з вуліцы Рыбнай. Дык менавіта на Рыбнай Быкоўскі – які не аднаго пакалечыў і пакрыўдзіў – быў жорстка зьбіты. Нябрыдкая, не старая і клапатлівая, нібыта самая верная жонка, Апалонія Жук выклікала экіпаж, павезла яго ў лякарню. Доктар бездапаможна пакруціў галавою.

*

Тым вясеньнім днём, на сьвітанку, першыя мінакі зьдзіўлена спыняліся. Перад шпіталем вісеў Быкоўскі. Сёньня цяжка сказаць – у ста пяцідзесяці кроках, ці толь-

кі ў некалькіх дзясятках ад муру лякарні. Таму скажу так: матляўся на першым тоўстым суку. Вяроўка была тоўстая, напятая пад цяжарам вісельніка, навюткая, адразу ад рамесьніка, купленая або ўкрадзеная.

Ці плакаў хто на пахаваньні апрача Апалоніі, ня ведаю.

*

Ёсьць дзьве версіі сьмерці Быкоўскага, і абедзьве жорсткія.

Паводле першай, нехта Бэйза выцягнуў параненага з бальнічнага ложка, цягнуў яго па калідоры, выбегла кабета са шпітальнай абслугі, можа медсястра ці прыбіральшчыца, хацела закрычаць, а ён пагразіў пальцам і яна, спалохаўшыся, прыкусіла язык. Парцье ня трэба было нават гразіць, той сам схаваўся. Ужо як прайшоў калідор і дзьверы, перад будынкам, надзеў на канаючага пятлю і закінуў вяроўку на сук.

Паводле другой, як ужо сказана, гэткай жа жорсткай, Бэйза выцягнуў Быкоўскага ня з ложка, а з трупэрні, і павесіў мёртвага.

Усё гэта адбылося ў шпіталі сьв. Яна, у былым кляштары баніфратраў, на вуліцы, што сёньня носіць імя доктара Мячыслава Бярнацкага.

– Ведаў я Бэйзу, ён з трупамі не змагаўся, – запэўніў мяне некалькі гадоў таму Мар’ян Падкова, пра якога казалі, што нямала мае на сумленьні.

«Пабіты гэта яшчэ ня труп!» – падумаў я, але пярэчыць не рашыўся. Не хацеў зьбіваць з думкі апытваемага.

– Можа ня Бэйза, а толькі нехта з прыяцеляў, гатовых выканаць любы яго загад? – уздыхнуў ён у горкім задуменьні.

Ссунуў на патыліцу паношаную фуражку і пачухаў лысы чэрап. Здавалася прымірыўся зь нявысьветленай загадкай сьмерці таварыша, з новымі часамі, са сваёй старасьцю і беднасьцю.

– Быкоўскі таксама быў здольны трымаць фасон, – кінуў ён яшчэ фразу, якая магла падказваць, што быў гэткі ж жорсткі.

Пасьля апоўдня таго дня мы разышліся, пажадаўшы сабе здароўя і добрых часоў.

*

Што яшчэ можна было б дадаць да гэтай гісторыі? Ага, карцінку.

Неўзабаве спаткаў я Падкову на вуліцы Зялёнай. Ён быў рады мяне бачыць.

– Ёсьць яшчэ тое-сёе, – паведаміў, таямніча ўсьміхаючыся. Фатаздымак!

Ён жыў непадалёк, на другім паверсе старога дому. У памяшканьні, куды мяне запрасіў, я сеў на расьхістанае крэсла за сталом, абабітым бруднай цыратай, прапаленай папяросным попелам. Ён кінуў на стол старую пакамячаную газэту, на якой расклаў альбом з фатаграфіямі. Дастаў адну зь іх.

– Гэта зь пілігрымкі ў Чанстахова, – патлумачыў Мар’ян. – Да сьвятой Пані!

Здымак быў карычневы, прастакутны на цьвярдым кардоне. Зьверху надпіс: «Памяць з Чанстахова,

1933 год, 550-гадовы юбілей». На фоне кляштарнага муру, але не сапраўднага, пабудаванага на валах, а намаляванага на палатне фатографам, ці яго памочнікам. Перад ім, на першым плане, двое мужчынаў – абодвум ужо добра за пяцьдзясят – з пышнымі вусамі, у кашулях без каўнерыкаў, шырокія пінжакі зашпілены на адзін гузік, у руках шапкі, вышэйшы зь яшчэ буйнай чупрынай, у высокіх чаравіках.

– Той, справа, вышэйшы, гэта Быкоўскі, з суседам.

Я доўга і ўважліва ўглядаўся. Плячысты, з жаўнерскай выпраўкай, не было ў ім нічога пыхлівага, якраз наадварот, пакорлівы і нібыта адухоўлены, пераменены знаходжаньнем у сьвятым месцы.

Прызнаюся, у пэўны момант я хацеў выпрасіць здымак сабе. Але адкінуў кепскую думку. Калі б нават не адмовіў, то пазбавіўшыся гэтага напамінку – рана ці позна – мог бы палічыць за здраду. Я хацеў яго ад гэтага ўберагчы.

## ПАВЕШАНЫ ЦЫГАН

Прымаўка пра цыгана, які павесіўся за кампанію, вядома ў Польшчы паўсюль. І не ад учарашняга, а зь вякоў. Аднак хто ж памятае, дзеля якой кампаніі даўся той бядак зацягнуць шнур?

Казімір Уладыслаў Вуйціцкі, дасьледчык фальклору і пісьменьнік на тэмы фальклору, запісаў гісторыю

той групоўкі. Гэта была разбойная шайка. Стварылі яе паляк, расеец і цыган. Разбойнічалі вынікова, шмат каму даліся ў знакі. Ведалі, што не пазьбягуць кары. Аднак не цураліся гумару і жаданьня забаваў. Знайшлі шнур, было дрэва, вырашылі пазабаўляцца пробным вешаньнем. Усталявалі зразумелыя і празрыстыя правілы: паляка здымаць з вяроўкі, калі даў знак рукой, расейца, калі варухнуў нагой, цыгана ж – калі сьвісьнуў. Паляк рукой даў знак, расеец дрыгнуў нагой, толькі цыган не засьвістаў. Вяроўка зацягнулася на яго шыі занадта моцна, і даць сігнал стала немагчыма. Апавяданка відавочна мае мала агульнага з прымаўкай, толькі ілюструе дурноту цыгана. Але Вуйціцкі быў не расістам, а пісьменьнікам-рамантыкам. Любіў цыганоў, яны былі для яго прадстаўнікамі экзатычнага народу, які ў эпоху рамантызму карыстаўся агульнай сімпатыяй.

Вайціцкі ў кнізе «Старыя паданьні і вобразы» запісаў яшчэ адну гісторыю пра павешанага цыгана. На Прыкарпацьці абрабавалі сядзібу. Спалоханы злодзей уцёк у лес, але трапіў у пастку аблавы. У час пагоні за злодзеем схапілі яшчэ аднаго, цыгана, зусім не саўдзельніка, а так, валацугу, якіх шмат. Суддзя, перад якім паставілі схопленых, заявіў, што павесіць абодвух, калі вінаваўца не прызнаецца. І здарылася. Валацуга прыняў віну на сябе. Яго павесілі на недалёкім дрэве.

Вайціцкі дакладна не акрэсьлівае ні час, ні месца здарэньня, але літаратурна папулярызуе прыкарпац-

кую гісторыйку, ад якой пайшоў афарызм, вядомы сёньня ўсім каментатарам польскіх прымавак.

У Белжыцах, невялікім каралеўскім мястэчку на шляху Кракаў-Люблін, ніхто відаць пра запісаны Вуйціцкім выпадак ня чуў. У той мясцовасьці пераканаcreateSelectorныя, што цыган павешаны менавіта ў Белжыцах. Цыганоў на сьвеце шмат, славяцца яны непрадказальнымі і рамантычнымі ўчынкамі. Той, белжыцкі, калі верыць людскім гамонкам, таксама даўся павесіць за кампанію. Здарылася гэта нібыта на вярбе ля гасьцінца ў Люблін. Вярба расла яшчэ перад апошняй вайной, але неяк увесну ляснуў па ёй пярун. Зь вярбы данёсься енк, нібыта хто паміраў. Стогн сьціх, і пра яго хутка забыліся, а ад вярбы застаўся выпалены пень і жменя попелу, якую разьнёс вецер. Шмат хто з народных апавядальнікаў можа паказаць гэтае месца, дзе сьмелы ўчынак цыгана здолеў нарадзіць новае польскае выслоўе.

Што ж гэта была ў белжыцкім баку за кампанія, дзеля якой і тут цыган даў сябе павесіць? Невялікая, а яе склад нібыта традыцыйны, вядомы з папярэдніх гісторый, а менавіта паляк, расеец (моладзь часта кажа «рускі», радзей «расіянін»), і таксама цыган. Абкрадалі сялянскія гаспадаркі, шляхецкія сядзібы, млыны і плябані. У адзін цудоўны дзень жулікаў палавілі і замкнулі ў склепе. Павінны былі стаць перад судом, але праязджаў кароль і вырашылі паставіць перад абліччам валадара.

Пытаньне, якому гэта каралю прыйшлося судзіць злоўленых бандытаў, робіць некаторым апавядальнікам праблему. Але пан Лявон Ськіба, васьмідзесяцігадовы фермер, тлумачыць, што стаялі злачынцы перад каралём Сабкам. Тым імем называлі караля Яна Сабескага, самага папулярнага валадара сярод польскага народу.

Тым днём нібыта быў манарх у кепскім гуморы, яму дакучаў раматус, і ня здолеў яго разьвесяліць нават прыдворны блазан. Хтосьці падкінуў ідэю, што калі грабежнікі давядуць да сьмеху і пацешаць каралеўскі двор, будуць вызвалены. Ідэя спадабалася, са злачынцаў зьнялі вязы. Перад імі узьнік шанец захаваць галовы, але – што тут казаць – быў ён надзвычай хілы. Ніводзін з бандытаў блазенскім мастацтвам не валодаў, анекдоты распавядаць ня ўмеў, зь мядзьведзем барукацца не рашыўся, танцаваць яны таксама ня ўмелі. Дэманстравалі мужыцкія вуглаватыя і крываногія рухі. Прыдворныя глядзелі на іх зь непрыхаванай пагардай. Гэтая пагарда відаць зачапіла іх асабліва балюча. Былі засаромленыя, прагнулі змыць ганьбу. Бо ці ж не пакрыліся ганьбаю, выстаўляючыся на сьмех? Але што адбылося, не магло ўжо быць адменена. І тады цыган рашыўся на той адчайны жэст. Прапанаваў дзеля каралеўскай кампаніі павесіцца.

Кажуць, кампанія была ня супраць.

Апавяданьне зь Белжыц найбольш драматычнае, утрымлівае моманты праўдападобнасьці і, што самае

важнае, найбольш блізкае да характару прымаўкі, яе драматычная ілюстрацыя. Аднак яна не была папулярызуемай, і ніколі – здаецца – не была запісанай і апублікаванай. Нават Юльян Крыжаноўскі не адзначыў яе ў каментарах да прымавак, сабраных у папулярнай ва ўсёй Польшчы кніжцы «Мудрай галаве досыць двух словаў».

## ВОЛЬГА КАБЫЛЯНСКА

*Бацька – паляк, маці – немка, дачка – украінская пісьменьніца. «Малы слоўнік пісьменьнікаў народаў СССР», выдадзены ў Варшаве ў 1968 годзе – яго Вольга Кобылянска (1863-1942) пачала пісаць у 1880 годзе па-нямецку. У «Слоўніку» разьмешчана выява пісьменьніцы. Кабылянска на тым здымку ўжо немаладая, высокая, хударлявая, амаль кашчавая. Нагадвае польскую пісьменьніцу Элізу Ажэшку. І піша на падобныя тэмы. Эмансіпацыя, вясковы рэалізм. Ганарару за аповесьць «Зямля» (1901), дзе рэалістычна, без маны паказана жыцьцё на Букавіне, хапіла каб набыць дом у Чарнаўцах. Прасторнае шасьціпакаёвае жытло ў аднапавярховым драўляным доме. Зараз там яе музей. Ала Данелевіч, маладая гожая кіраўнічка, запэўніла, што Кабылянска пачала пісаць па-польску. І паказала першыя польскія публікацыі.*

*На адной са сьцен вісіць партрэт Кабылянскай – твор Уладзімежа Дарасінскага. Я знарок ужываю слова «твор».*

*Бо для раскрыцьця вобразу пісьменьніцы мастак выкарыстаў фрагменты зь пяці яе аповедаў. Інакш кажучы – партрэт напісаны яе словамі.*

А зараз варта распавесьці пра яе нешта звычайнае, чалавечае. Яна марыла пабачыць мора. І чым болей ставала гадоў, тым мацней расла прага. Румынская пісьменніца *Лея Прынкуль* («Малы слоўнік румынскіх пісьменьнікаў», выдадзены ў 1975 годзе ў Варшаве гэтага прозьвішча ня мае) прыслала незвычайную пасылку – старанна запакаваную бутэльку з тоўстага зялёнага шкла. У ёй – марская вада. «Гэта марская хваля», – напісала ў *лісьце Лея* Прынкуль. Тая, зачыненая ў бутэльцы, марская хваля дагэтуль стаіць на пісьмовым стале Кабылянскай. Ала Данелевіч дала мне паслухаць яе шум – хвалі, што паўвеку ўвязьнёная ў бутэльцы.

## МАМАНТ У СТРАСЕ

Якуб Залескі, задзірлівы шляхцюк з Падляшша, як кажа старая і вядомая прыпавесьць, вырашыў шукаць справядлівасьці ў самаго караля Яна Сабескага.

Шляхта бывала сварлівай, сьхільнай да звадніцтва, не шкадавала грошай на подкуп суддзяў, судзілася гадамі. Вядомая рэч. Можа і той Залескі прамантачыў маёнтак у працэсах. Адно не падлягае сумненьню: надыйшоў дзень, калі ён асядлаў клячу і напрасткі рушыў у падваршаўскае Вілянова. Быў ужо недалёка,

калі натрапіў на шпацыруючага шляхцяру. Спытаўся ў напатканага пра дарогу, атрымаў талковы адказ, завязалася гутарка. Залескі, поўны горычы з-за чалавечай несправядлівасьці, распавёў пра мэту падарожжа. Раззлаваны, заявіў, што калі справядлівасьці ня знойдзе і ў ягамосьці, тады засьведчыць усім, быццам манарх пацалаваў ягонага каняку ў ср…

Незнаёмец, чалавек станісты і тлусты, не хаваў сваіх сувязяў з дваром. Абяцаў прыбыўшаму забясьпечыць аўдыенцыю ў найясьнейшага. Нават на наступны дзень. І слова стрымаў.

Пераступіўшы парог аўдыенцыйнай залы, Залескі імгненна зарыентаваўся, што папярэднім днём гутарыў з каралём. Сабескі яшчэ раз выслухаў шукальніка справядлівасьці, у канцы ж настойліва запытаў: «Што здарыцца ў выпадку каралеўскай адмовы?» Падляшак з панталыку ня зьбіўся, адказаў: «Слоўца сказана, кабылка ля плоту!»

Кароль зайшоўся сьмехам, прысутным растлумачылі выбух каралеўскай весялосьці. Показка спадабалася і здабыла незвычайную папулярнасьць. І сёньня, калі прыгадваем камусьці пра дадзенае абяцаньне, мы ўжываем тую гістарычную фразу.

Залескія на Падляшшы – гэта шматлікі род. Караль Залескі, жыхар падляскіх Ломазаў, меў таго Якуба, аўтара згаданай фармулёўкі, сваім продкам. Жыў у самоце і памёр ціха. Здарэньне, дзякуючы якому памяць аб ім захавалася, зьвязана з… мамантам.

– Калі сюды прыйдуць рускія, то я пацалую маманта. Пад самы хвост! – аб’явіў Караль.

Як можна заключыць, пыхлівы нашчадак падляскага шляхціца ня верыў у разгром Вермахту. Гэта ня значыць, барані Божа, што зычыў немцам перамогі. Ненавідзеў іх ад усяго сэрца, але савецкай вікторыі не прадбачваў.

Вайна была доўгай і цяжкай. Сёньня ўжо і школьнікі ведаюць, што пасьля сталінградзкага разгрому шанцы немцаў на выйгрыш зьніклі. Стала зразумелым – расейцы здолеюць быць у Берліне і Ломазы ў тым паходзе не абмінуць. Але Караль Залескі, васьмідзесяцігадовы, пранырлівы, у год, калі выбухнула вайна ўжо самотны ўдавец, галаву нёс высока. Ганарыўся сваёй хітрасьцю – хоць у палітыцы троху пралічыўся, але ўсе ведалі, што такой жывёліны на сьвеце няма, таму азадка мамантавага не пацалуе…

Існуюць, аднак, на сьвеце рэчы, што ня сьніліся нават Залескім з Падляшша!

Стары Караль прачнуўся неяк зімнім ранкам, была гэта зіма 43 ці 44 году (хто ж гэта можа дакладна памятаць?). Халодны шэрань пакрываў яшчэ зямлю, і здалося пабуджанаму дзядку, быццам ягоная хатка, што самотна стаяла ля тракту на Вішаніцы, захісталася. Гэта быў ня сон, бо праз хвілю яна зноў на яве затрымцела. На брудняватыя і моцна паношаныя споднікі ён нацягнуў вельветавыя нагавіцы, выглянуў у вакно і нічога не заўважыў. Надставіў вушы, бо слых меў заўжды добры. Нехта драпаў па страсе. Так, гэта

з тылу хаты тузаюць пакрыцьцё даху. «Не каза ж?» – падумаў так і ўзброіўся сукаватым калом. Адкінуў гачок, адчыніў дзьверы. На дыбачках падкраўся да кута хацінкі, асьцярожна выглянуў і аслупянеў. За чатыры крокі ад яго стаяў… мамант! Ня толькі стаяў, а і скуб страху. Вялікі, як дзьве, альбо тры разам узятыя каровы, і хоць на казьліных худых нагах, але галава дасягала коміна! Жаваў старую салому са страхі з такім смакам, што ажно сьліна цякла з пысы. Голасу не падаваў.

– І я павінен пацалаваць яго пад хвост? – думка гэтая ўразіла дзёрзкага дзядка. – Завялікі ж.

Пакуль што вызваленьне ад абяцаньня належала адкласьці. Шэльма магла спляжыць дах, ці нават забурыць хацінку. Трэ было бараніць маёмасьць! Замахнуўся калом, але праз імгненьне быццам апрытомеў і спалохаўся сваёй адчайнай адвагі, бо апусьціў рукі і схаваў сукаватку за сьпіной. А велічэзны абжора відавочна напоўніўся да сьмельчака павагі. Кінуў скубці, і хоць неахвотна, павольна адступіў ад халупкі і пайшоў сабе бледным золакам у далёкі край.

– Хутка канец сьвету! – заявіў Залескі знаёмым. – Пацалаваў гэтай ноччу маманта. Пад самы хвост!

Ня верылі. Ніхто нават не усьміхнуўся. Той-сёй паківалі галовамі. Ат, – думалі, – панесла дзядка фантазія.

Неўзабаве пасьля ўваходу расейцаў ён памёр, пахавалі побач з жонкай, пра рахункі з мамантам узгадваць перасталі.

Адно здарэньне з тых мясьцінаў кідае, аднак, сьятло на той найважнейшы момант жыцьця Караля Залескага. Юзаф Вільк, сёньня жыхар Варшавы, які паходзіць з Падляшша, з-пад Вэнгрова, у час вайны, калі быў падлеткам і знаходзіўся ў дзеда з бабуляй, бачыў паблізу Ломазаў… вярблюда. Сапраўднага, двухгорбага гіганта. Ці то ведае, ці то прыдумаў ягоную гісторыю. Гэты незвычайны ў тых краёх зьвер вяртаўся з-пад Масквы. Што там рабіў? Завезьлі на гастрольныя выступленьні! Хтосьці ў Рэйху, хутчэй за ўсё нейкі прапагандыст, прыдумаў крыху пазабавіць жаўнераў на фронце прадстаўленьнямі. І адправіў на ўсход цыркавую трупу пад назовам «Фантазія», ці то «Пінокіо». Пэўна, былі там і мядзьведзь, і малпы, і дрэсіраваныя сабакі. Гэта малаважна. Калі пад нагамі пачала гарэць зямля, цыркачы спакавалі манаткі. Трупу разграмілі партызаны, шчасьліва высьлізнуў толькі вярблюд. Яму незвычайна пашанцавала – дабраўся да Ломазаў, затрымаўся ля хаты апошняга з роду Залескіх. Але стары Караль, які ўсё жыцьцё ўрабляў невялікае поле і за Ломазы не вытыркаў носа, ніколі ня бачыў ні жывога вярблюда, ні намаляванага маманта. Таму нічога дзіўнага, што гарбача прыняў за перадпатопавы экзэмпляр.

Лёс даў яму, аднак, незвычайны шанец. Мог выканаць сваё абяцаньне каб не лічыцца пустасловам.

Вярблюд, гнаны здаровым інстынктам, рушыў на захад. Аднак скуры не зьбярог. Здаецца, укатрупілі яго партызаны. На жаль сьлед атрада, жаўнеры якога згатавалі печань цыркавой жывёліны, не знайшоўся.

# ПОЛЬСКІЯ КОНІ Ў БЕЛАРУСІ

Зь беларускім пісьменьнікам Аляксеем Філатавым я пазнаёміўся ва Украіне, у Ковелі, сустракаў яго яшчэ ва ўкраінскім Луцку. У Мінску ж, дзе часам бываю на зьбіранках пісьменнікаў і журналістаў – ніколі. На маё пытаньне наконт адсутнасьці на сталічных нарадах ён абыякава махнуў рукой – туды лягчэй даехаць з Варшавы, чым зь беларускай правінцыі – і ад нязручнай гутаркі ўхіліўся.

Нарадзіўся ён у перадваеннай Польшчы пад Уладавай, і там жа пачаў адукацыю. У дзяцінстве, як шмат хто з палякаў, захапляўся чытаньнем Сянкевіча. Лёс склаўся так, што застаўся жыць у Савецкім Саюзе, а пасьля яго распаду выпала яму жыць у Беларусі, у Берасьці.

Гадамі не карыстаўся польскай мовай, але падчас рэдкіх кантактаў з палякамі прыпамінаў вядомыя зь дзяцінства прыказкі, выслоўі, звароты.

– Збышак, Збышак Багданец! – радаваўся, калі маё імя нагадала яму Сянкевічава героя.

У Луцку, дзе мы ўсю ноч гутарылі, дамагаўся польскіх песень. Прапаноўваў іх назвы і мелодыі, да сьлёз расчульваўся, калі мы неміласэрна фальшывячы сьпявалі стары шлягер «Цёк ручай зялёным лесам».

Ахвотна і шмат апавядаў. Аб прачытаным, аб людзях, аб сваёй працы. Усё жыцьцё працаваў на чыгунцы. У часы Савецкага Саюзу правадніком дапяў ажно да Кітаю, але бываў і ў Польшчы, пад сваёю Уладавай.

Там пачуваўся як дома, здолеў ля станцыі завесьці сабе – пра што казаў не бяз гонару – каханку. Ягоныя гісторыі былі кароткія, дынамічныя, кожная з прыгожым сюжэтам. Я падумаў было, што ён распавядае свае творы. Калі так, то павінен быць някепскім пісьменьнікам. Размаўляў ён па-расейску, па-беларуску, па-ўкраінску – у залежнасьці ад таго, якой нацыянальнасьці былі слухачы. Сьпякотным летам 2010 году, у Ковелі, на начную выпіўку літаратараў прыйшоў са сваім земляком, празаікам Васілём Жуковічам. Алкаголю сабе не шкадаваў, а для кампаніі – пары пісьменьнікаў з Украіны і Польшчы – не шкадаваў анекдотаў, цікавых гісторый, бытавых і біяграфічных.

Перад выхадам на пенсію працаваў на рамонце пуцей ля мяжы. У брыгадзе з дванаццаці чалавек. Перад імі знаходзіўся мост праз памежную раку Буг, за ім – Польшча. Буг быццам бы і вялікі, але і малы – людзі ў Польшчы бачныя як на далоні. І ня толькі людзі, а і аўтамабілі, сялянскія фурманкі, коні і ровары. Бачыў, як адзін вясковец прывязаў лейцамі да агароджы запрэжаных коней і пайшоў па сваіх справах у гарадскія ўстановы, а мо ў крамы... У гэты час на мосьце загудзеў цягнік. Глухім, шмат каму непрыемным водгаласам загрымелі па рэйках колы таварных вагонаў, выклікаючы боль у вушшу. Коні спудзіліся, парвалі лейцы і паімчалі праз мост. Спыніліся на тэрыторыі Беларусі, каля насыпу, дзе працавалі Філатаў з брыгадай.

Калаціліся ад пярэпалаху, а можа ад нерваў. І не жадалі рушыць з месца! Гаспадар прыйсьці ня мог,

бо – мяжа, але мы, чыгуначнікі, мелі права яе перайсьці. Хацелі коней вярнуць, таму пасьля пэўных развагаў кожны ўхапіўся за конскую нагу і сантыметр за сантыметрам пасунулі іх у бок Польшчы. І гэтак – праз мост, празь мяжу, у Польшчу – скончыў Філатаў.

– Колькі вас учапілася сваімі лапамі за конскія ногі? – пацікавіўся худы і флегматычны Жуковіч.

– Як колькі? Васьмёх! Два кані, восем ног, па чалавеку на кожную нагу!

–А астатнія што рабілі? – высьвятляў Жуковіч.

– Як – што? – зазлаваў на пытаньне Філатаў. – Назіралі!

## СЬПЕВАКІ, ЖАРТАЎНІКІ І КАПЯЛЮШАКРАДЫ

Прыгадаю яшчэ адну гісторыю майго беларускага сябра, празаіка і непараўнальнага апавядальніка Аляксея Філатава, якой ён частаваў польска-ўкраінска-беларускую групку пісьменьнікаў, што сабраліся ў жнівеньскі дзень пасьля апоўдня ў ваколіцах Ковеля на ўкраінскай літаратурнай сесіі «Песьня лесу». Апавяданка была не пазбаўлена трапнай назіральнасьці і зьедлівасьці.

– Аднойчы, – абвясьціў поўны апавядальнага красамоўства Філатаў, – сьвяты Пётра, зачараваны птушынымі трэлямі, вырашыў надзяліць дарам сьпяваньня людзей. Быў шчодры да італьянцаў, расейцаў, украінцаў, беларусаў. Калі перад яго абліччам зьявіўся па-

ляк, дабрадзей разьвёў рукамі і, засаромлены, прызнаўся з журбою: усё ўжо раздана! Тады засмучаны паляк зацягнуў: «Ой! – раз! – дана – дана!». Так і лямантуе дагэтуль, – закончыў Аляксей.

– Наступным днём, – працягнуў я аповед Філатава, – ужо не сьвяты Пётра, а Сам Пан Бог захацеў абдарыць людзей вастраслоўем. Італьянцы, расейцы, украінцы, беларусы забаўлялі сябе і іншых серэнадамі, арыямі, прыпеўкамі, думкамі, жаласнымі галашэньнямі, мастацтва жарту здалося ім непрыдатным для ўпрыгожваньня часу і жыцьця. Перад абліччам Бога зьявіліся толькі паляк і ангелец, і як не было іншых ахвотнікаў за Божымі дарамі, загрэблі ўсё, што можна.

Нечакана мяне падтрымаў Багдан Басьцюк, сатырык з Украіны.

– Так, – прызнаў маю рацыю. – Палякі і ангельцы ня маюць сабе роўных у апавяданні жартаў. Ангельскі гумар халодны, як лёд, зразумелы для нешматлікіх, зіхоткі абсурдам, польскі ж прэсны, кранальны да сьлёз, але саркастычны.

– І як ніхто ў сьвеце мы ўмеем сьмяяцца са сваіх прыгнятальнікаў, самі з сябе і з палітыкаў! – дапоўніў я выснову. А ўжо неўзабаве атрымаў магчымасьць даказаць, што не разышоўся з праўдай.

*

У групе пісьменьнікаў быў яшчэ празаік Алесь З. зь Мінску. Відавочна адчуваў да мяне сімпатыю, распавядаў пра курсы ў Маскве, пра сяброў з палітычнага

і літаратурнага асяродкаў. На пачатку шасьцідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя наведаў Польшчу. Каб прадстаўнік народнай літаратуры выглядаў элегантна, жонка набыла яму новы капялюш. Падчас разьвітальнай вячэры, калі алкаголю сабе не шкадавалі, перабраў меру і забыўся капялюш у шынку. Наступным днём выязджаў на сьвітанку, крамы зачыненыя, а тут халадэча, вецер круціць, і насільшчык з гатэлю падараваў яму чырвоную спартовую шапачку.

– На вакзале жонка мяне не пазнала, – успамінаў ён. Крыкнула з адчаем: «Дзе твой капялюш?!» Мне зрабілася няёмка, але сказаў, што ўкралі. – Паведаміў мне прысаромлена. – А ты ведаеш, што яна сказала на гэта?

Злавіў мой зацікаўлены погляд і задаў яшчэ адно пытаньне:

– А не зазлуеш, як скажу?

Я запэўніў, што на ніводнае слова.

– Палякі – капялюшакрады!

І зыркнуў, ці ня скрывіцца мой твар грымасай злосьці.

Не скрывіўся.

– У Варшаве можна страціць ня толькі капялюш, у гэтым пераканаўся сам таварыш Мікіта Хрушчоў! – адказаў я на яго аповед.

Ён зацікавіўся, і я зрабіў справаздачу аб прыгодзе першага сакратара СССР. З варшаўскай трыбуны той даводзіў перавагі камунізму над капіталізмам. Слухалі ўважліва, але Гамулку занепакоіла белая ніт-

ка, што тырчэла з-пад нагавіц прамоўцы. Асьцярожна пацягнуўся да яе, абкруціў вакол пальца, і праз хвіліну схаваў у кішэнь невялікі клубок, потым другі. З палёгкай ўздыхнуў! Гонар правадыра камуністычнай звышдзяржавы быў уратаваны. Надыйшоў вечар, пара спаць, Хрушчоў сьцягнуў нагавіцы і зьнерухомеў. Прапалі споднікі! «Глянь, паглядзі! – гукнуў аднаго з таварышаў. – Якія гэтыя палякі спрытнюгі, скралі кальсоны не здымаючы штаноў!»

– Цудоўны жарт, каб асушыць сьлёзы з-за страчанага капелюша, – узрадаваўся беларускі пісьменьнік.

*

Гэткая гісторыя не магла здарыцца ў Лондане. Ангельцаў ніколі б не зацікавіла белая нітка, здрадліва выглядаючая з-пад нагавіцаў правадыра вялізнай дзяржавы.

## НЕКАЛЬКІ РЭФЛЕКСІЙ ЗЬ БЕРЛІНУ

Польская «Салідарнасьць», узьнікшая ў 1980 годзе, была магутным антыкамуністычным рухам. Камунізм яшчэ спрабаваў абараняцца, але ўжо празь дзевяць гадоў, у час пасяджэньня так званага «Круглага стала» камуністы былі адсунутыя ад улады. 1989 год палякі лічаць за канец камунізму ня толькі ў сваёй краіне, але і ў цэнтральнай Эўропе. Нямеччына ж прапіхвае меркаваньне, што упадак камунізму наступіў з моманту

разбурэньня берлінскай сьцяны і з энергіяй распаўсюджвае і папулярызуе сваю гістарычную версію па Эўропе і сьвеце.

У 2009 годзе, у дваццатую гадавіну пасяджэньня «Круглага стала» на сьцяне будынку польскай амбасады ў Берліне, на прыгожай вуліцы Унтэр-дэн-Ліндэн, я ўбачыў вялізны транспарант, які нагадваў пра польскую версію гісторыі падзеньня камунізму. Узрадвала мяне тое аздабленьне і напоўніла гонарам.

Годам пазьней, у красавіку, у тым самым месцы вісеў гэткі ж вялізны банэр, ён нагадваў Нямеччыне, ды і ўсяму сьвету пра 200-ю гадавіну нараджэньня геніяльнага польскага кампазітара Фрыдэрыка Шапэна. Усяго некалькі словаў, а я ўглядаўся чвэрць гадзіны! «Ня сьпяць у шапку», – падумаў я аб працаўніках нашай амбасады.

Дні той вясны былі цёплыя, прыдатныя для загарадных экскурсій, таму я надумаў наведаць Патсдам. Горад гэты, разьмешчаны на рацэ Гавэль атачаюць прыгожыя азёры. У ліпені і жніўні 1945 года кіраўнікі СССР, Злучаных Штатаў і Англіі разважалі там над будучыняй Нямеччыны. На станцыі Ванзэе мы з блізкай майму сэрцу паняй М.А. пакінулі вагончык прыгараднай вузкакалейкі і па крутых сходах, проста ад вакзала сышлі да возера. Пад яркім сонцам красавіка блакітная гладкая паверхня вады нагадвала вялікі кавалак добра адпрасаванай бляхі. Бялюткія параходзікі забіралі групкі пасажыраў каб развесьці іх па курортах, раськіданых у затоках азёр. Мы рашыліся

на доўгі рэйс, пасьля некалькіх гадзін плаваньня па бліжэйшых азёрах, злучаных каналамі, павінны былі вярнуцца на месца старту. Малады афіцыянт на падносе разносіў белае берлінскае піва, пасажыры-немцы ня бралі яго, можа не знаходзілі асалоды ў такіх умовах. Мне спадабалася, і я выпіў тры, мая сяброўка задаволілася адным з дадаткам малінавага соку, аказалася, што гэта бясплатна, відаць кошт быў улічаны ў кошце квітка. Нямецкі гід, які празь мегафон паведамляў назвы азёр і прыбярэжных мясцовасьцяў, у нейкі момант ажывіўся, бо мы міналі вілу, дзе была рэзідэнцыя Сталіна, Чэрчыля і Трумана. Інфармацыя пасажыраў не зацікавіла, ніводзін нават не павярнуў галавы каб кінуць позірк на гістарычную рэзідэнцыю.

Ажывіў жа іх выгляд спартыўнай лодкі, у якой за вёсламі былі восем мужчын, кожнаму зь якіх, – даю слова, – было ня меней за восемдзесят гадоў! Стырнавы, з пышнай сівой грывай, іх аднагодак, грымеў у рупар, падбухторваючы да больш інтэнсіўных намаганьняў. З палубы судна з дабразычлівай цікаўнасьцю пазіралі як каманда патрыярхаў рытмічнымі ўдарамі вёслаў разьбівала азёрную роўнядзь.

*

Ужо апускаўся змрок, мы былі ў Берліне, накіроўваліся ад Брандэнбургскай брамы да станцыі метро, ішлі каля Бундэстага, які, калі мяне не падводзіць памяць, можна наведваць ад сьвітанку да ночы. Ахвотных там заўжды даволі, чарга ўтвараецца ўжо з ранку

і на шырокім пляцы ўвесь Божы дзень віруе шматлюдны натоўп. Натоўп перад Бундэстагам навеяў мне асацыяцыю з чэргамі перад маўзалеем Леніна ў Маскве. У маскоўскіх чэргах абавязкова сур'ёзнасьць, у берлінскіх чуваць сьмех, воклічы і гуканьні. Да гмаху Бундэстага вядуць шырокія і доўгія сходы, тады, 9 красавіка 2010, менавіта на тых прыступках нейкі малады італьянец, відавочна спакутваны доўгім чаканьнем, бавіў час гучным сьпевам. Выконваў, відаць, нейкую фрывольную песеньку, бо пасьля кожнай страфы яго суайчыньнікі выбухалі радасным сьмехам. Воплескі дадавалі выканаўцу ўпэўненасьці, кожную наступную страфу ён выконваў сьмялей, сьпяваў з усё большым натхненьнем, у ім прачынаўся тэмперамент артыста.

– Змрок спрыяе прадстаўленьням, здымае хваляваньне, – пракаментавала песеннае шоў італьянца мая сяброўка. – У цемры ён невядомы, нябачны, а ў сьвятле рэфлектараў, ды і ў дзённым, хваляваньне можа адабраць голас.

*

Наступным днём Прэзыдэнт Рэспублікі Польшча Лех Качынскі адбываў на самалёце ў Смаленск, каб на расейскай зямлі ў 70-ю гадавіну расстрэлу савецкім НКВД польскіх афіцэраў ушанаваць іх памяць. Не даляцеў, за хвіліну да пасадкі прэзыдэнцкі самалёт разьляцеўся на кавалкі. Разам з прэзыдэнтам Рэспублікі загінулі: яго жонка, генералы, дыпламаты, службоўцы прэзыдэнцкай канцылярыі, чальцы каманды, усяго 96

асобаў. Гэтую навіну я пачуў з тэлевізара ў калідоры інтэрната, дзе я спыніўся. Не марудзячы, пайшоў да будынку амбасады, пад транспарант з высокадухоўным Шапэнам.

Запаліў сьвечку. Затрапятала полымя, зарыдала мая душа і засьпяваў я. Сабе, а можа нежывому ўжо прэзыдэнту, яго сьвіце, тысячам берлінцаў і тысячам турыстаў, што наведалі гэты прыгожы горад, пранклівую польскую песьню:

Божа, які Польшчу так шмат вякоў
ахутваў бляскам магутнасьці і хвалы
І шчытом засланяў сваёй усемагутнай апекі
ад няшчасьцяў, што яе маглі напаткаць.

Перад Тваім алтаром узносім малітву,
Айчыны волю дазволь захаваць, Госпадзе!

Няма патрэбы згадваць, што сьпяваю я жахліва, гэта няважна, істотна тое, што я павінен быў выкрычаць свае боль і роспач. Над мною на вялізным бела-чырвоным транспаранце хлопала выява – як мне здалося – ужо не адухоўленага, а напалоханага сітуацыяй Шапэна. Але зараз надыйшла пара для майго выступу.

У прыпеве я зьмяніў словы. У часы няволі сьпявалі: «Айчыны волю дай вярнуць нам, Госпадзе», пасьля вяртаньня незалежнасьці гэты фрагмент гучаў «Айчыны волю дабраславі, Госпадзе». Апанаваны няўпэўненасьцю, трывогай, няпэўнасьцю наступных падзеяў, я маліў аб абароне, захаваньні вольнасьці.

Да мяне далучыліся іншыя палякі: спачатку двое маладых людзей, праз хвіліну сужонкі сярэдняга веку, неўзабаве было нас некалькі дзясяткаў. Мы сьпявалі сьвету ўзрушальную польскую песьню.

А потым доўгія, доўгія гадзіны мы стаялі моўчкі. Аж пакуль не дагарэла сьвечка.

## ГРАФ, ШТО ГРАБЛІ ВЫРАБЛЯЕ

Ян Плятар, сапраўдны «з былых», да 1939 году ў Чэкажэвічах пад Луцкам на Валыні валодаў 300 валокамі зямлі, маёнткам і тузінам слугаў. Пасьля вайны, калі пашчасьціла вярнуцца зь сібірскай ссылкі, асеў у Любліне, меў пакой з кухняй, цётку Матыльду і сабаку Пушка, шпіца. Цётка спала ў пакоі, граф з Пушком на кухні.

– Граф, што граблі вырабляе! – з іроніяй казалі пра яго суседзі.

У рыфмаваным сказе («храбя, со грабе выpабя», – польск. – заўв. перакл.) гучала аднак не толькі нота зьдзеку, а і захапленьне.

Граф Ян Плятар быў чалавекам энергічным, часам меў арыгінальныя ідэі і не баяўся працы. Толькі вырабляў не граблі, а цукеркі: каровак і рачкоў. Першыя – карычневыя, другія – ружовыя ў белыя паскі. І тыя, і гэтыя вельмі салодкія, без паперак.

Для вытворчасьці патрабавалася вельмі шмат цукру і малака. А ні аднаго, а ні другога прадукту ў паваенны час не стачала. Але – толькі яму вядомымі шляхамі – здолеў здабываць цукар, малако прывозіў з прыгарадных вёсак у вялікіх алюміневых бляшанках, прымацаваных да рамы напаўразбуранага ровара. Кожным ранкам мыў тыя вялікія бляшанкі, якія яшчэ ня так даўно чырвонаармейцы запаўнялі самагонкай, перакідваў праз раму і павольна, павольненька, бо ёмістасьці на раме ровара, перад каленьмі веласіпедыста, перашкаджалі хуткай язьдзе, пасьпяваў на вёску, у ваколіцы надбыстжыцкіх Праведнікаў за малаком. Перад знаёмымі прыўзьнімаў фуражку, незнаёмым, якія ўглядаліся ў ягоны выпрастаны сілуэт, пасылаў цёплыя, зычлівыя ўсьмешкі.

Пушок вітаў гаспадара вясёлым віскам, граф з пяшчотай тузаў яго то за адно, то за другое вуха і налівау яму ў глыбокую місачку малака.

Што тут казаць, граф. Не ад грабель насамрэч, а ад цукерак.

Тым днём, па апоўдні з графскай кухні разносіўся пах гатаванага мяса.

– Вы цяляціну гатуеце? – з зайздрасьцю пыталіся суседкі Матыльду.

– Гэта Пушок! – сарамліва растлумачыла тая.

Вечарам у Плятараў былі госьці. Суседзі, якія адсачылі зьнешнасьць і паводзіны прыбыўшых, без намаганьняў вызначылі, што гэта даваенныя памешчыкі.

Яны пакідалі жыльлё графа відавочна задаволенымі. Суседзі і на гэты раз памеркаваўшы, трапна вызначылі, што не скупіліся ім ні ежы, ні пітва.

– Ясак, ты што – гасьцей Пушком накарміў? – спытаў раніцай Плятара сусед, Тадак Гуз, чыгуначнік.

Абодва былі зьдзіўленыя. Тадак – што так сталася, граф жа – што гэты факт можа кагосьці ўразіць.

Плятар перажыў ссылку, і там на далёкім марозным, галодным Усходзе зразумеў, што можна есьці сабак. А ў паваенных часах, калі бракавала хлеба, граф не рашыўся закапаць пад кусьцікам у парку Пушка, якога пераехаў аўтамабіль.

## ПАМЕШЧЫК З-ПАД АСТРОЎЦА

На ягоных дзесяці гектарах каласілася багатае збожжа і ніхто ў ваколіцах не зьбіраў такіх буйных буракоў і бульбы. Меў двух коней, пяць кароў і статак авечак. Жонкі ня меў і ня мае, але заўжды быў пры грашах і яму ўсьміхаліся паненкі, удовы і замужнія кабеты. І мабыць працягваюць усьміхацца. Клічуць Юзаф Рак, але ўзгадвалі і ўзгадваюць пра яго – Памешчык. Селянін гэты дужы як тур, здаровы, заўжды вясёлы і, кажуць, вельмі дасьціпны. Сам чуў, як напяваў ён лёгкадумную песеньку пра недасьведчаных паненак, што намагаюцца даць імя пэўнаму мужчынскаму органу. Я спатыкаўся зь ім два разы. Першы – на трыццаціГоддзе, на вясковых заба-

вах. Было мне на дванаццаць гадоў меней, я не даваў сябе ў крыўду і умеў карыстацца кулакамі. Народная забава, як і ўсе танцулькі ў падастроўскім Жухове, адбывалася ў пажарным дэпо. Скакалі пад музыку чатырохасабовага аркестра зь недалёкага Ажарова, а мне закруціла галаву бландынка зь імем Галіна. Мела яна блакітныя вочы, багаты бюст і кароткія валасы. На танцавальнай пляцоўцы, у небывалым тлуме я прыціснуў яе да сябе і засунуў пад яе блузку руку.

– Ну, ну, не так сьмела, не так сьмела, – стрымлівала яна мае намеры, але пратэставала не занадта катэгарычна.

Было ўжо за апоўнач, калі сяброўкі прапанавалі ёй вярнуцца.

– Мяне адвязуць дадому, – апраўдвалася яна. – Але ў бліжэйшую сераду спаткаемся, у Ажарове, – абяззбройваюча ўсьміхнулася і пацалавала мяне ў вусны.

Непрытомны ад шчасьця, я праціснуўся да буфету, абапёрся аб стальніцу і заказаў шклянку гарэлкі.

За маёй сьпіной хтосьці піхаўся і сьпяваў, ня вельмі меладычна, але выразна, пераканаўча, менавіта аб той асаблівасьці мужчынскай анатоміі:

Пайшлі панны па бацьвіньне
І знайшлі тое начыньне.
Адна кажа: частка кія,
А другая: гуся шыя!
Трэцьця кажа: пісяя, сцалка –
Я падгледзела ў маршалка!

Я зразумеў, што гэта Памешчык намагаецца заняць месца ля буфета.

– Убок! – крыкнуў ён мне. Я не варухнуўся. Ён зьдзівіўся, бо ўсе уступалі яму дарогу. – Перад пажаркай, сам-насам! – зрабіў, абражаны, выклік.

– Неадкладна! – пагадзіўся я

Я чакаў, ён ня выйшаў.

Зьдзівіўся, што яму хтось пярэчыць, але ад бойкі ўхіліўся.

У сераду я Галіну ня ўбачыў. Не прыйшла. Можа з паўгода я не знаходзіў сабе месца. Больш ужо ніколі яе не спатыкаў.

Зь Юзафам Ракам-Памешчыкам я сутыкнуўся бяз малага трыццацігадовым.

Той выйшаў са сталоўкі і хісткім крокам накіраваўся да свайго пятнаццацігадовага «Мэрсэдэса». Заўважыў мяне, залыпаў вачыма, несумненна пазнаў. Я падумаў, ня ведаю чаму, што калі падыйдзе, трэба жартаўліва пракаментаваць здарэньне тых гадоў. Мы ж меліся схапіцца за чубы!

Не падыйшоў, толькі спыніўся.

– Не злуешся? – крыкнуў мне здаля.

Зьдзівіла мяне такое пытаньне, але адгукнуўся:

– А чаго?

Незразуметым адказам была мне ўсьмешка на ягоным п’яным твары. Ён пасунуўся далей, праз хвіліну загуў рухавік аўто. Прыкурыў і рушыў з зухаватым уланскім выбрыкам.

Празь некалькі дзён, у адной прыемнай кампаніі мы ўзгадвалі старыя падзеі. Ад маёй стрыечнай сястры, Гані Й. з Апатова, я пачуў, сярод іншых, гісторыю, што Памешчык завабіў да сябе яе сяброўку і два тыдні гвалтам трымаў на гарышчы.

– Як яе клікалі? – невядома чаму зацікавіўся я.

– Хіба ты яе ня ведаў, гэта ж Галіна Жэпка з-пад Ажарова?

Я здранцьвеў. Мая Галіна! Ня ведаючы падзеяў, запэўніў яго, што не жыве ўва мне ніякая крыўда, аднак жа – я ведаў гэта ўжо некалькі хвілінаў – мой гнеў на яго і злосьць на сябе ніколі ня згаснуць.

## ДЗЯЦЕЛ

Кажуць, у Польшчы ж, што польская камуна скончылася ў 1989 годзе. Я меў – лічу – свой маленькі ўдзел у яе зьвяржэньні. Было – за пратэсты супраць рабства і цэнзуры трапіў у камуністычную вязьніцу.

Карная ўстанова, як гаворыцца на афіцыйнай мове пра турму, знаходзілася на ўскраіне Любліна. Аднапавярховыя будынкі вязьніцы нагадвалі баракі нямецкага канцэнтрацыйнага лагера ў Майданку. Абкружаў яе шэры, высокі мур, увенчаны калючым дротам.

У камеры было 8 двух’ярусных ложкаў, займалі іх 16 зэкаў, а для мяне і майго калегі, зь якім мы трапілі сюды за ўдзел у студэнтскіх хваляваньнях, нараў

не было. Спалі мы на матрасах, якія выцягвалі на ноч з-пад ложка, на дзень запіхвалі іх на ранейшае месца. Клаліся, вядома, разам з усімі, а падымацца мусілі першымі, каб не затрымліваць жыцьця камеры, якое пачыналася а шостай раніцы.

Дакладна ў гэты час зь металічнымськіргатаньнем стражнік адчыняў дзьверы, насельнікі камеры энергічна падхопліваліся і шыхтаваліся ў дзьве шарэнгі, а адзін зь вязьняў, называны старшым камеры, наструніўшыся, дакладваў лічбу прысутных. Стражнік педантычна адзначаў у сшытку, што нікога не бракуе і з шумам замыкаў дзьверы. Пачынаўся чарговы дзень жыцьця вязьніцы. Адны станавіліся ў чаргу да парашы ў куце камеры, каб задаволіць фізіялагічныя патрэбы, а трое маладзёнаў энергічна рабілі гімнастыку. Я глядзеў на іх з павагай, яны былі спартыўныя і рабілі шмат адцісканьняў. Блізка сёмай дзьверы зноў адчыняліся, старшы камеры прызначаў двох вынесьці парашу, праз некалькі дзесяткаў мінут яны вярталіся з вышараванай ёмістасьцю, мылі рукі, а праз пару хвілінаў можна было спадзявацца на сьняданак, што складаўся з чорнай кавы і хлеба з салам ці маргарынам, і мармаладу. Каля паловы восьмай зноў зьяўляўся ключнік і крычаў: «На працу! Ахвотныя ёсьць?!» Адразу ж усхопліваліся тыя трое маладзёнаў, якія штодзённа трэніраваліся. Рабілася вальней і старшы камеры камандаваў: «На шпацыр!» Двое гатовых да шпацыру станавіліся побач, гучала каманда «упе-

рад!», і яны пачыналі. Ад вакна да дзьвярэй, паварот назад, сем крокаў да вакна і вяртаньне. Цэлую гадзіну. Я назіраў за імі з пашанай. Сьледам за імі, калі ад напружаньня расчырванеліся і пападалі на лаўкі, ішла чарговая двойка, сівы бухгалтар і худы кравец, але гэтым хапала дзесяціхвіліннай нагрузкі. Да абеду бавілі час за чытаньнем, гульнёй у шахматы, шашкі, вырабам цацак... Адзін зь вязьняў прапанаваў мне партыю ў шахматы. З прадаўгаватым тварам, зарослым сівым шчаціньнем, гэткімі ж скронямі, вельмі бледны, відаць сядзеў ужо даволі даўно, гуляў слаба, мне прыйшлося намагацца, каб дазволіць яму выйграць, і засмуціцца, бо перамозе той зусім ня ўзрадваўся. Абед, мыцьцё посуду, скаргі на непрыстойныя жарты і аповеды пра смакоцьці, што елі на волі. Потым гадзінны шпацыр – ужо на паветры – на так званым шпацырняку. А ў камеры атрыманьне пошты, каментары да лістоў, пісаньне доўгіх адказаў, ажыўленьне ўносілі вернутыя з працы. Во дзе ўмелі распавесьці! Пра сонца і вецер, пра мінеральную ваду, задарма прапанаваную працадаўцам, урэшце пра кабет, якіх бачылі, зь якімі гутарылі.

Той-сёй падабаўся мне, некаторым прыйшоўся даспадобы я, але і сярод нашай зэкаўскай супольнасьці быў шпіён, даведаўся я пра гэта параўнальна позна, ужо пакінуўшы камеру. Гэта не было гранічна цяжкім увязьненьнем, ніхто тут над нікім ня зьдзекваўся, хоць і можна было пакаштаваць сухога хлеба, я двое сутак

правёў у карцары, у камеры, сярод вязьняў вядомай як «кабарэ», на драўляных нарах, пад выцертай коўдрай, сілкаваны – як казаў ужо – сухім хлебам і вадою.

За чвэрць да 22, якраз перад адыходам да сну сярод вязьняў можна было заўважыць нейкае хваляваньне. Вокны, закрытыя знутры металічнай сеткай, звонку закратаваныя жалезнымі прантамі. Штодзённа, менавіта перад 22 гадзінай, стражнік абстукваў іх малатком на доўгай ручцы. Спраўджваў, ці выпадкам не надпілавалі адчаюгі рыхтуючы ўцёкі. Яго клікалі дзятлам. Зьяўленьню дзятла за нашым вакном папярэднічалі далёкія стукі ў краты першых вокнаў бараку. На гэты гук двое маладзёнаў займалі месца паблізу вакна, а калі малаток ляскаў па нашых кратах, рабілі выгляд, што хочуць яго схапіць. Гэтае ўяўнае паляваньне за няўлоўным малатком доўжылася пяць, шэсьць секундаў, бо столькі часу патрабавалася стражніку-дзятлу для васьмі рэгламентаваных udараў па кратах. Сьціхалі ўдары, надыходзіла пара каментароў.

– Ужо трымаў у руцэ, – хваліўся першы з прымаўшых удзел у забаве. Невысокі, у рабаціньні. Клікалі яго Мухамор.

– Заўтра то я яго схаплю, – запэўніваў другі, худы. Таго называлі Пішчэль.

*

Праз пару месяцаў – ужо на волі, вядома – я трапіў у прыгожы надвісьлянскі Казімеж. Быў чэрвень, у мястэчку пахла язьмінам, а на кірмашы адбываўся

гандаль народнымі мастацкімі вырабамі. Вясковыя музыкі дзьмулі ў дудкі, кларнэты і пішчалкі, цягалі смыкамі па скрыпках, кантрабасах і гусьлях. Кавалі, ганчары, бандары, фанабэрачыся талентамі, прадстаўлялі свае творы. Сярод чалавечага натоўпу заўважыў я паненку, рыжавалосую, што ўчапілася за руку танклявага хлопца. Сілуэт ягоны здаўся мне знаёмым. Мяне шчэ ня ўбачыў, вёў сваю партнэрку ў мой бок, да стэнду, застаўленаму птушкамі, выструганымі з дрэва мастаком-самавукам. Падыйшлі і перабіралі ў руках ліпавых вераб’ёў, галак, сініц, аўсянак, сьнегіроў. Прамяністыя, радасныя. Ня мог я памыліцца, нас аддзялялі ўсяго некалькі крокаў, гэта быў Пішчэль, калега з камеры. І я ім заўсьміхаўся. А каб зьвярнуць на сябе ўвагу пачаў пастукваць пальцам па слупку, што падпіраў саламяны дах. У пантамімічнай сцэне іграў дзятла, што стукае ў пень.

*

Яны паднялі на мяне вочы. Я заўважыў зьдзіўленьне ў яе зялёных вачах і страх у ягоных чорных зрэнках. Пазнаў мяне, імгненна схапіў дзяўчыну за руку і пацягнуў у бок іншых шапікаў.

– Хто гэта? – зацікавілася яна. – Ты яго ведаеш?

– Гэта дзяцел! – я пачуў і гэты адказ.

Гэта было тымі часамі, калі назвай «дзяцел» абазначалі ўсялякага кшталту бясьпечных маньякоў, дзівакоў і паўвар’ятаў.

Я мог бы згадзіцца з такім адказам, але ня мог не

заўважыць, што мой знаёмы больш за ўсё хацеў схаваць ад дзяўчыны іншае значэньне гэтага слова.

## ПАКЛОН З ТУРМЫ

Паштар зьяўляецца перад маім корпусам каля 11.00. Націскае дамафон, просіць адчыніць – тут пошта – паведамляе. Кнопку дамафона націскаюць таксама разносчыкі ўлётак, сяляне, што разносяць бульбу, яблыкі, цыбулю. Першыя просяць прыадчыніць дзьверы, каб пакласьці ў паштовыя скрынкі рэкламы розных фірмаў і вырабаў, сяляне ўгаворваюць набываць экалагічныя плады зямлі.

Быў панядзелак, 9.00, дамафон бразгатаў доўга.

– Павінен перадаць вітаньне, – загучаў мужчынскі голас. – Паклон з турмы.

– Для каго? – машынальна запытаў я.

– Для вас! Вы жывяце ў люксе 63? Юзак Грушка шле паклон.

– Ня ведаю, – сказаў я бадай што сабе.

– Як гэта вы ня ведаеце, гэта ваш добры дружбак! Я павінен перадаць яму ад вас 100 злотых.

Я не хаваў зьдзіўленьня.

– Ад мяне? Даў маё прозьвішча?

– Вядома даў, але я забыўся. Добра запамятаў толькі адрас. Вуліца Канцэртова, корпус нумар 1, люкс 63. Ці ня так?

Я падумаў, што ня так. Калі б прыхадзень апынуўся на лесьвічнай клетцы, ён прачытаў бы маё прозьвішча на сьпісе кватарантаў. Ён альбо ня вельмі спрытны, альбо шчыра перакананы, што дастаткова ўсяго толькі назваць прозьвішча атрымальніка маёй сотні…

– Юзак Грушка? – уголас вымавіў я, каб зноў паспрабаваць прыгадаць.

– Юзак, Юзак! Класны чувак! Вы зь ім хадзілі да дзяўчат. Неяк вы ў яго Баську адбілі, памятаеце, такая бландынка каржакаватая! Мёд, а не дзеўка! Пэўна і вы яе скарысталі, бо нікому не адмаўляла.

Мёд? Юзак Грушка? Бландынка Баська? З гэтага мне не ўдалося скласьці ніякай згадкі.

– Ну, калі ласка не марудзьце, – прысьпешыў той, – бо і вы і я ня маем часу.

– Вы трапілі не на той адрас, – буркнуў я, і адклаў слухаўку. Навошта мне працягваць гэтую гутарку? Юзака, што сядзіць у турме, я мог ня памятаць, але кабет – асабліва салодкіх як мёд – не забываў. Без сумневу – у мяне хацелі выцыганіць грошы. Калі б я даў яму жаданую суму, ён праз тыдзень зьявіўся бы зноў, і тады ня хутка даў сябе адправіць. Але выраз «паклон з турмы» прыйшоўся мне да густу, гэтым зваротам я адказваю на прапановы, якія не атрымалі маёй згоды.

*

Мінулі тры месяцы, а можа толькі два, ізноў забразгатаў дамафон, і я зноў пачуў той самы выраз – паклон з турмы.

Але голас быў ужо іншы.

Я пачаў размаўляць.

– Ад каго?

– Ад Юлькі!

– Ад якой Юлькі?

– Ад вашай Юлькі! Не памятаеце дзяўчыны? На экскурсіі ў Татрах падкруціла нагу, а вы адвалаклі яе да прыстані, у сэнсе – да турбазы. Што там між вамі было, я не цікавіўся, але чуў прыемныя ўспаміны аб ночы ў тым прытулку. І пра наступныя таксама.

Я аслупянеў. Была ў маім жыцьці гэткая прыгода, але – добры Божанька – колькі гэта гадоў мінула? З чвэрць веку прайшло ад тых дзён. Насамрэч, клікалі Юлькай, была студэнткай фармацэўтыкі, неўзабаве пасьля нашай жарсьці выйшла замуж, і – як мне стала вядома – зьехала на Захад. А зараз прыслала паклон з турмы? Я ня мог ачомацца ад зьдзіўленьня.

– Вы сядзелі зь ёю ў адной камеры? – задаў я неразумнае пытаньне.

– Юлька сядзіць у камеры з бабамі, але да турмы жыла са мной, і да мяне вернецца. Зараз ёй патрэбны грошы. Вы павінны кінуць стольнік!

– За што сядзіць? – спытаў я.

– Безь віны! – крыкнуў той, як мне здалося, з глыбокім пераканаНьнем.

– Нявінаватасьць невінаватасьцю, але ў судзе відаць ёсьць нейкі вырак, суддзя павінен вынесьці нейкі артыкул, так ці не?

– Калі вы такі цікаўны, то скажу: за цяжкае цялеснае пашкоджаньне! Атрымала восем гадоў, чатыры ўжо мінула.

– Як гэта здарылася?

– Жыцьцё, шаноўны, жыцьцё, – дакладваў той ужо спакойна. – Мафія выкідвала бедакоў з дому, бо ня мелі сродкаў плаціць за кватэру. Вядома, бандыты – бяз літасьці. Мэблю, пярыны, праз вакно на брук. Толькі пер’е лётае! Трое дзяцей равуць на вуліцы, бо бандыт – копія іх бацькі, другі штурхае маці, а яна цяжарная! Мая Юлька, ну, ваша і мая, не магла на гэта глядзець, схапілася за сякеру і першым таго, што дзяцей біў, а потым другога, што цяжарную штурхнуў…

– Забіла? – вырвалася ў мяне.

– Забіць не забіла, але размажджэрыла някепска, кроў сікала. Казала мне ў турме, на спатканьні, значыцца – што вы зрабілі б гэтак жа. Вы такі шляхетны, Юлька распавядала – рыцар!

– Заўтра, заўтра, – зь нейкай роспаччу заскуголіў я. – Прыйдзіце заўтра!

– А і прыду, – запэўніў ён. – Прыйду!

Я не палю, да папяросаў зусім не датыкаюся, ня п’ю зашмат, але зараз гатовы быў напіцца, на жаль гарэлкі дома ня меў. Так што напіўся гарбаты. Сапраўды, я быў на трэцім курсе, яна на пятым, на фармацэўтычным, як ужо казаў. Мы паехалі ў горы. Не адны, барані Бог, – зь вялікай групай. Я добра яе нават ня ведаў, але спадабалася яна мне адразу! Блакітнавокая, з грываю

чорных валасоў. Пасьля ўбачыў яшчэ, што кемлівая і незвычайна дасьціпная. А яшчэ пазьней, што прыемна пахне. Але езьдзілі мы ня ў Татры, як гэта даклаў яе цяперашні партнэр, а ў Бешчады. Тыя, як вядома, гэткія ж прыгожыя, але меншыя, толькі ня меней небясьпечныя. Асабліва для нядзельных турыстаў. Вандравалі мы тры дні, на чацьверты меліся спусьціцца ў даліну да аўтобуса. І мы ішлі, як было запланавана, але яна падкруціла нагу. Прыйшлося мне суправаджаць яе да турбазы. Кажу – суправаджаць, а насамрэч я занёс яе на сьпіне! На базе ня мог пакінуць адну, там быў толькі адзін чалавек, нібыта кіраўнік, але з выгляду – крымінальны браток! Можна садзіць гадоў на пяць бяз суду! Аднак лекара выклікаў. Медык спраўна зафіксаваў ступню і прызначыў тры дні ляжаць. Уначы пайшоў сьнег, бо зіма, люты, засыпала дарогі, ня выйсьці ў краму. Мелі толькі мяшэчак бульбы, усе чатыры дні мы смажылі дранікі. Гэта была ежа каханьня.

Гэта ўсё, як я казаў, чвэрць веку таму. Адразу ж падрыхтаваў грошы.

Кур’ер не зьявіўся. І прайшло ўжо паўгода. Зьявілася перакананьне, што яна не ў турме. Можа трапіла на кагосьці, хто ёй распавёў пра мяне як жартаўніка, ці нават скандаліста, бо ў пэўных колах ці асяродках я і за такога лічуся. І вырашыла пажартаваць са старым знаёмым. Да нашай старадаўняй гісторыі дапісала канцоўку. Падгаварыла, ці даручыла камусьці сы-

граць перада мною ролю партнэра кабеты, што адбывае цяжкі вырак. Вера мая ў гэткі ход падзеяў мацнее з кожным днём.

А зварот «паклон з турмы» я ўжываць кінуў.

## ПАТАНЧЫЦЬ У МЯДНІЦЫ

Так здарылася, што Ян Смульскі – прыгожы, як з карцінкі, шляхціц – трапіў на вочы княгіні Радзівілавай. Спачатку трапіў, а ўрэшце патануў.

Княгіня, багатая і вабная пані, Смульскаму падабалася, але бедны шляхцюк адчуваў павагу да вялікага Радзівіла і на княгіню вочы не падымаў. Да часу. Малады чалавек даў сябе спакусіць, а можа купіць, бо княгіня адчыніла гаманец, набраўся сьмеласьці і перасек парог яе спальні

Князю данесьлі пра каханка яго жонкі, і разьюшаны магнат разаслаў наймітаў, каб яго схапілі. Не прайшло і двух тыдняў, і на дзядзінец замку ў Бранску прывялі Смульскага, яго ўжо чакаў кат. Князь загадаў прывязаць злоўленаму на шыю камень. І ў ваду!

Гэта старая гісторыя, але і зараз нямала гэткіх жа…

*

Казя Струсь падабаўся жанчынам. Дзяўчатам, замужнім, удовам таксама. Аднак найбольшую асалоду бачыў у жонках сяброў.

Эву, жонку Гэні Мруза, спакусіў ужо празь месяц пасьля вясельля. Праз пару гадоў зноў апынуўся паблізу Эвы і вырашыў, што яна стала яшчэ прыгажэйшай і яшчэ больш элегантнай, чым калісьці. Казя, правінцыйны Казанова, не марудзячы, запрасіў Эву ў сваё жытло. Але небарака не разьведаў сітуацыі! Гэнік Мруз насіў ужо мянушку Кароль і быў шэфам аўтамабільнай банды, што кантралявала тры ці чатыры ваяводзтвы, а мо нават і палову Польшчы! Каб кантраляваць такі абшар, трэба было ліквідаваць канкурэнцыю. Кароль, не міргнуўшы вокам, выносіў прысуды тым, хто ставіў яму палкі ў колы, і як толькі даведаўся пра настаўленыя яму рогі, прысудзіў і Казю.

– Патанцуеш у мядніцы, – сказаў ён спакушальніку.

Двое «быкоў» – ці то з Расеі, ці з Украіны – насільна ўціснулі Казевы ступні ў таз, напоўнены хуткасохнучым цэментам. Зьвязаны бачыў, як цэмент схопліваецца і скоўвае яго ногі. Калі шэрая будаўнічая рошчына скамянела і Казя з тазам быў як дрэва зь зямлёю, перад ім зьявіўся Гэня Мруз па-мянушцы Кароль і загадаў: «У Віслу!»

*

Калі кат цягнуў Смульскага ў бок стаўка, княгіня назірала за апошнімі хвілінамі свайго каханка з замкавага вакна. Асуджаны заўважыў яе і з роспаччу ўсклікнуў: «Пані, ратуй мяне!»

Пані пагардліва скрывіла вусны і, кажуць, крыкнула ў адказ: «Па добрай страве – падыдзе і вада ў ставе!»

Зграбная фраза была не яе аўтарствам, а паўсюдна вядомай прыказкай тых часоў.

*

Казя меўся зьвярнуцца да Эвы: «Скажы, што між намі нічога не было». Ці пачуў які адказ, невядома.

## ПАГАРЭЛЫ ЦЫРК, ПАГАРЭЛЫ ПАСТАРУНАК

Артыстка з пагарэлага тэатру! Гэтымі словамі мая бабуля Гэлена звычайна называе панначак з амбіцыямі, але без талентаў і посьпехаў. У дзяцінстве я пазнаёміўся з падобным зваротам: «артыстка з пагарэлага цырку», якім магутная пані Агата Собаль аблаяла тоненькую панну Ядвісю, асобу – што тут хаваць – блізкую ў той час майму хлапечаму сэрцу.

Перш чым панна Ядвіга зьвяла ў сьвет каржакаватага Антонія Гвозьдзя, які кожныя вясну і восень капаў гародчык пані Агаты, яна ў тым жа агародзіку, пасярод градаў з рэвенем, радыскай і зялёнай цыбуляй мыла сваё анёльскае цела. Яназіраў за ёю схаваўшыся ў густых хмызах бэзу. Можа не заўважала мяне, можа рабіла выгляд, што не заўважае, але неяк зусім нечакана паклікала: «Падай-тка мне ручнік, маленькі!» Я не насьмеліўся пакінуць схованку, засаромлены ня толькі яе галізною, а і сваім захапленьнем. Сама дацягнулася да ручніка, сама доўга выцірала ім жывот, грудзі, клубы. Ніколі, ніколі ўжо ніводная жанчына мяне гэтак

не зачароўвала. Панна Ядзьвіга і Антоні выправіліся ў шырокі сьвет, а я ўсё лета зайздросьціў Антонію, яго-най магчымасьцю захапляцца целам такой жанчыны.

*

Пані Агата Собаль мела пляменьніцу Эву, маю аднагодку. Цыркачка! – казалі на яе ў нашай школе, а на мяне – Бочка. Толькі яе мянушка была ганаровай. Божа, што гэта было за чарцяня! Стаяла на руках, захаплялася практыкаваньнямі на турніку і паралельных брусах, рабіла сальта і пераваароты. Заваёўвала на спаборніцтвах для школы галы, кубкі і тытулы.

– Можа, на алімпіядзе? – пытаў нехта.

– Хутчэй за ўсё на маскарадзе! – адказвала яна са сьмехам, а зараз я задаю сабе пытаньне, ці не хавалі яе жартаўлівыя словы мрояў, планаў і намераў, якіх нікому яшчэ не давярала.

Перш, чым зразумець схаваны ў іх, можа быць, сэнс, скажу, што жыцьцё любіць захопліваць зьнянацку. Ледзьве мінула пару гадоў, я вырас, набраў мускулатуры, і мне памянялі мянушку на Мастыф, бо гэта я зараз быў каралём гандболу ў нашым горадзе. Кіраваў на пляцоўцы, забіваў галы, трэнер нацыянальнай каманды прылюдна хлопаў мяне па плячуку і алімпіяда была не за гарамі, а вялікія і малыя – казаў ужо – пасьля кожнага голу, кожнага эпізоду ў захапленьні крычалі: «Мастыф, Мастыф!»

Убачыў яе неяк на матчы, і яна сказала : «Я тут з-за цябе».

Ведала, што гэтыя словы мне спадабаліся, але я ведаў, што яна лгала, бо жыла са старшынём майго клубу, які вар'яцеў – мне нехта сказаў – за ёй. А мне што да гэтага? Я меў свой сьвет спорту, посьпех і грошы, упарадкаваны і, здавалася б, багаты, але ці не знайшлося б ў ім яшчэ месца для адной дзяўчыны? Вядома, знайшлося б! Я пачырванеў ад задавальненьня, калі яна прапанавала віна. А гэта яшчэ быў не канец абяцаньням.

– Ці едзеш на алімпіяду? – какетліва спытала яна.

– Усе мае шляхі вядуць на п'едэстал, – зь перакананьнем адпарыраваў я.

– Мару аб пацалунку алімпійскага чэмпіёна! – Усклікнула яна шчыра. А праз хвіліну дадала гэтак жа адкрыта: – Пацалункам кандыдата ў чэмпіёны я таксама задаволілася б. Але ўсё пасьля канікулаў, бо заўтра зьяжджаю.

Не было віна, не было і вяртаньня з канікулаў. Яна патанула пры таямнічых абставінах, выскачыла ўначы зь яхты майго старшыні. Выскачыла, а мо была выштурхнутай, чаму патанула, яна ж плавала як ніхто ў нашым горадзе? Задаю сабе гэтыя пытаньні і не знаходжу адказу. Я іду вуліцай, па якой калісьці мы вярталіся са школы, у шыбах вокнаў яе жытла адбіваецца сонца і неба.

*

Спатрэбіўся год, каб выявіць, што той ночай на яхце былі яшчэ Юзаф Пайда, уласьнік вялікай транспартнай фірмы, і яго дзяўчына Марыя Дудзіч, вядомая ў пэўных колах як Майка Дратва. Я меў час і жаданьне

думаць, бо трэніраваў ужо не цяглiцы, а галаву. Калі наша каманда вярталася з гульняў у Францыі, мне падкінулі наркотыкі. Я адбіўся, але, калі пару месяцаў пасьля ў мяне знайшлі фальшывыя даляры, пайшоў на дно. Дзякуй Богу, не надоўга. Ужо не наведваў спартыўную пляцоўку, меў новых знаёмых, новую пасію, іншыя даходы і знаёмствы. Ізноў спатрэбілася некалькі месяцаў, каб – у час выпадковага спатканьня ў Лондане – пачуць ад Майкі Дратвы, вядомай на лонданскай глебе пад псеўданімам Зуза Кляпа, яе версію здарэньняў на яхце.

– Старшыня ўдарыў Цыркачку, тая павалілася і ўжо не паднялася! Можа, яе перад тым напаіў? А можа, у ляжачую заліў бутэльку гарэлкі? Хто ведае… Юзак быў п’яны і валяўся пад палубай, я таксама дала паказаньні, што нічога ня памятаю. Ты – для свайго спакою – павінен маўчаць, яе жыцьця ня вернеш, дык навошта рызыкаваць сваім? Я не маўчаў, я шукаў сустрэчы зь ім, каб сказаць:

– Пойдзеш за краты! Ужо я цябе за іх пасаджу!

– Ты, дэтэктыў з пагарэлага пастарунку, май на ўвазе, што ўвесь час носіш пры сабе фальшывыя даляры, – сказаў ён зьдзеклівым тонам. Я міжвольна схапіўся за кішэню, а ён па-шальмоўску засьмяяўся.

Пасадзіў яго рыжы Ян Гвузьдзь, ваяводзкі пракурор, сын чароўнай Ядзьвігі і каржакаватага Антонія Гвозьдзя. Але не за сьмерць Эвы, а за фінансавыя махінацыі. Не, я не прычыніўся ніяк да гэтай справы.

Старшыня глядзеў на сьвет праз краты, так што справядлівасьць ёсьць! Але сядзеў за крадзеж, махлярства, злоўжываньні! Ці там, у старой турме, што памятае царскія часы, ён пакутуе таксама і за забойства?

– Ты ня можаш быць упэўненым, што ён выкінуў яе за борт! – праціваўся гэткай версіі выпадку ксёндз Станіслаў, мая давераная асоба і прыяцель.

– Упэўнены, што так і было, – спакойна пярэчыў я

– Нічога няма на гэтым сьвеце пэўнага, – быў філасафічны адказ, і ён пакідаў мяне пагружаным у думкі.

– Ведаю! Гэтак і было, – казаў я, каб сьцьвердзіцца ў сваім перакананьні.

*

Не наракаю на жыцьцё. Я чалавек, здаецца, заможны і – дзякуй Богу – здаровы. Выявілася, што маю кемлівасьць у бізнэсе. Грош родзіць гроша! – скарыстаў я чарговы пастулат незабыўнай маёй бабулі Гэлены. Я валодаю вытворчасьцю касьметыкі, можа трэба было б сказаць «фабрыкай касьметыкі», бо бабулі больш падабалася назва «фабрыка», так што магла бы казаць пра свайго ўнука: «фабрыкант». Таксама маю дзьве гуртоўні, сетку крамаў, шмат сяброў і ворагаў… Сябры мяне ахвотна наведваюць, я не шкадую для іх ні часу, ні падарункаў. Ворагаў не ўзгадаю нават словам. Па пятніцах да маёй сядзібы над ракой Цяменгай заходзіць ксёндз Станіслаў Пюро, пробашч з тутэйшай парафіі сьвятой Ядзьвігі, як ужо казаў, сябра і давера-

ная асоба. Ставім на стол бутэльку каньяку і бутэльку яблычнага соку. Каньяк для мяне, сок для Станіслава. Парафія яго бедная, сябра нясьмела прыгадвае, што працякае дах на званіцы, што мур на цьвінтары трэба рамантаваць ды ўтварыць дашкольную ўстанову для самых бедных. Я нічога не кажу, п'ю каньяк, краем вока пазіраю на ягадзіцы маей маладзюткай гаспадыні Зюты – як яна нагадвае панну Ядзьвіню! Той самы рух клубоў, хваляваньне грудзей, непаслухмяная пасма валасоў над ілбом! Так, так, я зайздросьціў Антанаваму раскашаваньню анёльскім целам Ядзьвіні, а зараз сьмяюся ў душы з той зайздрасьці, бо і да мяне прыляцеў анёл! Ксёндз заўважыў, дзе блукае мой позірк, са значэньнем адкашліваецца і няпэўным голасам зноў распавядае аб патрэбах парафіі. Я раблю выгляд, што стаміўся ад гэтай справы, і адказваю, што прыму рашэньне на гэтым тыдні, бо ўжо ў час першай размовы вырашыў, што дам грошай на дашкольную ўстанову!

Мала таго, я заплачу за рамонт даху на званіцы, цьвінтарнага муру, ды і трупярню загадаю адрамантаваць, каб кожны нябожчык з маёй парафіі, бедны і багаты, у апошні дзень побыту на юдолі сьлёз мог ляжаць на насілках як пан, і каб вада праз дзіркі ў даху ня капала яму на мёртвыя павекі. Зюта паварочвае свой удзячны тварык у мой бок, усьміхаецца таямніча і какетліва, відаць здагадалася, што я ня буду шкадаваць ксяндзу капейчыну. Зноў наліваю сабе кілішак і

разважаю, ці Станіслаў таксама даўно ўжо здагадаўся, што я вырашыў выкласьці грошы на ўсе тыя пабожныя мэты, ці толькі мая банкаўская перасылка будзе для яго прыемнай неспадзяванкай.

## СТРЫПТЫЗ ПА-ЛЮБЕЛЬСКУ

Калі ёсьць па-любельску, то павінна быць па-варшаўску, па-парыску?

А як жа, ёсьць і па-варшаўску і па-парыску таксама! Пачнем з варшаўскага. У шасьцідзясятых гадах мінулага стагоддзя трапіў я на сьпектакль у варшаўскую аперэтку, гэта быў нейкі набор скетчаў, песень і яшчэ праграмка «настаяшчій стріптіз», гэта значыць сапраўдны.

Выходзіла акторачка, сьцягвала блузачку, чарговая – але ўбраная ідэнтычна – спаднічку, наступная – панчошку, другую панчошку, аж урэшце дайшла чарга да той, якая павінна пачаць здымаць бялізну.

І тады на сцэну выбег нейкі цалкам апрануты, з дошкай, на якой надпіс: «У камандыроўцы».

Пару чалавек у зале захіхікалі, але з апошніх шэрагаў данёсься голас маладога раззлаванага мужчыны: «Калі павінен распранаць, дык распранай, а не тлумі галавы!» У зале раздаліся нясьмелыя воплескі, несумніўны знак, што шмат хто падзяляе перакананьне расчараванага маладзёна.

Не было ў Польшчы стрыптызёрак! У 1970 годзе на экраны выйшаў фільм Вайды «Пейзаж пасьля бітвы», зьняты паводле апавяданьняў Тадэвуша Бароўскага. У адной са сцэнаў фільму зьяўлялася маладая кабета з аголенымі грудзямі, гэта была акторка з Францыі ці Нямеччыны, адмыслова запрошаная для распрананьня.

А ў Любліне ўжо быў стрыптыз! Ніякі не «настаяшчій», а сапраўдны, Любельскі!

Адчыніўся новы, шыкоўны гатэль «Вікторыя» і ў Любліне – у часы сярмяжнага сацыялізму – павеяла Эўропай! На гатэльнай эстрадзе маладая, гнуткая асоба рытмічна рухалася ў такт музыкі. Нетаропка – як патрабаваў стыль – сьцягвала гардэроб: густоўныя шмоткі, падвязкі, панчохі, адкладала іх на падлакотнік фатэля. У мужчынаў перасыхалі горлы. Ужо ў бялізьне паварочвалася да гледачоў плячыма і пры згасаючым сьвятле расшпіляла станік, адкладала – як і дагэтуль – на фатэль. Змрок у залі ўсё гусьцеў, калі пачынала здымаць – скажам так – майтачкі. У суцэльнай цемры голая пакідала сцэну. Вядома, раздаваліся воплескі, але немалая колькасьць мужчынаў – што зразумела – чакала чагосьці большага. Адзін зь іх, жорстка расчараваны, што не разгледзеў якой Бог стварыў стрыптызёрку, вырашыў не дазволіць зь сябе кпіць. Перахітрыць рэжысэра і танцорку. На чарговы сьпектакль прыйшоў аснашчаны грунтоўным электрычным ліхтаром. Спакойна дачакаўся канца прадстаўленьня, а калі сьвятло згасла і голая, паводле ўсіх

прызнакаў, танцорка павінна была пакінуць эстраду, накіраваў на яе яркі сноп. Востры прамень вылавіў на эстрадзе голы мужчынскі торс, потым рэльефны прэс, і ўрэшце раскошны мужчынскі чэлес. Усе замёрлі, галяк хуценька высьлізнуў з эстрады, над гледачамі запалілася сьвятло, а яны маўчалі, яны сарамліва маўчалі, зьняважаныя, што дазволілі сябе гэтак проста і ардынарна абдурыць.

Вінаваўца зьнявагі быў пакараны судовай калегіяй за парушэньне парадку, выпадак апісаны ў двухтыднёвіку «Камэна», пакаралі не махляроў, а толькі шукальніка праўды. Ну, бо танец – гэта мастацтва, мастацтва – гэта ілюзія, у мастацтве няма махляроў, а шукальнікі праўды нясуць небясьпеку, так што пакараньне слушнае.

Каваль вінаваты, а цыгана павесілі. Бачыў яшчэ нядаўна – скажу так – аўтара той кашы, сядаў у аўтобус нумар 55 на прыпынку ля ваяводзкай бібліятэкі, што па вуліцы Нарутовіча.

# МЯНЕ Б'Е ЖАНЧЫНА

*

«Мяне б’е жанчына![1]» – выбачайце, крык гэты замест жаху выклікае сьмех.

– Я дзіўлюся, – скажу так, – зьдзіўленьню мужчыны, што гэта зь ім здарылася.

Ня ён першы, ня ён апошні!

Жонка гетмана Агінскага[2] скручвала срэбны талер у трубку, а мужа – як сьведчаць шматлікія летапісцы – хапала за каўнер і выстаўляла за вакно.

Гуманная баба, магла ж на брук ськівуць. Не кідала. Не таму, што брук цьвярды. Не хацела хуткага заканчэньня цудоўнай забавы.

*

А нейкая блакітнавокая Ганна, саракагадовая і дагледжаная, кемлівы менэджар культуры, таксама магла сьціснуць кулачкі, пра што лепш за ўсіх ведае Караль, яе сужонак.

---

1 Выраз прагучаў у фільме «Сэксмісія», нашумелай польскай камедыі стагоддзя.

Дзеі адбываюцца ў 2044 годзе, прачынаюцца двое мужчынаў, уведзеных у гібернацыю паўвекам дагэтуль.

Але які гэта сьвет! У ім няма мужчынаў! Была вайна, усіх выбілі, жанчыны аднак цудоўна спраўляюцца адны, размнажаюцца, дзякуючы партэнагенэзу (цнатліваму нараджэньню), а гэтыя двое, што прыбылі зь мінулай эпохі, яны лішнія. Жанчыны, стараючыся прыстасаваць іх да свайго грамадства, не адступяць перад кастрацыяй.

Мужчыны ня стануць жанчынамі. Мужчынскі пол будзе адноўлены. Але каб так сталася, мужчына вымушаны падвяргацца прыніжэньням, насьмешкам, зьбіцьцю. «Жанчына мяне б’е» – выраз, які дарэмна выклікае ўсьмешку, ён зьяўляецца папярэджаньнем.

2 Жонка гетмана, Аляксандра, уладарка Седльцаў, Агінская (1730-1798), кемны палітык, філантроп, прыгожая кабета, улюбёнка мастакоў і артыстаў, і пры тым адораная незвычайнай фізічнай сілай і небанальным – як сьведчаць закліканыя летапісцы – пачуцьцём гумару.

У той дзень, калі мы з Мецем і Стасем пацягвалі піва, ён знайшоў нас у садзе Саса і разьвесяліў падбітым вокам.

«Яна мяне б’е», – ён выклікаў жаль, а ня сьмех – і мы спачувалі.

– Хоць і я ня ўломак! – адчайваўся ён.

– Такая дужая?! – спытаўся Стась.

– Як тур! – урачыста запэўніў Караль.

Ведаў яе і я. Калісьці, калі ў яе жыцьці яшчэ не было Караля, я дазволіў сабе сьмелы жэст і даткнуўся да яе пляча.

Я не сустрэў адпору, таму яшчэ дасьледваў мяккі жывот і гладкія клубы. Я ведаю, што кажу. Гэта не было мускулістым целам атлеткі.

З таго моманту прайшло трохі гадоў.

Відаць набрала лютасьці і мускулатуры.

*

– Мама! – прасіў пяцігадовы карапуз, – яшчэ хвілінку пабуду! – І крэсьліў палкай на пяску іерогліфы.

– Вяртайся, бо вушы надзяру, – было яму папярэджаньне.

Ён паслухмяна пасунуўся за матуляй.

Я глядзеў на іх з тылу. Бачыў яго паношаныя чаравічкі і яе зграбныя ногі, хвалю сьветлых валасоў, ягадзіцы, абцягнутыя спадніцай у клетку.

– Не адмаўляйся ад сваіх жаданьняў. Адкінеш іх, што застанецца табе? – перасьцярог я малога.

Яна першай павярнула галаву. Мела прыгожы твар, толькі погляд быў як у цмока.

– Калі хочаш гуза, то разаб'ю на тваім ілбе парасон! – прагучалі яе словы. У баладзе маэстра Адама[3] падобны зварот выкарыстоўвае адзін зь нягоднікаў, калі б працытавала яго даслоўна, мы можа маглі б усьміхнуцца. Але ў дадзеным выпадку справа была не ў абмене ўсьмешкамі. Справа была ў выкананьні пагрозы.

А гэтага, вядома, я не хацеў. Таму я змоўк.

## ЗБАВЕНЬНЕ: АГОНЬ, ВАДА І ПАВЕТРА

*Ад агню, вады і паветра[4] збаў нас Госпадзе!*
*(Надпіс на крыжы, усталяваным у XIX веку ў вёсцы Пятровічы на Вісьле)*

*

Каламанку[5] – рэчку на Падляшшы – той-сёй можа і перабольшвае, бо невялікая, але ў час паводкі яе драпежныя хвалі, якімі яна раптам пакрывалася, зрывалі

3 Ва ўзгаданай тут баладзе Адама Міцкевіча «Вяртаньне таты» адзін разбойнік кажа злоўленаму купцу: «Буду першым, хто паламае палку на тваёй галаве…». Пагрозы ня выканае, сэрца разбойніка разьмякне ад словаў дзіцёнка. Так-так, існуюць словы, пасьля якіх – перакананы паэты – з рук выпадаюць мячы…

4 Яшчэ я бачыў крыжы з надпісамі: «Ад агню, голаду і вайны збаў нас Госпадзе!»

Пятровічцы малілі пра збавеньне ад масавай сьмяротнасьці, выкліканай моравым паветрам – г.зн. заражаным тыфам, чумой, халерай… У свой час гэтак жа асьцерагаліся паветра, якое вораг атруціў газам.

5 Каламанка – як я паведамляў – рэчка на Падляшшы, левы прыток Буга, працякае праз Кодань, у якім шмат гадоў таму жылі гордыя і магутныя Сапегі, а ў 90-х гадах XX стагоддзя згаданы Браніслаў Сянюк.

масткі і кладкі, зносілі сталы і гаршкі, і на бурым, усьпененым яе хрыбце несьлі да панурага, карычневага Буга. Тутэйшыя людзі, апанаваныя страхам і жудасьцю, глядзелі на сплываючае дабро, калі раптам у кошыку, што калыхаўся на хвалях, заўважылі дзіцятка. Спачатку – калі апісваць дакладна – пачулі плач, потым вызначылі, адкуль ён, і нарэшце ўгледзелі: у кошыку ці калысцы варушыцца немаўля. Вось тады – як распавядалі – Бронак Сянюк, мой калега, кінуўся ў імклівую плынь... Адны казалі, што паплыў на дошцы ці то на весьнічках, або плоце, іншыя – што безь нічога. Галоўнае – меў дастаткова сілы і спрыту, каб адной рукою трымаць той кошык, ці калыску, другой жа здолеў ухапіць сук прыбярэжнай вольхі і па стаўбуру векавога дрэва выбрацца зь дзіцем на бераг. Скажу яшчэ, што рака забрала яго чаравікі, пінжак ён скінуў перад скачком у ваду і потым не знайшоў, парваную кашулю шпурнуў у паток, нагавіцы, выкручаныя ад вады, закінуў на плячо і босы, вітаны воплескамі, пайшоў дадому.

*

Ясік Радван, моцны маладзён зь Любартова, зь якім я пад каляровымі парасонамі любельскай Памплоны аднойчы паапоўдні смактаў піва, распавёў, як з палаючага дома вынес дваіх дзяцей. Ён меў у ва мне спагадлівага слухача, бо, скажу так, я быў у тэме – калісьці і мне даводзілася пераадольваць вогненныя перашкоды[6].

6 Пра свае змаганьні з агнём я нагадваў у навэле «Тры мужчыны Эвы». Я зазнаў рэчы, якія мала хто ведае. Бывае такая вогненная перашкода, здаецца яе не пераадолець, але калі пераадолееш, агонь перастае пячы, гэта, вядома, ілюзія, таму што боль ад агню паселіцца ў табе, і не патушыш яго доўгія, доўгія дні.

«І вось, – казаў Ясік, – я вынес дзіця і адчуў палёгку, вялізную палёгку, што боль ад полымя ўжо мінуў, што я ўжо не ў агні, выратаваны, што можа ніколі ўжо, ніколі не набліжу далоні да жару, як данёсься да мяне роспачны віск: «Там другі, другі!» Я напружыў слых, і сапраўды праз трэск агню прарваўся плач дзіцяці. Я хацеў адысьці, уцячы, я адвярнуўся, каб ня чуць таго крыку, але хтосьці падаў мне вядро, ён ведаў, што я пайду, што я павінен, што я не адмоўлюся! Я накрыў галаву вядром і кінуўся ў вогненную сьцяну, у чырвоным ад жару пакоі я адшукаў хлопца, закруціў у куртку, і яшчэ раз пераадолеў полымя! Ніякіх пашкоджаньняў, толькі далоні доўга не хацелі гаіцца. Бацькі смаркачоў далі мне кавалак поля, на якім я пабудаваў летні дамок».

*

Калісьці давялося мне служыць Айчыне ў вайсковай роце[7] строгага рэжыму. Нас, палітычна недабранадзейных, народная ўлада хацела правучыць. Кіравалі намі гэткія ж маладыя, як і мы, толькі паслухмяныя загадам. Нас паляпшалі муштроўкай, мы вучыліся шыхтоваму кроку, бегу пад гару, набывалі спрыт у начным капаньні акопаў, а яшчэ ў маршах

7 Гэта штрафная рота. Штрафныя роты – што ў баявых умовах ствараюць з асуджаных злачынцаў, дэзертыраў, зладзеяў, іх кідаюць на фронт у першую чаргу. Гэта гарматнае мяса, людзі, вырачаныя на пагібель.

У мірных умовах штрафныя роты камплектуюцца з супрацiўнікаў пануючага рэжыму. Апазіцыянеры – гэта небясьпечны элемент для кіруючых, таму што пільнуюць уладу. Здараецца, рана ці позна яны атрымоўваюць яе ў свае рукі, хоць не заўсёды ў тым памеры, аб якім марылі.

па загазаванай або задымленай шашкамі тэрыторыі. У нашым зьвязе адбылося здарэньне – пасьля начнога марша не хапіла жаўнера. «Ловім яго!» – роспачна прысьпешваў мяне[8] камандзір. І мы абодва кінуліся на загазаваны шашкамі палігон. Ён лічыў, што хлопец уцёк, я ж прадбачыў іншы зьбег абставінаў і не памыліўся – адмовілася слухацца супрацьгазавая маска. Я вынес яго непрытомнага і ледзьве жывога. І гэта не маё штучнае дыханьне, а высьпяткі камандзіра вярнулі таго да жыцьця.

## АДАМАВЫ ЖОНКІ

*– Ці сюды прыйдзе якая?! – пытаўся ён ці то ў мяне, ці ў сябе, і азіраў адзіны пакой хаты. На куце кухня з выцяжкай, старажытны стол, расьхістаныя крэслы, ложак. Газавая лямпа. Вядро, мядніца, на падворку студня і прыбіральня. Меў дваццаць пяць-дваццаць шэсьць гадоў і запушчаны туберкулёз. Пустую хату ў маёй вёсцы, бязьдзетныя гаспадары якой памерлі пару гадоў таму, атры-*

8 Чаму загад, а можа просьбу зьвярнуў да мяне? Я быў больш спраўны за іншых, хутчэйшы ў бегу і мацнейшы ў руках. Карыстаўся прыязьняй калегаў, ды і ціхім прызнаньнем камандзіра. На мяне можна было разьлічваць у цяжкія ці драматычныя хвіліны. Камандзір не памыліўся наконт маіх паводзінаў, але памыліўся, ацэньваючы сітуацыю. Той, як я казаў, ня ўцёк, а занядужаў. Калі б я сьхіліўся над ім мінутаю ці двума пазьней, хутчэй за ўсё нёс бы яго мёртвага.

«Ты ўратаваў мне жыцьцё», – сказаў той першы, а той другі: – «Ты ўратаваў маю скуру!»

Таго першага я бачу ў тэлевізары, другога не сустракаў.

*маў ад гміны ў пажыцьцёвую арэнду. Усё шэрае, толькі за вакном чырвоныя і жоўтыя мальвы, фіялетавыя флоксы. Яны цьвітуць шмат гадоў нават па сьмерці садоўніка. Такім чынам былі, так бы мовіць, скарбы і ў гэтым падворку. Сам я выглядзеў у скрынцы з паламаным начыньнем чыгунную ступу, якую ён, здаецца бяз жалю, аддаў мне.*

*– Ці сюды якая прыйдзе? – запытаўся зноў, маючы на ўвазе, вядома, кабету.*

*

Прыйшла, нават прыйшлі.

Першай зьявілася Ізаўра[9].

Гэта не было сапраўдным імем, а толькі прыемнай мянушкай, падараванай мясцовым жартаўнікам навапрыбылой у гэтыя мясьціны. Танклявая, блакітнавокая, бесклапотна вандруючая па сьвеце, яна затрымалася ў нашых Ясёнах. Быў час збору парэчак. Граф Фердынанд даваў працу на зборы ўсім, хто ў той час ня меў лепшага занятку. Адам падгледзеў, што неяк перад апоўднем граф паваліў Ізаўру на зямлю паміж шэрагамі парэчак і зрабіў тое, што робяць з кабетаю. А ўвечары Адам зрабіў зь ёю тое ж самае. Таксама ў парэчках. Бліжэйшую ноч яны правялі ўжо не ў бараку, дзе спалі наёмныя парабкі, а ў хаце Адама. Ня толькі тую ноч, але і шмат наступных. А пад восень яна

9 Я павінен прысьвяціць хвілінку гучнаму імені Ізаўра, вельмі відаць папулярнаму ў іспанска-партугальскамоўных краінах. Але і ў Польшчы не бракуе Ізаўр! Усё з-за бразільскага серыялу «Рабыня Ізаўра», які з задавальненьнем глядзелі ў Польшчы ў 80-х гадах XX стагоддзя. Фільм шмат каго сьмяшыў, але шмат каго і хваляваў. Тыя, хто паддаўся таямнічаму абаяньню прыгожай рабыні, адорвалі сваіх дачок яе імем.

пайшла ў толькі ёй вядомым кірунку. Пасьля яе засталася запазычанасьць у мясцовай крамцы, дзе каля пяцідзесяці дзён брала на павер папяросы і самае таннае віно, пад назовам «Сандамірскае», салодкае.

Адам запазычанасьць сплаціў, хоць ніхто яго не прымушаў. Сваёй сумленнасьцю зьдзівіў крамшчыка і яго кліентаў. Але раз ужо сказаў пра Ізаўру «мая баба», то яе запазычанасьць была і ягонай.

*

Барбара Ліства паходзіла з суседняй вёскі Качыныя Долы і, калі прыехала дабівацца спадкаў пасьля айчыма, мела, як яна падлічыла, пяцьдзясят пяць гадоў. Але лаві вецер у полі – гаспадарка прададзена, родны брат Юзак мяце вуліцы ў далёкай Амерыцы, а на яе – не яе дзялцы паўстаў новы дом, гаспадар якога на праблемы Барбары мог толькі без спагады разьвесьці рукамі. Занесла дзьве валізкі, зьвязаныя шнурам, да мясцовай крамкі, дзе ўсю другую палову дня піла піва і папераменна то плакала, то сьмяялася. Знаходзіўся там і Адам, глядзеў, думаў, і паколькі быў адзін, прапанаваў ёй начлег. Не адмовілася, а раніцою вымыла яму чатыры кашулі. На абед елі бульбу з баршчом, на вячэру – клёцкі з салам. Памерла яна ад запаленьня лёгкіх бліжэйшай зімою, пахаваў ў сасновай труне і яшчэ два гады запальваў на яе магіле сьвечкі. Казалі пра яго «удавец», з іроніяй трэба разумець, бо хоць жылі яны разам, аб шлюбе ніколі, напэўна, ня думалі.

*

Трэцюю адабраў у кульгавага Метака. Той быў на пару гадоў старэйшы за Адама, меў жонку Марту і двое дзяцей. Ім гміна таксама дала ў нашай вёсцы старую хату, вельмі кепскую, лепшай у ваколіцы ўжо не было. Дзіравы дах ён старанна латаў бляхай са старых вёдраў, хапала гэтага не надоўга, але ў рамонтных намаганьнях ён не спыняўся. Калі разваліўся комін, Метак зь дзецьмі павандраваў далей, а Марта пераехала ў дом Адама. Празь нейкі час нарадзіла яму сына. Некаторыя казалі, што гэта дзіцятка Метака. Я думаю, што Адама. Калі малому споўнілася тры ці чатыры месяцы, Марта пайшла ў сьвет, не за Меткам, сваім шляхам… А Адам неўзабаве памёр, не з-за згрызотаў, як ужо казалі, здароўе меў ніякае.

Хлопчык – ня памятаю яго імя – трапіў у дзіцячы дом.

Праз колькі гадоў на вуліцах Любліна пабачыў я маладога чалавека, нават няблага апранутага, які здаўся мне вельмі падобным на Адама. Хвала Богу, я хацеў верыць, што гэтаму пашанцавала.

Засталася яшчэ ступка, я захоўваю яе ў сваім музеі.

# ТРЫ МУЖЧЫНЫ ЭВЫ

Сьпякотнае лета 1971 году я правёў у вёсцы Ясёны, у доме маіх дзеда і бабулі, Аляксандра і Гэлены. Дом стаяў у садзе, побач абора, гумно пад страхою...

Раніцою мяне будзіў гук – кляпалі косы, якія ўвесь Божы дзень павінны былі класьці ўпокат палеткі ячмяню і жыта. У цяню яблыні, аблепленай чырвонымі пладамі, я паглыбляўся ў творы філосафаў і паэтаў, і адкрыў, што сьвет ня будзе лепшым, хоць у ім даволі прыгажосьці. На Узьбярэжжы змоўклі стрэлы[10], на лугах маёй вёскі шпацыравалі буслы, у старых садах завіхаліся косы, дразды і рабіннікі. Душнымі вечарамі далятаў да мяне шматабяцальны дзявочы сьмех і далёкае шыпеньне падаючых зораў.

Яшчэ прыпамінаю гутарку маёй сівавалосай бабулі Гэлены з суседкай Валерыяй, матуляй прыгажуні Эвы. Бабуля мела розум, Эва – посьпех, а суседка – турботы. Зьявілася трое кавалераў, сялянаў-мацакоў,

---

10 У сьнежні 1970 году народная ўлада ўжыла зброю супраць пратэстуючых рабочых. На польскіх вуліцах загудзелі танкі і баявыя транспарцёры. Былі забітыя і параненыя. На адным з танкаў заехаў ва ўціхамірваны Гданьск хлопец зь Ясёнаў, капрал-падхарунжы. Калі сьціхлі стрэлы, расьсеяўся дым, капрал-падхарунжы на вежы танка расшпіліў раменьчык шлёма і, задаволены добрым выкананьнем загаду, разглядаў разьбітыя аўтамабілі, патоўчаныя шыбы, і – хто ведае – можа лічыў забітых і параненых? Тым часам у непрыкрытую галаву шпурнуў з бліжэйшай брамы каменем дзесяцігадовы малы. Кроў запэцкала жаўнерскі мундур. «Меў навуку і паўгода адпачынку», – сьмяяліся ў Ясёнах.

Гэтую рэляцыю, зь перасьцярогай у падсумаваньні, я запісваю для навукі, суцяшэньня, памяці?

гатовых жаніцца, толькі каторага выбраць? Прасілі парады. Бабуля, перш чым паказаць на якога, прасіла памаўчаць.

Ян Бартос – хлопец з нашай вёскі, працавіты як вол, Стах Круўка – ганарысты павятовы чыноўнік, і той, трэці, незнаёмы мне Гэнак Тваруг, кажуць, казачна багаты.

Мне падабаўся Ян, гэта зь ім я выявіў, што не баюся агню[11].

---

11 Чаму ў акцыі тушэньня пажару бралі ўдзел толькі мы ўдвох зь Ясем? Гаспадароў не было дома, пажарныя прыехалі, як кажуць – на выклік, калі мы ўжо ўсё, што можна, выратавалі.

Я ськівуў зь сябе парваную кашулю, абвугленыя чаравікі, прыпаленыя нагавіцы, поле бою пакінуў у майтках, каб на суседнім двары змыць зь цела сьляды пажару, калі прыкмеціў поўны павагі позірк камандзіра пажарнай машыны. Зразумеў, што той ахвотна ўбачыў бы мяне ў сваіх шэрагах. Я падняў руку, каб умацаваць яго ў гэтым перакананьні, але ён, відаць, засаромеўся свайго захапленьня і ўжо перавёў позірк на пажарышча.

У шэрагі пажарных – на кароткі час – я трапіў праз нейкі час пасьля.

Мне прапанавалі правядзеньне трэніровак па фізпадрыхтоўцы з падразьдзяленьнем добраахвотнікаў у Ніжніх Гурках. Я прыняў прапанову, і зьявіўся на заняткі ў сярэдзіне кастрычніка.

– Пачнем з плаваньня, – заявіў я некалькім волатам ля проціпажарнага басейна. – І ня спынім купаньня нават у самыя лютыя маразы. Пачынаем зараз, мундуры зьняць!

– Мы бяз плавак, – піскнуў нехта.

– Галышом! – і сам у адзеньні Адама кінуўся ў басейн. Праплыў у халаднаватай вадзе пяцьсот метраў, вылез, нясьпешна выцерся. – Праз тыдзень усім быць у плаўках, – аб'явіў я. – Маміны сынкі застаюцца дома!

«Маміны сынкі» – гэтае слова яшчэ доўга паўтаралі ў тых мясьцінах. Маці аднаго зь іх не падабаліся мае муштроўкі, паказы, практыкаваньні. Не хацела, каб сын падхапіў насмарк. Ведала, за якімі дзьвярыма прымаюць даносы. Склала рапарт, што прыблуда-дыверсант намагаецца мясцовых хватаў перарабіць у ворагаў народу.

Магчымасьці прымушаць адважных пажарных зь Ніжніх Гурак да халодных купаньняў я больш ня меў.

Сам вінаваты. Да экстрэмальнага спорту было, мабыць, яшчэ зарана. Я мог з хлопцамі практыкаваць прысяданьні ў гімнастычнай зале або падскокі на сьвежым паветры.

У суседняй вёсцы мы выносілі з пылаючага дому пажыткі: вёдры, пасьцелі, вопратку і талеркі. Вызвалілі з аборы кароў, са стайні – каня, з ланцуга – сабаку Султана.

Стах зьяўляўся ў доме Эвы з партфелем, напханым хлебам, каўбасой, халвой, шакаладам, якімі наступным днём мяне частавала суседка.

Я, калі сказаў, што трэці быў мне незнаёмы, перабольшыў. Бачыў яго на танцавальным вечары ў пажарным дэпо. Ён танчыў з Эвай да сьвітанку. Калі б нехта цікавіўся, то зазірнуўшы ў сябе я мог бы дадаць, што яны былі шчасьлівыя. А потым – пра што ведаў толькі я – яна яму не пашкадавала аддзячыць. Сярод духмяных палеткаў за дэпо ён паваліў яе ў збожжа. Я быў – даю слова – выпадковым сьведкам іхных мілосных баруканьняў. Доўга мне сьніўся начамі яе крык асалоды.

Выбрала – ня ведаю чаму – Стаха Круўку, а Ян месяц плакаў. Я раіў яму з гэтага сьмяяцца, але ён сьмяяцца не хацеў, рыдаў і сьціскаў кулакі.

Больш я яе ня бачыў, казалі, што нарадзіла ў Шчэціне ці Устцы траіх цудоўных дзяцей.

Бадай што не ўзгадваў бы ніколі пра Яся, агонь, сабаку Султана, смак шакаладу, каб не адно спатканьне мінулай восеньню.

У Сандаміры на рынку сонечным кастрычнікам выпадкова спатканы турыст зрабіў мне ласку гутаркай. Распавядаў пра моры, рыбу, колеры, неба і прасторы.

Дасьціпна і красамоўна. Калі спытаўся пра мой дом, кветкі і садок, я назваў недалёкую мясьціну.

– Як, як? Ясёны? – зацікавіўся ён. – Шмат гадоў назад была ў мяне там дзяўчына! Ах, што за тэмперамент! Некалі пасьля танцаў у Дзьвікозах усю ноч кахаліся ў збожжы, – летуценна ўздыхнуў. – Хацеў нават жаніцца, але яна выбрала іншага, – узгадваў бяз жалю.

– Пан Генрык Тваруг? – рызыкнуў я спытаць.

– Вы мяне ведаеце?

– Ну, трохі ведаю! Але пра тое, што ў збожжы з Эвай усю ноч, гэта вы значна перабольшваеце. Бо вы ж пачалі перад сьвітанкам!

## КАТАМЁТ, КАЦІНАЯ ГАРМАТА, КАЦЯЧАЯ КАЛЫСКА

Ішлі яны ўтрох: маладыя, дужыя, агрэсіўныя. На прыпынку прыгараднага аўтобуса, паўз які ішлі, было нас восем: густоўная кабета з шасьцігадовым, раздураным хлопцам, пажылая пара, адзін даўгавалосы маладзён і дзьве караткастрыжаныя дзеўкі, я – лысы, тыя трое таксама лысыя. Спачатку кінулі нейкае слова ў наш адрас, мусіць, абразьлівае, але я не дачуў. Іншыя, відаць, таксама не, і наша маўчаньне раззлавала аднаго з тройкі, бо крыкнуў нам: «Выпердкі, вам кажу!» Даўгавалосы зрабіў выгляд, што ня чуе, пажылая пара трывожна паглядзела на агрэсараў, а смаркач за-

дзірліва адазваўся: «Лысыя жопы!» Маці тузанула яго за ручку, каб змоўк. Хто яго ведае, як бы разьвіваліся падзеі, калі б другі з лысых не заўважыў у канаве дохлага ката. Схапіў за хвост ці то за заднія лапы, радасна зарагатаў, і мёртвы кот, кінуты як з катапульты, паляцеў у паветры, быццам п'яная сава, і прызямліўся над намі на абшарпаным даху прыпынку, а тыя, душачыся са сьмеху, пайшлі сваім шляхам.

– Катамёт, – сказала адна з тых караткастрыжаных. Бландынка. Я паглядзеў на яе са зьдзіўленьнем і сімпатыяй. Упадабаў, што так хутка стварыла слова.

– Пэўна, дома гуляе ў каціную гармату! – растлумачыў нам хлопчык.

А я ня ведаў, што яшчэ сказаць.

Мёртвы кот гайдаўся на дзіравым пластыкавым даху з плексігласу.

– Кацячая калыска, – азвалася зноў тая, коратка стрыжаная.

Я належна ацаніў яе асацыяцыю і падзякаваў усьмешкай, зразумеў – мёртвы кацяк, што гайдаўся на пластыкавым даху, нагадаў ёй захапляльнае чытво.

– Курт Фонэнгут! – выгукнуў я імя і прозьвішча вядомага ёй – як мне падавалася – творцы.

– Бася, – прадставілася тады яна з усьмешкай і працягнула далонь.

– Эля, – назвала сваё імя другая кароткавалосая і таксама працягнула далонь.

Бландынку я, відаць, пераацаніў!

Яна прыняла мяне за асобу, што прагне навязаць знаёмства, а не каментатара яе асацыяцыяў.

Бо – тут падкажу, калі хтосьці не дапетрыў – «Кацячая калыска» – гэта вялікая аповесьць Курта Фонэнгута.

А «Каціная гармата» – як можна прачытаць у Інтэрнэце – гэта даволі жудасная гульня, у якой снарадамі зьяўляюцца ні ў чым не вінаватыя каты. Інтрыга там вельмі простая, трэба выстраліць катом як найдалей у поле, у лес, у космас! У час свайго палёту зьвярок можа абрынуцца на розныя прадметы, якія або хутка заканчваюць яго біяграфію, або выпраўляюць у далейшы палёт. Кіраваньне гульнёй – кажа інструкцыя – з дапамогай мышкі.

## ЛЫТКА, ЯЗЫК, ЛЬВОЎ

*Як жа па-рознаму праяўляецца жаночая страснасьць!*
*Клеменс Чапля – народны мысьляр зь Вільчырога*

*

Кепуру[12] ў Вроцлаве жанчына ўкусіла за лытку!

За лыткі звычайна кусаюць сабакі п’яніц і валацугаў, паштароў і камінараў, мужчын і кабет. Да нагі артыста дабрацца нялёгка! Тая, у Вроцлаве, павінна

12 Ян Кепура (1902-1966) – польскі сьпявак (тэнар) і акцёр. Набыў міжнародную славу, у Польшчы небывалую папулярнасьць яму забясьпечыў (выконваемы і зараз) шлягер:

Брунэткі і бландынкі,
Я ўсіх вас, дзяўчынкі,
Зацалаваць хачу!

была ўзьдзерціся на сцэну, упасьці на дошкі эстрады і паўзьці да яго ног! Ён яе бачыў, мог адштурхнуць, адсунуць, яго згубіла – я думаю – пыха! Хацеў мець яе ля сваіх ступакоў! Глядзець, як зьлізвае пыл зь яго чаравікаў, якія, калі ён сьпявае, хочуць цалаваць усе брунэткі і бландынкі. Гэтую ён недаацаніў.

Яна ж нечакана з паклоньніцы ператварылася ў вампіра і загнала свае маладыя, белыя зубы ў ягоную моцную лытку, і сык болю загучаў новым прыпевам.

*

Ян Пюра, вясковы лекар з Апатаўскага павету, прыняў 1000 родаў, склаў 500 зламаных рук, 300 ног і зашыў адзін язык. Лясьнічага! Перад гэтым язык апынуўся між вуснамі вастразубай Эдыткі. Я згадваю пра яе зь сімпатыяй. Калі б не яе жарснасьць, сьпіс посьпехаў доктара Пюра ня меў бы гэткага эфектнага водару.

*

– Кабет ня варта асьцерагацца, – казаў Ян Земскі, самы лепшы адвакат у перадваенным Краснымставе[13]. Заўжды вытанчаны, прыязны, у цудоўным капелюшы.Усьміхаўся краснастаўскім дзяўчынкам, вучаніцам, галантна кланяўся іхным настаўніцам, цалаваў ручкі ўсіх бабуль і цётак. А да дзяўчат езьдзіў у Львоў. Асабліва цаніў армянак. Яны маюць самы гарачы ў

13 Красныстаў – прыгожае павятовае мястэчка на рацэ з удзячнай назвай Вепж, на паўдарозе паміж Львовам і Варшавай. Там ніколі не бракавала прыгожых, гордых і адважных кабет. Адной зь іх, па-імені Рыфка, я шмат гадоў таму прысьвяціў апавяданьне «Антыгона з Краснагаставу».

сьвеце тэмперамент[14]. Армянак жа марна было шукаць у самой Варшаве, ня кажучы ўжо пра недалёкі ад Краснагаставу Люблін. Я думаў пра гэта цудоўнай восеньню 2013 году, калі і я паехаў паспытаць мёду на львоўскай вуліцы Армянскай.

# ПАСТРАЛЯЕМ

*

Яму было пятнаццаць гадоў, і ён быў каралём маёй вуліцы. Ягонай зброяй была рагатка. «Вісус, – казала пра яго мая маці, – забараняю табе зь ім сустракацца!» А я, сямігадовы, як канюк дажджу[15] прагнуў быць сьведкам яго «подзьвігаў». Пасьля апоўдня ён страляў па малочных і піўных бутэльках, расстаўленых на руінах Замкавай Гары. Пры меткіх стрэлах яны з трэ-

14 Пад уражаньнем тэмпэраманту армянак быў таксама Тадэвуш Бой-Жаленскі – паэт, перакладчык французскай літаратуры, лекар, сатырык і бабнік. Пра іх зачараваньні, вабноты і тэмперамент згадваў у сваіх творах. Бой скончыў сваё жыцьцё ў Львове. Калі стаяў перад расстрэльным зьвязам, ва ўнутранай кішэні пінжака меў фатаграфію маладзенькай армянскай паэткі Ганны Багасевіч. Куля, выпушчаная нямецкім жаўнерам, прыбіла тую фатаграфію да яго сэрца.

15 «Прагне, як канюк дажджу» – старая польская прыказка. Канюк жа – гэта прыгожы драпежны птах, які калісьці меў сьмеласьць пярэчыць Госпаду Ісусу. А было так: Госпад Ісус склікаў усіх птушак капаць канаву, па якой павінна была пацячы Вісла. Фанабэрлівы канюк адказаў, што працай не апаганіцца, бо можа запэцкаць пер’е. За пыхлівыя словы атрымала птушка цяжкое пакараньне: ня можа яна піць вады з рэк і сажалак, а праганяе смагу толькі кроплямі зь лісьця дрэў, кустоўя ды кветак. Адсутнасьць ападкаў выракае гэтых птушак на моцныя пакуты, таму кружацца яны над лясамі і лугамі і жаласнымі галасамі просяць у Госпада Ісуса дажджу: «Піць вады, піць вады!».

скам лопаліся, як арэхі пад малатком. Заўзятарам мог быць ня кожны, а даткнуцца да сваёй зброі дазваляў толькі абраным. Калі ён стрэліў па бяздомным сабаку, я шпурнуў у яго гнілым яблыкам. Нятрапны кідок ён успрыняў як аб'яўленьне вайны. Я здолеў уцячы, але быў вымушаны пільнавацца, каб ня трапіць яму ў рукі. Час ішоў, а я пазьбягаў кары, што выклікала ў ім злосьць. Неяк ён зьявіўся ля брамы майго падворка.

– Вазьмі пару бутэлек, – паклікаў прымірэнча, – пастраляем!

Я ня даўся выманіць сябе за муры крэпасьці, ведаў, што атрымаў бы аплявух. І нечакана ён зьнік з вулічнага ландшафта. Настаў час без караля. Выйшлі з моды рагаткі.

*

Ян Юзаф Шчапанскі, майстар прозы, неблагі альпініст і ўпарты вандроўнік, напрыканцы жыцьця запісаў гісторыю пасьляваеннага пахода. Малады і дужы, ён рухаўся хрыбтамі Татраў уздоўж польска-чэхаславацкай мяжы. Бесклапотна перасёк яе, ды вось няўдача – наткнуўся на чэскі патруль. Засаромеўся, вядома, як дзіцёнак, злоўлены ў суседскай маліне. Памежнікі маглі пажадаць добрага дня і пайсьці далей сваёй дарогай, але маглі і арыштаваць, абвінаваціць у шпіянажы ды нават застрэліць. Камандзір са зьдзеклівай усьмешкай на твары прапанаваў спаборніцтва ў стральбе. Паставіў на пянёк бляшанку з-пад кансерваў і прапанаваў затрыманаму пісталет. Той ня мог адмовіцца,

і ня мог стрымаць трымценьня рук[16], так што сьхібіў. А чэх бліснуў трапным стрэлам. Задаволены сабою, а можа і пярэпалахам турыста, ласкава дазволіў яму вандраваць далей.

*

У той час, калі Шчапанскі пісаў апавяданьне пра прыгоду ў гарах, я хадзіў па Афрыцы. У Алжыры трапіў у аўтамабіль да аднаго афіцэра, мы праехалі 200 кіламетраў праз пустыню Эрг Шаш, жоўты колер рэзаў вочы, да скуры прыліпаў пясок. У нейкую хвіліну ён спыніў аўто, я не выключаю, што адчуў стомленасьць.

– Страляць умееш? – зьдзівіў ён мяне пытаньнем.

– Умею, – запэўніў я. Нешта ж павінен быў сказаць?

– Дык пастраляем! – сказаў хутчэй сабе, чым мне. Я яшчэ не разумеў. Зразумеў, калі на заднім сядзеньні заўважыў прыкрыты посьцілкай карабін, добра знаёмую мне разнавіднасьць Калашнікава. Выграб з багажніка пяць бляшанак з-пад піва. – Усталюйце іх, – рукою з карабінам паказаў на прастору перад намі. Я пайшоў уперад, а ён за маёй сьпіною – я гэта выразна чуў – адцягнуў затвор карабіна. «Стрэліць у сьпіну!» – мільганула ў маёй галаве, і я ўжо хацеў упасьці на зямлю, паўзьці, або – гэта таксама мільганула – уцякаць скачкамі, зігзагам! «Пакуль што ня стрэліць, – пераконваў я сябе, – труп захоча кінуць у пясках, далей ад

16 *Лягчэй* – так кажуць – выстраліць у чалавека узброенага, чым безабароннага. Шчапанскі пра гэта ведаў, таму нічога дзіўнага, што прыняў прапанову зброі – на шчасьце памылкова – за кепскае прадвесьце. Таму зразумела, што ўзрадваў яго трапны стрэл чэскага жаўнера.

шашы. Так што я маю яшчэ хвілінку жыцьця. Як яго захаваць? Яшчэ крок, можа, два, тры, а тады – на зямлю!» Пот заліваў мне вочы. – Досыць! – закрычаў ён.

Я павярнуўся. Не, ён у мяне ня меціўся. Трымаў карабін руляй угору. Я ўсталяваў бляшанкі. Ён выстраліў, калі я вярнуўся. Пацэліў па чатырох, прастрэленыя блямкнулі, а пятую куля не зачапіла. Тады падаў карабін мне. Я застрэліў пятую і прашыў кулямі тыя чатыры, ужо зьнявечаныя ім.

– А вы хто? – вырвалася ў яго пытаньне – па-расейску, вядома, – бо вучылі яго ў Маскве.

– Настаяшчый снайпер[17], – прамармытаў я таксама па-расейску, бо нешта ж трэба было сказаць?

## ГОЛАЯ КАБЕТА НА СТАЛЕ, БАЛКОНЕ І СТАДЫЁНЕ

*

Блакітнавокая Флорка, самая прыгожая дзяўчына вёскі Домбе, стала жонкай Антона.

Антон меў душу мастака, выдатна сьпяваў, здолеў выстругаць з драўляных калодаў галаву каня і сьвятога Яна Непамуцкага. Фігурку сьвятога ён разьмясьціў у капліцы ля ручая, а дзьве конскія галавы – ля веснічкаў сваёй сядзібы. Ксёндз, што высьвячаў фігурку, быў

17 Настаяшчый снайпер – сапраўдны снайпер.

Хто мяне ведае – ведае, што я не прыдумляю. Я страляю, як мала хто. Дыпломы за перамогі ў стралковых спаборніцтвах займаюць паўсьцяны майго пакою. Ды і ў войску ня меў сабе роўных, з гранатамётаў разьбіваў – як ніводзін іншы жаўнер – макеты гармат, танкаў і бронетранспарцёраў.

ад разьбы ў захапленьні. А нехта Раман Мэдай быў ня здатны а ні сьпяваць, а ні выразаць. Затое ўмеў ціха, як кот, хадзіць і вечарамі заглядаў у вокны хацін. Займаўся гэтым у дзяцінстве, не перастаў і вярнуўшыся з войска. Ведама, калі ў хаце сьвеціць лямпа, а на вакне няма фіранкі, то відаць ўсё, што робяць гаспадары. Адзінае вакно Антонавай хаты выходзіла на падворак. Няпрошаны Раман Мэдай пералез праз паркан з арэшніку, падпоўз да вакна. І што ўбачыў?

Голую Флорку на стале! Антон сядзеў на крэсьле і ўглядаўся ў сваю аголеную жонку.

Любаваўся яе цыцкамі, пупком, крутымі клубамі.

Раман таксама мог палюбавацца, але палічыў за лепшае пастукаць у вакно.

Сапсаваў захапленьне гаспадара, той ускочыў, задзьмуў лямпу і схапіўся за кій.

Але няпрошаны госьць даў лататы і рагатаў наводдаль.

Я думаю, яго больш зацікавіла ганьба Антона, чым галізна Флоркі.

Але бывае і так.

Калі б не пастукаў, што ўвогуле нядобра, ніхто ніколі мне гэтай гісторыі не распавёў бы.

*

Быццам бы нічога надзвычайнага, – сотні, а то і тысячы аголеных кабет красуюцца або загараюць на балконах. Ганна З. не была такой ужо маладой, і выстаўленьне на публічны агляд сваёй галізны магло

шакіраваць, тым больш, што – як кажуць некаторыя жыхары горада К. – было гэта ў час, калі пад яе балконам адбывалася першамайскае шэсьце на галоўную гарадскую плошчу. Былі і такія, што сьцьвярджалі: агаленьне мела месца не ў час травеньскай маніфестацыі, а ў час пахаваньня. У жніўні 1964 года ў К. хавалі першага сакратара партыйнага камітэту рабочай партыі, таварыша Зьдзіслава Д. Пахаваньне было сьвецкім, так што крыжа, ксяндза і пабожных сьпеваў не было. Таксама не было і кашчуннііцтва, была – як я думаю – пахавальная працэсія.

Казалі мне, што таварыш Зьдзіслаў неяк спакусіў Ганну і кінуў, як і шмат іншых кабет раней. Каханцы павінен быў паспрыяць наконт жытла. Не паспрыяў. «Калі б за сэкс я плаціў жыльлём, то быў бы вымушаны пабудаваць горад, нейкі Сэксопаль, Сэксаград, Любошчу Волю!» – выхваляўся ён перад калегамі.

Не перастае мяне мучыць цікаўнасьць: каму яна хацела нагадаць сваёй галізной пра нявыкананую абяцанку: таму, які на чале шэсьця, ці каторы ляжаў у труне?

Натуральна, голай жанчынай зацікавілася каманда мясцовага пастарунку муніцыпальнай міліцыі. Было дапытана некалькі, ці можа больш за дзясятак удзельнікаў шэсьця (пахавальнай працэсіі?), ды ніводзін не пацьвердзіў прысутнасьці на балконе голага чалавека. Магчыма, дапытваемые вырашылі трымаць язык за зубамі, бо ў мястэчку распаўсюдзілася чутка, што

таго, хто данёс пра дэманстрацыю галізны на балконе, лёс пакараў стратай зроку, гэта – адзін у адзін – нагадвае ангельскую гісторыю Падглядваючага Тома[18].

*

А зараз прыйшоў мне ў галаву выпадак з футбольнага матча на лонданскім стадыёне. У час перапынку гульні Чэлсі-Манчэстар на поле выбегла галюткая дзяўчынка! Некалькі дзясяткаў метраў праляцела ў суцэльнай цішыні, бо пяцідзесяці тысячам мужчынаў заняло ў грудзях дух. Паглядзець было на што – смуглыя ногі, зграбныя цыцкі, жывот з вокам-пупком. Пасярод поля зрабіла зорку, такую гімнастычную фігуру, стала на рукі, некалькі хуткіх махаў нагамі ў паветры, але, каб утаймаваць галізну, ужо беглі праваахоўнікі… Накінулі на яе плечы мужчынскі пінжак.

Я на ўласныя вочы бачыў гэта па тэлевізару і магу прысягнуць, бо ўпэўнены: гэта была Сусана Й. зь Любліна. І яшчэ скажу, бо не тоячыся ганаруся, што да тых грудзей, якія агаломшылі міліёны тэлегледачоў, я калісьці датыкаўся рукою…

18 Паводле старажытнай ангельскай легендзе з папулярнай балады сямнаццатага стагоддзя, граф Леафрык наклаў на сваіх арандатараў непамерныя падаткі. На абарону арандатараў стала жонка графа – лэдзі Гадзіва. Граф насьмешлівым тонам паабяцаў пратэстуючай жонцы, што зьнізіць накладзеную даніну, калі яна голай конна праедзе па вуліцах горада. Умова была выканана, жанчына доўга не думала: галюткай села на каня і паімчалася па вуліцы. Муж слова стрымаў. У творы сямнаццатага стагоддзя адзначана, што жыхары засталіся ў дамах і, каб ня бачыць ганьбы лэдзі Гадзівы, зачынілі аканіцы. Салідарнасьць парушыў толькі адзін кравец, Падглядваючы Том. Аўтары ангельскіх баладаў казалі, што рок пакараў яго сьлепатой.

# АКТРЫСА, СЬПЯВАЧКА, ТАНЦОРКА

*

Яна была зоркай студэнцкага тэатра «Рампа», а яшчэ маёй каляжанкай. Мы вучыліся ў правінцыйнай навучальнай установе, абменьваліся ў калідоры ўсьмешкамі, а аднойчы нават шматабяцальным поціскам далоняў. З фурорам іграла ролю Эўрыдыкі[19]– у павязцы на клубах, з правакацыйнымі грудзямі, прыкрытымі толькі махрамі ашыйніка. Выклікала энтузіязм мужчынскай часткі аўдыторыі[20]. Я бачыў яе на сцэне тройчы, а наш калега Вальдусь Б.[21] не прапусьціў ніводнага сьпектакля. Яе ўзнагароджвалі на студэнцкіх фестывалях у Лодзі і Шчэціне. Экзамены яна здавала

---

19 Міф пра Эўрыдыку і Арфея ўпадабалі творцы оперы. Самая папулярная – «Арфей у пекле» Жака Афенбаха, з посьпехам іграецца па сёньня. Пантамімічная камедыя «Арфей у раі», у якой мы глядзелі нашу каляжанку, бяз сьледу зьнікла з рэпертуару польскіх тэатраў.

20 З сорамам, нават са зьбянтэжанасьцю мушу адзначыць, што гэта былі асаблівыя часы, а менавіта гады сярмяжнага сацыялізму. Пра танцы на трубе нікому і ня сьнілася, не было каляровых эратычных часопісаў, стрыптыз, модны на недасяжным Захадзе, у Польшчы быў вядомы толькі з аповедаў і французскага фільма «Варажба на рамонку» зь дзёрзкай роляй Брыжыт Бардо. У Любліне, дзе заўжды сумавалі па еўрапейскай атмасферы, першы стрыптыз выканаў мужчына, вядома пераапрануты ў кабету, пра што я згадваў у кніжачцы «Любельскія прыказкі». А на сцэне студэнцкага тэатру, у сьпектаклі «Арфей у раі», – узмахі клубоў і голыя цыцкі маёй каляжанкі!

21 Кола маіх студэнцкіх калегаў і прыяцеляў утваралі людзі розных фармацый, інтарэсаў і поглядаў. Былі сярод іх бабнікі і спартоўцы, бунтары і паэты, навукоўцы і мастакі. Вальдуся Б. цяжка палічыць бабнікам, ён у той час быў кімсьці накшталт камердынера прыгожай акторкі. Сёньня з таго кола шырока рэкрутуюцца палітыкі, навукоўцы зь міжнароднай славай, таксама трапляюцца чэмпіёны і падзёншчыкі пяра, а яшчэ бізнэсоўцы і калекцыянеры. Вальдусь Б. ганарыцца зараз вядомай, як доўгая і шырокая Польшча, калекцыяй мужчынскіх запінак.

бяз цяжкасьцяў, прафесары паслужліва ставілі пяцёркі, белагаловыя навукоўцы, што даволі рэдка, не былі глухімі да яе жартаў і інтэлекту. «Я зраблю навуковую кар’еру! – сьмяялася яна пасьля чарговага посьпеху. «Пойдзем на канцэрт?» – зьвярнулася да мяне. Я не скарыстаўся запрашэньнем, і прызнаюся, што шкадую па сёньня. Яе спакусіў самаўпэўнены выпускнік сельскагаспадарчай ВНУ, здаецца ветэрынар, і неўзабаве яны ажаніліся ў павятовым мястэчку. Неяк я праязджаў – на шляху да Львова – праз Тамашоў і ўгледзеў яе на рынку, калі вяла на шпацыр дваіх малых дзяцей[22].

*

Ліпеньскім вечарам 1936 году граф Ян Казьмян дэ Жэчыца на сцэне аднаго з варшаўскіх летніх тэатрыкаў заўважыў чароўную артыстачку, і сэрца яго – як сьпявалі ў моднай тагачаснай песеньцы – дало знак, што гэта менавіта тая, так што а ні хвілі не марудзячы ён пасьля сьпектаклю пастукаў у яе грымуборную.

Ён прывалок вялізны букет кветак і запрасіў актрысачку на вячэру. Каляжанкі пазелянелі ад зайздрасьці, Лілія Ткачык – бо гутарка пра яе – зьнямела.

22 Калісьці даўно ў любельскім літаратурным часопісе «Камена» было апублікавана маё апавяданьне «Кабеты, якіх шмат». Неўзабаве ў рэдакцыю папулярнага двухтыднёвіка прыйшоў ліст з Тамашова, аўтарка якога, не шкадуючы мне абразаў, падвергла твор суровай крытыцы. Крытыка падалася рэдактару занадта згушчанай і агіднай, і карэспандэнцыя не была надрукавана. Сапраўды, ніхто ў той час яшчэ не абкідваў літаратурных і палітычных праціўнікаў градам лаянкі і абразаў. Прозьвішча аўтаркі для рэдактараў «Камены» гучала незнаёма, але не для мяне, гэта была ЯНА. Ліст, перададзены мне рэдактарам, я захаваў і часта яго дастаю. Лаянка перастала мяне ўражваць, сёньня я бачу ў ім ноты бунту, жалю і горычы, што я застаўся на шляху, які вядзе – як падалося аўтарцы – да мастацтва дзеля забавы.

Яна не іграла галоўных роляў, была адной з харыстак, так, выклікала сярод мужчын захапленьне, бо маладзенькая, прыгожанькая, вабная. А тут раптам граф. І які! У квітнеючым узросьце, прыстойны і казачна багаты! І не затрымаўся з прапановаю.

Графы выбіралі сабе жонак зь іншых сьфераў. Крэз з-пад Любліна задарма меў багатых нявест з асяроддзя дачок землеўладальнікаў ці прамыслоўцаў. А выбраў сабе акторачку і гатовы быў да мезальянсу. Сёньня пра мезальянс гаворыцца няшмат, а раней гэта была тэма для размоваў і раманаў.

Лілія Ткачык стала паняй на любельскім узвышшы. Гэтай прыгожай пары колькі гадоў таму я прысьвяціў неблагое – як мне здаецца – апавяданьне «Пракажоная з узвышша»[23].

*

Фідэль Кастра, правадыр Кубы ў 1959-2008 гадах, падчас візіту ў Савецкі Саюз пагляядзеў у маскоўскім тэатры «Лебядзінае возера». Яго ўвагу прыцягнула маладая балерына, і ў час антракту ў гутарцы з савецкімі таварышамі ён не хаваў сваіх мужчынскіх эмоцый. Сябры праявілі разуменьне зацікаўленасьцямі кубінскага госьця. А можа хацелі паказаць, што ўмеюць рабіць вялікія сюрпрызы, або што для іх няма немагчымага? Яшчэ тым вечарам балерына была выкрадзена і дастаўлена на Кубу,

23 «Пракажоная з узвышша». Апавяданьне я разьмясьціў у томе «Раман у Любліне», а да напісаньня яго мяне натхніў партрэцік Ліліі Ткачык-Казьмяновай, выстаўлены ў шынку «У Юзка» у Пясках пад Люблінам, дзе гатуюць знакамітыя рубцы. Партрэцік, што выйшаў з-пад рукі мясцовага творцы, зьявіўся ў апошнія гады дваццатага стагоддзя, і без сумневу сьхіляе да разважаньняў, што пра каханьне графа да актрыскі ў тых ваколіцах памятаюць і па сёньня.

дзе ёй давялося правесьці 30 гадоў. Гэтую інфармацыю я пачуў па Польскім радыё праз дзень пасьля сьмерці Фідэля, калі адмыслоўцы розных профіляў дзяліліся поглядамі пра жыцьцё, палітыку, барацьбу і сімпатыі кубінскага рэвалюцыянера[24].

## АМАЗОНКІ: ЧОРНАЕ МОРА, ДЭЛЬТА ДУНАЮ, ПАЛЯНА Ў РЫЧЫВОЛЕ

*Яны паходзілі ад бога Арэса і німфы Гамоніі. Бачылі іх на берагах Чорнага мора, у Тракіі, на беразе Дунаю, таксама ў гарах Каўказа. Рэдкай адвагі, яны стваралі супольнасьць выключна жаночую, мужчынамі пагарджалі. Умелыя ў забойстве, бывала давалі лупцоўку арміям гладыятараў. Нашчадкаў процілеглага полу зьнішчалі, дзяўчынак жа дасканалілі ў ваенным мастацтве…*

*

У краіну амазонак, на Чорным моры, плаваў, калі верыць міфам[25], Геракл, каб зьняць пас з каралевы

24 У Польшчы, як я думаю, камуністычныя ўладары краіны на падобныя падарункі напэўна не здолелі б рашыцца. Зрэшты ў Польшчы Фідэля Кастра запрасілі не ў тэатр, а толькі на трэніроўку баськетбалістаў кракаўскай «Віслы», зь якімі ён цэлую гадзіну забаўляўся мячом.

25 Геракл быў народжаны ад Зеўса яго зямной каханкай, каралевай Алькменай. Гера, сужонка Зеўса, узьненавідзела сваю зямную суперніцу, зайздросьціла ёй з-за сына, на якога наводзіла ўрокі, злыя сілы і вырадкаў у чалавечай і зьвярынай скуры. Здарылася так, што Геракл у прыпадку шаленства забівае сваіх жонку і дзяцей. У якасьці пакараньня яму прыйшлося пайсьці на службу да караля Эўрысфея. Той даручыў герою выканаць дванаццаць дзеяў, дзявятым даручэньнем было выкраданьне паса Іпаліты, каралевы ваяўнічых амазонак. Той пас – ім Геракл упрыгожыў плячо – даваў каралеве звышчалавечую сілу.

Гіпаліты. Быў не адзін, меў на сваім баку Тэзея і тры тузіны герояў, зь якімі мог бы ваяваць супраць каралеўстваў, уладароў і міфічных пачвараў. Амазонкі, як кажуць паэты, аказаліся на зьдзіўленьне прышэльцаў прыязнымі, какетлівымі і мілымі. Зладзілі баль, былі гатовыя ня скнарнічаць сваіх вабнотаў, і можа скончылі б п'яной забавай, страшна падумаць – оргіяй, ды Гера, непрыязная да Геракла, наслала на ваярак шал. Скончыліся заляцанкі, кінуліся да зброі, каралева загінула, героі ратаваліся ўцёкамі, бо насоўваліся ўжо атрады амазонак, якія не пацалункаў прагнулі, але крыві.

*

Антон Сарока мае хату ў вёсцы Рычывол, садок, гаваркую жонку, якую ніколі ня ўдарыў і не штурхнуў.

І гады, што прыгнулі яго да зямлі.

Калісьці даўно меў яшчэ каня, кароў, гектары для засяваньня ячмянём і жытам.

«Сёньня я магу прызнацца ў адной прыгодзе, – сказаў ён мне летась, калі я зьявіўся на яго падворку. – Самому ў гэта цяжка паверыць, ды і ў словы апрануць нялёгка. Быў цудоўны вясеньні дзень, сьвет пахнуў ветрам і ральлёю. Я ўжо паўдня араў на ўзгорку каля лесу, і таму дазволіў каню і сабе адпачыць. Расьсеўся, разбуўся, высыпаў з ботаў грудкі зямлі, сіўка шчыкаў траву, над галавою зьвінеў жаўрук, і тут зь ляснога гушчару высунулася кабета на кані. Я думаў, што пані, бо яна любіла самотныя

шпацыры, але гэта была ў кароткім халаце, я бачыў адкрытыя моцныя ногі, а калі ўжо паблізу ад мяне сасьлізнула з конскага хрыбта, заўважыў я – цяжка было ўтрымацца – яе голыя седаўкі. Я глядзеў на гэтую зьяву з адкрытым ротам, калі яна падыйшла, упёрлася босай нагой у мае грудзі ці плечы і з незвычайнай сілай паваліла на зямлю. Расьселася на мне як на снопе збожжа, я ледзьве мог дыхаць. І не было ў мяне волі, а можа і сілы, каб яе зь сябе ськінуць. Ніхто ў жыцьці мяне гэтак не зьняважыў і ня зганьбіў. Пад канец сказала яшчэ, маўляў калі падымеш руку на сваю бабу, будзеш целяпацца на тым дрэве, і яе палец паказаў на разложысты дуб. Я бачыў яе, а можа да яе падобную яшчэ, мільганула на кані каля лесу.

– Ня ведаю: спачуваць, ці зайздросьціць? Што за яна? – Вырвалася ў мяне пытаньне.

– Амазонка, пане, амазонка!

*

У дэльце Дуная, удалечыні ад людзей, калі я аднойчы летам назіраў птушак, нечакана зьявілася побач са мной маладзенькая кабета, з дробнай фігурай, але пругкая, я б сказаў мускулістая, у кароткай спаднічцы, баваўнянай блузцы, пад якой я не заўважыў станіка. «Зашый мне сандалію, – зьвярнулася яна да мяне, – дратву знойдзеш у вёсцы, гэта са

тры вярсты[26] адсюль, калі пасьпяшаешся, вернешся засьветла!»[27]

Я ў знак супраціву пагардліва ўсьміхнуўся. Хацеў адысьці, але заўважыў сьціснутыя ад злосьці вусны і на пяску вялікі камень, на які ўпаў яе позірк. Ня ведаю, адкуль узяўся гэты імпульс, але я пабег і далёка яго адкінуў, яе позірк палымнеў гневам, на працяглы сьвіст з зарасьцяў трысьнягу, у якіх хвіліну назад шнарылі птушкі, высунуліся дзявочыя галовы. Дзесяць, а можа дванаццаць. Я больш не чакаў. Бягом рушыў у бок вёскі, дзе меўся знайсьці дратву. Я заўсёды быў спрытны ў бегу, уцёк бяз цяжкасьцяў. Распавядаю гэта не саромячыся. Геракл жа таксама ратаваўся ад Амазонак уцёкамі[28]. Ён даваў драла на карабель, я знайшоў паратунак ля крамкі, дзе некалькі мужчынаў частаваліся віном.

26 Тэрмін «вярста» ўжо ніхто не ўжывае, гэта даўнейшая расейская мера адлегласьці, налічвае каля 1067 метраў.

27 Зьвярнулася да мяне па-расейску. Яе расейскія фразы гучалі можа ня так складна, як пагрозна, я прыводжу іх у маім вольным перакладзе.

28 Уцёкі не прынесьлі Гераклу ганьбы. Старажытны выраз «nec Hercules contra plures» (няма Геркулеса супраць некалькіх) апраўдвае адступленьне перад пераўзыходзячымі сіламі праціўнікаў. Сучасьнікі падзяляюць гэты погляд, лацінскі зварот дачакаўся шматлікіх пераробак, я працытую – як думаю – самыя сьмешныя: «Не паможа Геркулес, калі ворагаў лес», ці вельмі сакавітыя: «Геракл лох – калі ворагаў што блох», або «Геркулес да дупы, калі ворагаў купы»!

# МАЕШ, БАБА, ШАФУ!

Маеш, баба, торт! – гэта выслоўе вядомае ва ўсёй Польшчы. Тым зграбным зваротам азначаецца клапатлівая сітуацыя, а такіх у жыцьці даволі.

Маеш, баба, кофту! – гэтымі словамі падсумоўваецца раптоўны, нечаканы і непрыемны зьбег акалічнасьцяў. Але ўжо не на абшарах усёй Польшчы, а толькі на Люблінышчыне.

Маеш, баба, шафу! – гаворыцца выключна ў Мотычы, што каля Лювліна.

Адкуль у выслоўях торт, кофта, скуль шафа?

Зь незвычайных і пацешных сітуацый, непрадбачаных і трагічных, можа і трагікамічных. Адна зь легендаў распавядае, што Сьвентакжыскі чорт Маўчун вырашыў падурэць. Чортава мянушка можа падказваць, што гэта нелюдзень, грубая істота, але ў дадзеным выпадку нічога падобнага. Нячысьцік гарнуўся да людзей, быў дасьціпны, хітры, падступны і свавольны. Неяк вырашыў пасварыць дружных сужонкаў. Вядома, чорт для сваіх мярзотных дзеяў выкарыстоўвае жанчын. Ня тут будзе сказана, што калі чорт сам ня можа, то бабу пашле. Маўчун скарыстаўся паслугамі хітрай бабы, якой паабяцаў торт за працу. Выконваючы заданьне, яна пасварыла двух чалавек, тыя так разьюшыліся, што адна ухапіла вілы, другі сякеру, засталіся два трупы. Чарцяка – як кажа легенда – не такога фіналу чакаў. Сярдзіты на сябе, сярдзіты на

бабу, пайшоў прэч са Сьвентакжыскіх Гор, кажуць, у высокія Татры. Але за працу заплаціў. Торт, які абяцаў за работу, павесіў на высокім дрэве. Хітрая баба не зьбіралася адмаўляцца ад узнагароды, залезла на дрэва, звалілася і скруціла сабе шыю.

На Любліншчыне арганізатарам блытаніны меўся быць чорцік Кіха. Той у якасьці ўзнагароды за сварку сужонкаў з-пад Коньскаволі абяцаў бабе кофту. І тут таксама атрымалася падобнае няшчасьце. Мабыць, і на Любліншчыне людзі былі зьвяглівыя, палкія, а чэрці ўражлівыя, запазычанасьці выплочвалі сумленна, за кепска выкананае заданьне гатовыя несьці кару, строгія да сябе. Чорцік Кіха, засмучаны фіналам, якога не прадбачыў, даў лататы, здаецца, у растачанскія лясы. І сядзіць там па сёньня.

А скуль у віслоўі шафа?

Зусім нядаўна, у часы апошняй вайны, у Мотычы пад Люблінам жылі сабе ў згодзе і ня самыя бедныя, сужонкі. Надыйшоў 1944 год, набліжаліся чырвонаармейцы, іх прыход абвяшчалі гарматныя раскаты з усходу. Гаспадар пакінуў сядзібу, там яшчэ стаялі немцы, у хатах быў шпіталь, на лугах табары, гатовыя да адступленьня. Настаў такі ранак, што ўжо не было немцаў і яшчэ не было расейцаў. Мужчына і жанчына глядзелі на пустыя дарогі і кінутую сядзібу на даляглядзе.

– Запрагай у воз коней і бяры зь сядзібы, што там засталося! – даручыла мужу кабета. Не марудзіў, і што там знайшоў, пагрузіў. Гаршкі, слоікі, зношаныя анучы,

лавы і дзьве шафы. Ужо на сваім падворку, калі адчынілі шафы, аслупянелі ад жаху. У іх былі два трупы. Вайна – гэта вайна. Зрабіць труну не заўсёды быў час. Часьцяком бывала, што немцы хавалі сваіх жаўнераў у скрынях, куфрах ды і ў шафах таксама. Двух загінулых, ці памерлых ад ранаў, пахаваць ня здолелі. Гэта вымушаны былі зрабіць гаспадары з-пад Мотыча. Зь іх сьмяялася ўся вёска, бо непрыемную прыгоду не ўдалося захаваць у таямніцы. І адразу ўзьнікла прымаўка.

## ЧАТЫРЫ ЎВАСАБЛЕНЬНІ САФІІ О.

*Сафію О. я ведаю ў твар. Яна зьяўляецца ў месцах, якія я люблю і дзе часта бываю: у кавярні «Сьвітанак», кінатэатры «Космас», саскім садзе. Некалі ў кнігарні «Альбатрос» яна чытала свае вершы.*

*Так што яна паэтка, мае мужа, ня ведаю, ці ёсьць дзеці.*

*Аднойчы ў бібліятэцы загарадзіла мне дарогу:*

*– Ведаю пра цябе больш, чым ты думаеш, – аб'явіла яна. – Хачу, каб ты таксама тое-сёе ведаў пра мяне! Я на гэтым сьвеце ўжо чацьверты раз! Разумееш? Не разумееш! Дык паслухай!*

*

У 1675 годзе я была іспанскай князёўнай, і ў сваю пятнаццатую вясну нешчасьліва закахалася. Нешчасьліва таму, што маім абраньнікам быў вандроўны фокусьнік.

Мы ня здолелі ўцячы, і бацькі аддалі мяне ў кляштар. Я памерла з роспачы праз тры гады ад нікому не вядомай хваробы, хоць той-сёй наўпрост казалі, што, пэўна, ад журбы ды жалю. Пасьля мяне засталося сто шаснаццаць баладаў. Іх сьпяваюць да сёньня, а ніхто ня ведае, што іх аўтарка – гэта я. Учора я пачула адну зь іх па радыё ў выкананьні самаго Жоржа Брасанса!

*

Векам пазьней я зьявілася зноў. У 1796 годзе я мела шаснаццаць гадоў і першага мужа. Мы вандравалі па прэрыях Амерыкі. На рацэ Агасіз мужа застрэліў і на маіх вачах скальпіраваў індзеец. У ягоным намёце я выраблляла скуры і вэндзіла мяса.

Пальцы мае загрубелі, а пазногці зрабіліся як кіпцюры. Я думала, што ператваруся ў мядзьведзя. Не, нічога такога не зрабілася, а неяк на нас напалі невядомыя мужчыны, адзін забраў нашых коней, другі – скуры і зброю, а трэці – мяне. Мы адышліся ў аддаленае месца, дзе ў нізіне стаяў драўляны дом, а далей былі горы ў белых сьнежных шапках. Ён быў добры да мяне, пасьля дзевяці месяцаў я памірала ад родаў, а ён плакаў нада мною. Ты можаш сабе ўявіць, што я сумую па ім так, як ні па кім іншым?

Адкуль я гэта ведаю? Са сноў! З кожным чарговым я даведваюся ўсё новыя рэчы!

*

Сто пяцьдзесят гадоў таму ўсе захапляліся маімі бліскучымі вачыма, сьветлымі валасамі і танклявай

паставай. Я не падазравала, што мяне задушыць бандыт, наняты каханкаю майго мужа. Ён накінуўся, калі я адна была на кухні, і сьціснуў пальцы на маёй шыі. Я пасьпела заўважыць, што падабаюся яму, і разарвала сукенку такім чынам, каб агаліць грудзі. Ён не ўтрымаўся, каб іх не памацаць. А калі рассмакаваўся, я ўдарыла яго збанам. На жаль вельмі слаба, зьнепрытомнеў толькі на імгненьне, я не пасьпела ўцячы. Я добра зрабіла, што прычыніла нягодніку боль, аблегчыла яму забойства, ён забіваў ужо не за грошы, а з-за нянавісьці. Так што я доўга не пакутвала.

Навошта гэта кажу? Ты нагадваеш мне таго бандыта!

## ДВА ФІЛЬМЫ І АДНА МАЯ ПРЫГОДА

*Люблю я кіно. Зь некалькіх маіх прыгодаў атрымаліся б някепскія фільмы. Пра пару зь іх распавяду, але спачатку пра ўбачанае ў кіно…*

*

Яны спаткаліся ў аўтобусе. Яна – капрызьлівая дачка мільянера, ён – наравісты журналіст, выкінуты з працы. Мільянерка – о, іронія! – без шэлега за душой, а наперадзе – доўгае падарожжа ў Ню Ёрк да хвацкага лётчыка, зь якім таемна ад бацькі ўзяла шлюб. Журналісту, вядомая рэч, дзяўчына спадабалася, але ў ягонай галаве не заляцанкі, у яе ўцёках да мужа ён

унюхаў свой шанец. Гэта тэма для артыкула, не – нават для цыклу артыкулаў, што страсянуць Амерыку[29]. Ён прапануе дапамогу ў безграшовым падарожжы, зьяўляецца ў час уцёкаў цудоўным паплечнікам, з уласьцівай яму абаяльнасьцю ўмее прыдбаць танны пакой, сьціплы сьняданак, здабыць месца ў перапоўненым аўтобусе. Быццам бы дробязі, але значныя. Прыгода нараджае прыгоду, кожная сцэна ператвараецца ў жарт, дасьціпная гульня словамі. Жанчына выяўляе, што лёгкасьць, шарм, дабразычлівасьць – гэта вартасьці, якія пераўзыходзяць багацьці мільянераў. Яна рамантычная, і выбірае казку, прыгоду, адмаўляецца ад мільёнаў…

*

Гэта здарылася ўлетку. Князёўна Ганна са сваёю сьвітай дасягнула Тыбра. Вядома – усе дарогі вядуць у Рым. А там даўно ўжо прыгоды і раманы адбываюцца прасьцей, чым дзесьці ў іншым месцы. У першую ж ноч яна адна выходзіць у горад, адкрывае прыгажосьць вуліц, цэркваў і палацаў, стомленая, знаходзіць сабе начлег на лаўцы ў парку. Над сьпячай

29 Я распавядаў пра дзьве рамантычныя камедыі, «Іх ночы» і «Рымскія вакацыі», фільмы зачароўваюць лёгкасьцю, абаяльнасьцю і дасьціпнасьцю. У «Начах» ён і яна пераконваюцца, што створаны адзін для аднаго, у «Рымскіх вакацыях» – як і ў жыцьці – рамантычная прыгода прынцэсы, хай сабе нават і з самым вартым журналістам, не павінна скончыцца на шлюбным ручніку, расставаньне зьяўляецца найбольш праўдападобным і нават пажаданым. Галоўнае, каб ніхто не адчуў сябе абражаным! І так адбываецца. Абодва бакі знаходзяць прыгожыя формы растаньня. Кранальныя і шляхетныя. Але калі прыгода, якая магла стацца раманам, пакінула столькі пачуцьцяў і ўздыхаў, то – я так думаю – гэтага нямала!

зьяўляецца не дворнік зь мятлой, а журналіст, што ідзе не ў рэдакцыю, а дахаты. Прапануе адпачынак у сваёй кватэры, ванну, сьняданак… Тая не адмаўляецца. Дзяўчына – аб чым пацьвердзіць наступны дзень – мае тэмперамент, абаяльнасьць і адвагу… Зьяўляецца ідэальным кампаньёнам у авантурах.

Але час сплывае не толькі ў забавах. Журналіст, амбітны, прыгожы, а яшчэ кемны і надзелены інтуіцыяй, перш чым прайшлі суткі, зразумеў, каго прыймаў ў сябе. Князёўну на вакацыях! Цяпер можна зачараваць чытачоў апісаньнем княскіх капрызаў, выбрыкаў, лаянак і захапленьняў. Лёс даў яму шанец, аб якім ён ня мог і марыць, слава і грошы знаходзяцца на адлегласьці выцягнутай рукі. Дастаткова толькі выкрыць асобу, якой даў прытулак на ноч…

*

Мы спаткаліся перад апоўднем ў рэстаране гатэлю ў Луцку, ва Украіне. Я не сьпяшаўся, толькі пасьля абеду павінен быў чытаць у адной з тутэйшых бібліятэк свае вершы і распавядаць пра чытво палякаў, пра нашу дасьціпнасьць і ціхмянасьць. Зь вялікай залы даносіўся пах кавы, я агледзеўся: наведвальнікаў было няшмат, над талеркамі сьхіліліся дзьве ці тры асобы. Але! Адна зь іх, маладая дама, паднялася і пачала энергічна клікаць мяне знакамі паднятай уверх рукі. Я адказаў гэткім жа прыемным жэстам. З папярэдніх візітаў я ведаў тут шмат каго, але гэтага прыгожага твару прыпомніць ня мог. А дзяўчына вітала мяне як

добрага знаёмага. «Гэта добра, што мы спаткаліся, – какетліва сказала яна. – На здымках ты трохі інакшы, нібыта маладзейшы, але табе насамрэч не бракуе мужнасьці і элегантнасьці. Трымаешся няблага, бадзёра. Можа ты галодны? Тут ёсьць выдатныя дранікі!»

Толькі праз некалькі хвілінаў я зразумеў, што яна прымае мяне за кагосьці іншага. Фактычна яна дамовілася сустрэцца тут з аргенцінцам, які сярод маладых украінак шукаў кандыдатку ў жонкі. Я сказаў, што прыбыў з Польшчы і жонкі не шукаю! Гэта ня зьбіла яе з панталыку. «У цябе прыемная ўсьмешка і пэўна добрае сэрца. Нічога не кажы, я ведаю людзей! Нават калі ты толькі напалову гэткі багаты, як кажаш, я гатова дзяліць з табою ложак і жыцьцё!»

Я не хацеў яе ад сябе адштурхоўваць. Павольна, вельмі павольна я еў другую порцыю дранікаў, бо зразумеў, што толькі час зьяўляецца маім саюзьнікам. На самой справе праз гадзіну ў дзьвярах зьявіўся багата апрануты чалавек у капелюшы. Агледзеў залу, спахмурнеў і ўжо зьбіраўся сысьці, калі я паклікаў яго рухам далоні. Ажывіўся і падыйшоў да нашага століка, прадставіўся: «Фернандэль дэль Калібра Тарантэла». Выклікаў у мяне сімпатыю, спадабаўся і дзяўчыне. Я хутка пакінуў іх адных. Хачу верыць, што яна зь ім шчасьлівая.

*Учора ў піўным бары «Успенены аргамак», калі я вёў з археолагам Янам Г. дыспут пра раскопкі ў даліне Быст-*

*жыцы, адна асоба  моцна пабальзакоўскага ўзросту шпурнула ў наш бок піўной бутэлькай. Зьнішчыла гаршчок зь пелагоніяй і я хачу верыць, што гэта і было яе мэтаю.*

*–Трэба неадкладна ўтаймаваць гэты разбой старой пудраніцы! – абурыўся мой кампаньён і палез за парасонам.*

*– Пакінь яе! – папрасіў я. – Гэта каралева на вакацыях! Ёй можна ўсё…*

*– Сапраўдная? – зацікавіўся ўсхваляваны археолаг. – Гэта цудоўна! – загрымеў ён, натхнёны духам барацьбы. – Зьявілася ўнікальная магчымасьць выбіць сукенку каралевы!*

*– Пашкадуй! – настойваў я. – Навошта табе рэпутацыя лупцоўшчыка каралёў?!*

*– Можа, ты і маеш рацыю, – пагадзіўся ён. – Кат каралевы – сапраўды гучыць нядобра.*

*Я не хаваў задавальненьня тым, што здолеў патушыць эмоцыі баявітага археолага.*

## ТРЫ ПАДАРУНКІ: ЯКАР, ГІЛЬЗА І СЫН

*Хто ж ня любіць падарункі? Бываюць прыгожыя, дзіўныя, а яшчэ няёмкія. Некаторыя забываюцца, іншыя запамінаюцца на ўсё жыцьцё. Бывае, што імёны ахвярадаўцаў славяцца ў сьвеце, здараецца, што імёны самых шчодрых старанна хаваюцца.*

*

Мой прадзед Ёахім Плуг, да мозгу касьцей плытагон, жыхар вёскі Пятровічы, што на Вісьле, у неспа-

койныя 1905-1907 гады перакінуў – як казалі – за Віслу армію зладзеяў, канакрадаў і рэвалюцыянераў[30]. Быў у яго невялікі човен, выдзяўбаны са стаўбура векавой таполі, якарам служыў абвязаны пяньковым шнурам камень. Перапраўляў уначы, улетку і ўвосень, нікога не пытаўся як клічуць і якая мэта падарожжа. Адных вёз за грошы, іншых – за пацісканьне далоні. Быў такі тарыф. Праз колькі гадоў, ужо ў вольнай Польшчы, аб'явіўся адзін з пасажыраў, які быў міністрам сувязі[31]. Свайму збавіцелю – як называў дзядулю Ёахіма ва ўласнаручна напісаным лісьце – прыслаў у падарунак жалезны якар.

Ніхто і ніколі Ёахіма не ашчасьлівіў лепей. Тым шчасьцем ён прагнуў абдараваць сваіх дзяцей. Час гэта быў пасьляваенны, на палетках не было недахопу жалязьзя, пакіданага расейскімі, нямецкімі і аўстрыйскімі аддзеламі. З сабранага лому ён выкуў сем копіяў атрыманага якара і падараваў іх сваім семярым дзецям. Адзін зь іх атрымала Гэлена, мая будучая бабуля. Сёньня каваны Ёахімам якар знаходзіцца ў маёй уласнасьці.

*

30 У Кангрэсаўцы, пад расейскай акупацыяй, доўжылася рэвалюцыя, у аўстрыйскай Галіцыі, куды вялі дарогі рознакаляровых уцекачоў, панаваў адносны спакой. Пятровічы, дзе жыў Ёахім Плуг, быў аддзелены ад Галіцыі толькі – у тым месцы двухкіламетровай – шырынёй Віслы.

31 Гэта Тамаш Арцішэўскі (1877-1955), адзін з кіраўнікоў Баявой Арганізацыі Польскай Сацыялістычнай Партыі, чалавек на рэдкасьць энергічны, надзвычай працавіты, адважны і сумленны. Арганізатар замахаў на расейскіх афіцэраў і чыноўнікаў, легіянер, дэпутат сэйма, і нарэшце, у 1944-1947 гадах – прэм'ер-міністр Польскага Ўрада ў выгнаньні.

У 1920 годзе разьбітая пад Замосьцем савецкая Конная Армія панічна ўцякала. Адзін з аддзелаў у колькасьці ста, а можа нават ста пяцідзесяці кавалерыстаў-уцекачоў, зьявілася ў прадмесьці Лэнчнай, у той час невялікага мястэчка, а сёньня турыстычнага цэнтру Лэнчынска-Уладаўскага Паазер'я, разьмешчанага ў 50 кіламетрах ад Замосьця, 20 – ад Любліна. З адлегласьці некалькіх соцень метраў, з узвышша, пад якім рака Сьвінка ўпадае ў раку Вепж, яны глядзелі на горад. Іх заўважыў шасьцідзесяцігадовы Міхал Ячынскі, сын студзеньскага паўстанца зь легендарнага аддзелу Багдановіча. У яго руках былі толькі вілы, але ў садзе – прыкіданая саломай – стаяла гармата, пяць гадоў таму кінутая аўстрыякамі. Ячынскі спрытнымі рухамі вілаў – працаваць імі прывык зь дзяцінства – адкінуў падгнілую салому і зь селяніна пераўвасобіўся ў артылерыста. Адчыніў зарадны механізм, засунуў снарад, затвор рыпнуў – знак, што замок слухаецца. У яго было толькі два снарады, так што бітва не абяцала быць надта доўгай. Выстраліў, снарад прасьвістаў над галовамі ворагаў. Тыя ўмомант пырхнулі ўрассыпную, камандзір сабраў іх рухам рукі, узброенай шабляй. З крыкамі «ура-а-а!» рушылі на мястэчка. Тады ён даў вагню другі раз, больш трапна, удалечыні пачулася іржаньне коней, больш дзесяці вершнікаў выкінутых з сёдлаў бязладна пакацілася – быццам грушы-паданкі – па адхону. Тыя, што ацалелі, адступілі. Вынік той

сутычкі можны было б каментаваць доўга. Але не хачу фантазіраваць і ўпадаць у пафас.

Паўтару адзінае: два разы бабахнуў і стаўся пераможцам. Не было больш снарадаў. Гільзу ад аднаго зь іх мне падараваў яго сын, Блажэй Ячынскі. Калі я пісаў гэтыя словы, мой позірк на некалькі імгненьняў затрымаўся на ёй[32].

*

Ганна, жыхарка вёскі Вонзке Врота, падаравала сваёй сястры Сафіі немаўля. Шчодрая ахвярадаўца мела ўжо траіх хлопцаў, другая была бязьдзетнай. Вядома, пра пэўныя падарункі і спосабы іх уручэньня нікому не гаварылася. Ганна адправілася ў радзільню пад прозьвішчам Сафіі і як Сафія Сьліва нарадзіла здаровага хлопчыка. За свой шчодры жэст атрымала ад сястры чырвоную дойную карову.

Дадам яшчэ, што хутка сыны Ганны нечакана памерлі, а той, выхаваны Сафіяй, гадаваўся здаровым, вырас разумным чалавекам, быў настаўнікам. Я сустракаў яго на пенсіі, ён распавядаў мне пра птушак, зьмей і жывёл. Меў у ва мне ўдзячнага слухача.

32 Апавяданьне пра бітву Міхала Ячынскага з аддзелам расейскай кавалерыі пад назовам «Чаховіч і Бабель у вайне 1920 года» я разьмясьціў у кнізе «Польскія бомбы». У польска-бальшавіцкай вайне 1920 года з абодвух бакоў змагаліся паэты, пісьменьнікі, акторы і мастакі. Юзаф Чаховіч, выбітны польскі паэт, страляў па ворагу ў якасьці жаўнера IV пяхотнага палка, Ісаак Бабель – знакаміты празаік – удзельнічаў у вайне ў якасьці афіцэра-палітработніка і рэдактара прыфрантавой газеты, напісаў пра тую вайну ў паўсюдна чытанай у Польшчы кніжцы «Конармія».

# ТРЫ ЎЗДЫХІ, ТРЫ КАБЕТЫ: ЛЕПІДАПТЭРАЛАГІЧКА[33], ПАЭТКА, МАСТАЧКА

*

Я не магу сказаць, што знаёмства зь ёю ўзгадваю нядобрым словам.

Мне было 19 гадоў, ёй на чатыры больш. Мы спаткаліся ў падгурскім пансіянаце ў Бэськідах.

Яна калекцыянавала матылёў. Узброеная сеткай, слоікамі і адмысловай атрутай выходзіла на ловы ў горы, лугі і яры. Эмоцыі калекцыянера былі мне знаёмымі, я таксама зьбіраў старыя карты, гравюры, рукапісы. Але забіваць матылёў?

– Ты забіваеш прыгажосьць! – казаў я.

– Я выконваю навуковаю задачу, – напышліва адказвала яна.

Яна з задавальненьнем брала мяне ў якасьці спадарожніка па экспедыцыях, бывала, я цягнуў за ёю сеткі і слоікі са злоўленымі матылямі.

Пры табе я пачуваюся ў бясьпецы, – сказала яна мне два ці тры разы.

І яшчэ я павінен узгадаць адну фразу:

– Ты быў бы добрым мужам. Няшмат патрабуеш – прызналася яна, калі на сьвітанку пакідала мой пакой.

Празь некалькі гадоў – ня так ужо і шмат – я спаткаў яе ў пабе (хай ніхто ня думае, гэта ня быў рэстаран

---

33 *Лепідаптэралогія* – навука аб матылях, *лепідаптэралагічка* – гэта асоба, што займаецца матылямі (дзеля навукі, або ў якасьці хобі).

навукоўцаў, хутчэй забягалаўка) зь кілішкам зялёнага лікёру.

А праз два дні напаткаў яе зноў у прытоне «Акапулька». Я трапіў туды цалкам выпадкова. Таму ня мог выключыць, што і яе завёў выпадак, а думка, што яна, як некалі матылёў, калекцыянуе мужчын была б таропкай і несправядлівай.

Я думаў пра яе з сімпатыяй.

Назовы матылёў – польскія і на лаціне:

Звычайны апалон – Парнасьсісус апольлё

Блакітніца ікар – Польёматус ікарус

Даўгавусая моль – Адэля дэгерэльля

Захапляюць мяне і па сёньня.

Так-так, я ёй вельмі абавязаны.

І – вядома – за тую ноч,

якой, скажу гэтак, я доўга лашчыў яе руку.

*

На пахаваньні заўчасна памерлага празаіка Зыгмунда К., я заўважыў паэтку Ганну М., усю ў чорным. Цёмныя акуляры закрывалі заплаканыя, напэўна, вочы.

– З чаго гэткая жалоба?

– Яны былі каханкамі, – растлумачыў мне зьяву вядомы журналіст Станіслаў Н., радуючыся маёй неінфармаванасьці. – Жонка нябожчыка калісьці падрапала ёй твар! Ня чуў? Гэта не адштурхнула яе ад амураў. Гарэзьнічалі некалькі месяцаў! Ён казаў гэта ня стольскі каб ушанаваць нябожчыка, колькі каб ацаніць тэмперамент Ганны.

– Я павінен быў чуць?

– А як жа, я чуў! Калісьці даўно, мой прыяцель Тадзік С. з гонарам узгадваў, што яна прыйшла чытаньнем вершаў зрабіць яму ноч прыемнай.

– Чаму табе? – хацеў я спытаць, але прыкусіў язык. Ён быццам адгадаў мае думкі, бо не без задавальненьня выпаліў: «Ты быў бы строгім крытыкам, пазёрнічаў, рабіў бы заўвагі. А я, хоць не зразумеў слоў, не шкадаваў пахвалы і прызнаньняў. Мы ўсю ноч кахаліся. Займацца сэксам з паэткай, – гэта ўражвае».

Магчыма, ён хацеў мяне падражніць, хоць дапусьціць, што лгаў, я не магу.

Злосьць дазволіла мне ўзгадаць яшчэ адзін выпадак. Неяк улетку я сплаўляўся на байдарцы ўніз па Быстжыцы, да яе вусьця, да Вепжа. Ля замка ў Завепжыцах я пристаў да берагу, на лузе загаралі некалькі маладых жанчын, курсантак тутэйшай школы, сярод іх Ганна ў малюсенькім купальніку. «Можа застанешся?» – кінула яна прапанову, калі я вывучаў яе прыгожыя загарэлыя клубы, жывот, плечы… Я не застаўся. З дакорам думаю пра сваю адмову. Ня выключана, што калі б я застаўся, то прыйшла б пачытаць мне свае вершы. Такую магу выказаць здагадку. Але павінен сваю адмову апраўдаць. Некалькімі хвілінамі раней за мяне праплыла на байдарцы пані Хрысьціна Л., якая тым летам не шкадавала мне мілаты і абаяльнасьці.

*

Мастачка А.Б. намалявала мой партрэт. Ёй хапіла тыдня. Хто цікавіцца мастацкім сьветам, праз тры дні маглі паглядзець твор на галоўнай вуліцы за шыбай крамы «Арт Студыя». «Бунтаўшчык з галубіным сэрцам» – назвала яна свой твор.

«Я не быў падобны на сябе!» – гэтая думка, якую я ёй ня выказаў, зрабіла мне палёгку. У адной далоні я трымаю бомбу з тлеючым шнуром, у другой – вырванае з грудзей сэрца (галубінае?)…

Мастачку цікавіла, я думаю, маё бунтарства, схаванае ў душы, але бачнае ў літарах, якімі я шмат гадоў пакрываю белыя аркушы паперы. І маё атачэньне: духі, чэрці і анёлы.

Ганна прымае віншаваньні, узнагароды, дае інтэрвію. Яна ўдзячная сьвету за цікаўнасьць, людзям за бунтаўшчыка, Богу за талент. І пэндзлем робіць бомбу яшчэ больш яскравай.

«Ты незвычайны, – кажа яна мне і пацягвае віно. – Шмат у каго выклікаеш сьмех, але ў іншых захапленьне і зьдзіўленьне. Трывай у сваім бунце, трымайся. Ты ў ім прыгожы, нягледзячы на свае сто, ці сто пяць гадоў».

# ДЗЁНЬНІКІ: ЖАНЫ, МАЁЙ БАБУЛІ, СЯБРАВАЙ ЖОНКІ

*

Я з захапленьнем чытаю дзёньнікі. Пачалося гэта ня сёньня і ня ўчора. Яно было заўжды. Зачаравалі, кранулі мяне не творы Казьмяна, Кітовіча, Паска[34], а ўспаміны вязьняў, кіраўнікоў і артыстаў. Адны зь іх бывалі строгія да сябе і сьвету, іншыя непатрабавальныя, і амаль усе захапляліся прыгажосьцю, адвагай, высакароднасьцю, прыродай і мастацтвам. Дзённікі Жаны Й., маёй сяброўкі, зьявіліся ўжо ў школьныя гады. Зялёны сшытак, у якім – як я думаю – шмат месца яна прысьвяціла фільмам, модзе, мастацтву і музыцы я бачыў у яе руках падчас заняткаў.  Замуж ня выйшла, але гэта ня значыць, што не цікавіць яе моцная палова чалавецтва. Вывучала французскую мову, хоць захаплялі яе грамадскія навукі, псіхалогія, а яшчэ права. «Я апісала твае, студэнта Народнай Польшчы,

34 Ян Хрызастом Пасак (1632-1702) – шляхціц, жаўнер, мемуарыст. Андрэй Кітовіч (1727-1804) – жаўнер, сьвятар, мемуарыст. Каетан Казьмян (1771-1856) – паэт, мемуарыст, палітык.

Дзёньнікі неаднаразова падбухторвалі мяне да чарговых чытаньняў, пошукаў забытых кніг і аўтараў, а таксама і да напісаньня артыкулаў. Казьмяну і Кітовічу я прысьвяціў нямала трактатаў і нататак, Паску ж – рэферат «Апавядальнік у заечай скуры», дзе я прыводжу доказы народных разумнікаў, апавядальнікаў і філосафаў, нібыта душа гэтага рыцара – гулякі, авантурыста і задзіры да сёньняшняга дня пакутуе за грахі і ў вобразе вялікага зайца гойсае па палетках ля Смагажова непадалёк ад Енджэёва, у месцы, якое Ян Хрызастом Пасак у сваіх «Дзёньніках» называў «фатальным». Глядзі: Зьбігнеў Уладзімеж Фрончак: «O czym milczą umarli. Duchy i zjawy polskich pisarzy» («Пра што маўчаць памерлыя. Духі і прывіды польскіх пісьменьнікаў»).

паганыя паводзіны! – устрывожаным тонам заявіла яна мне ў час вытворчай практыкі. – Ты лёгкадумна адносішся да сацыялістычнага духу працы, не пазьбягаеш кілішка, распавядаеш палітычныя анекдоты і баламуціш сельскіх працаўнікоў!» – О, як строга гучалі тыя словы!

Мне хацелася верыць, што нататкі яна рабіла для сябе, для ўласнага задавальняючага тлумачэньня сьвету, а не для службаў, якія маглі б узнагароджваць падобныя ацэнкі ганарарамі.

– Ты быў занадта строгі ў ацэнцы Марыі Жубр, – сварылася яна на мяне, калі зь цягам гадоў нас сутыкнуў лёс на спатканьні сяброў дзяцінства.

Марыя Жубр, наша аднагодка, кінула мужа з двума дзецьмі і паляцела па сьвеце. У Амерыцы, даходзілі чуткі, яна пасьпяхова ўзначаліла раскошны публічны дом. Я каментаваў справу тонам, не пазбаўленым іроніі і дакору.

«Яна мае тэмперамент, жаданьне дзейнічаць і не робіць сьвет горшым, чым ён ёсьць! – прамаўляла Жана тонам чалавека, глухога да іншых меркаваньняў! (Яе металічная аўтаручка энергічна білася аб вокладкі нататніка). –Жыцьцё адно, і кожны мае права напаўняць яго паводле ўласнага разуменьня».

Я мог бы спрачацца, але ў гэтым выпадку гутарка не ідзе аб абмене меркаваньнямі, тут пераважвае асоба Жаны Й., яе ўчынкі, гісторыя і дзёньнік для ўласнага задавальняючага тлумачэньня сьвету.

*

Адна вельмі прывабная кабета, што атрымлівае асалоду ад жыцьця і прыгажосьці, два гады таму была жонкай майго малодшага сябра, шматабяцальнага фізіка і яшчэ паэта. Любіць мастацтва, паэзію і тэатр. Яна прагнула стаць рэжысэрам і штомесяц вучылася ў Варшаве на курсах удасканальваньня. Калі ў іх утульнай кватэры яна пранікліва чытала запрошаным гасьцям вершы Герберта, Малаша, Славацкага, ён ганарыўся сваёй прыгожай жонкай. Аднойчы я заўважыў, што яна кідала некаторым мужчынам шматабяцальныя позіркі. Мінулай восеньню адляцела як ластаўка. Яму пакінула (на памяць? дзеля жарту?) – вялікі дзёньнік, у якім апісала свае любоўныя інтрыжкі… «Не шкадавала падрабязнасьцяў. Сярод яе каханкаў былі мае сябры! – сказаў ён мне пра гэта са скажоным ад болю тварам. – Хочаш каб я табе прачытаў?»

«Кінь, можа гэта бабская фантазія», – спрабаваў я перавесьці ў несур’ёзнае рэчышча.

Ён пакруціў галавой: «Ты мяне не адцягнеш ад праўды. Гэта бабская помста, прыпраўленая ірoніяй!»

Значыць, помста…

Пераканаць у адваротным было запозна, а шкадаваць з-за жаночай двудушнасьці я ня здолеў[35].

---

35 Гара з гарою ня сыйдзецца, а чалавек з чалавекам спаткаецца!

Я сутыкнуўся з прыгожай і здраднай сужонкай малодшага сябра ў цягніку Люблін-Варшава.

«Я цябе пашкадавала, а ня трэба было! Магла б напісаць таксама і пра хвіліны з табою! Не рабі выгляд, што не разумееш, аб чым гутарка. Бачыш, як ты абавязаны майму маўчаньню?! Адной хлусьнёй больш, адной менш, хто аддзеліць збожжа ад мякіны?»

Пасьля тых слоў я хуценька разьвітаўся.

*

Паўліна была сястрой майго дзядулі Аляксандра, і Бог не пашкадаваў для яе талентаў: добра сьпявала, стварыла народны тэатр і дзіцячы прытулак, запісвала мясцовыя легенды і анекдоты, імёны тутэйшых чарцей, умяшаньне анёлаў, бітвы і сутычкі, што адбыліся ў навакольлі, прыгажосьць мясцовых паненак, моц кавалераў. Здароўе, аднак, мела слабое, памерла маладой, пасьля яе застаўся дзёньнік, ён у мяне.

Год ці два таму адзін мясцовы настаўнік загарэўся, як казаў, жаданьнем яго прачытаць. Я дзёньнік яму пазычыў і забраў своечасова, а як жа?!

А праз пару дзён дайшлі да мяне чуткі, што пад статуяй сьвятой Тэклі, у лесе «Зялёнка», нехта з разьятранасьцю перакапаў ладны кавалак зямлі. Я схадзіў, паглядзеў і адказаў на высілак паблажлівай маўклівай усьмешкай. Паўліна запісала, што ля ног сьвятой Тэклі студзеньскія (1863 г. – заўв. пераклад.) паўстанцы закапалі палкавую касу. Аўтарка не дачакалася часу, калі адзін зь іх, вярнуўшыся зь сібірскай ссылкі, зьявіўся ў тым навакольлі і за паўгадзіны здолеў вярнуць паўстанцкую ўласнасьць. Але пра гэта ведаў толькі брат Паўліны, мой дзядуля Аляксандр. Мне ж той інфармацыяй не было каму пахваліцца[36].

36 На памяць аб баях аддзелу Багдановіча, жаўнеры якога (у 1863 годзе) закапалі ля ног сьвятой Тэклі палкавую касу, я прафінансаваў усталяваньне прыдарожнай статуі ў этнаграфічным парку «Пад Пеўнем», якая – як мне здаецца – надае навакольлю прыгажосьці і нагадвае пра даўнейшых герояў.

Я прыводжу гэтую гісторыю, каб адзначыць, што праўда (самая сапраўдная – можна казаць з сарказмам), вычытаная ў дзёньніках, не заўжды бывае праўдзівай.

# НА ШТО ЗДОЛЬНЫЯ ЖАНЧЫНЫ, АБО ТРЫ РОЗНЫЯ ВЫПАДКІ З ЖЫЦЬЦЯ

*зь якіх – можа быць – толькі два рэальныя*

*

Яна падабалася шматлікім мужчынам. Захапляўся ёю і мой дзядзька Антон.

– Вы шчасьлівец! – казаў ён некалі яе мужу, працаўніку гміннага банку, гэта я чуў і запамятаў.

Сваёю прыгажосьцю, вопраткай, ювелірнымі ўпрыгожваньнямі яна насамрэч выклікала захапленьне. Прыгажосьць атрымала ад Бога, сукенкі і золата – ад мужа. А некалькімі гадамі пазьней дайшла да мяне вестка, што муж наклаў на сябе рукі. Дзеля жончыных капрызаў і прыхамацяў, дзеля яе пярсьцёнкаў абкрадваў кампанію.

Ня жыў ужо мой дзядзька Антон, а я ўзгадаў тыя яго словы, бо думка, што ён можа здолеў бы суцешыць, адцягнуць ад кепскіх рашэньняў, мне не чужая.

Яна неўзабаве выйшла замуж зноў і зьехала ў сталіцу. Але, як здаецца, не ашчасьлівіла і таго. Пры ня-

вызначаных абставінах ён кінуўся з хмарачоса на варшаўскі брук[37].

Аднойчы дайшла да мяне чутка, што гэткім жа чынам мафія пазбавілася ад начальніка маіх канкурэнтаў. Я хачу верыць, што яна выйшла замуж за гангстэра. Бо мне цяжка быць перакананым, што нейкага прыстойнага чыноўніка яна перарабіла ў мафіёзі[38].

*

Сказалі мне, а я зь няёмкасьцю паўтараю, што вядомы пісьменьнік В.Н. не зусім такі таленавіты і працавіты, як гэта паўсюль мяркуюць. Так, яго раманы сусьветна вядомыя, перакладзены на замежныя мовы, іх чытаюць у шмат якіх краінах Эўропы, але, здаецца, гэта не ён зьяўляецца іх аўтарам! Усе былі напісаны ягонай жонкай! Можа гэта няпраўда, можа нават я не павінен паўтараць тыя словы, але калі гэта ўсё ж праўда, то уздыхнуць: да чаго ж гэта жанчыны здольныя! Напружана працаваць і маўчаць!

*

Леанард Каэн пачаў сьпяваць, бо выжыць зь пісьменства яму было цяжка. А сьпевы гарантавалі ды і

37 Жанчына прывядзе цябе на трон, але і на шыбеніцу таксама здолее. Такую перасьцярогу запісаў мне ў вучнёўскі дзёньнік мой дзесяцігадовы сябра. Адкуль ён гэта ведаў? Відаць, пачуў і паўтараў. Можа падказаў яму бацька ці дзед? Я ўзгадваю перасьцярогу дзесяцігадовага хлапчука, каб зрабіць яе парафраз і ўздыхнуць: кабета прывядзе і на дах хмарачоса.

38 Гангстэр – як я думаю – выносіць прысуд сам сабе. Калі б – гэта я напісаў пасьля пэўнага ваганьня – у ёй насамрэч кіпела фатальная сіла, здольная пертварыць службоўца ў мафіёзнага боса, тады, несумненна, яна была б адказнай за яго сьмерць.

гарантуюць жыцьцё ў дастатку[39]. У 2005 годзе, пасьля сарака гадоў гастроляў, ён меў на рахунку больш 5 мільёнаў даляраў. Для адных нібыта і няшмат, для мяне ж велічыня. Але што з таго, калі былая сяброўка і менеджэрка Келі Лінч пазбавіла яго тых грошай за адну ноч[40]. Быў вымушаны – ужо ж немаладым артыстам – пачынаць усё нанава, вярнуцца да сьпеваў. Гэты невясёлы факт прыгадалі на Польскім радыё 7 лістапада 2016 года, у дзень сьмерці творцы.

## ЯСТРАБ, ЗАЯЦ І МЫШАЛОЎ

*Усе птушкі – драпежнікі, кажуць арнітолагі. Драпежным зьяўляецца дрозд, што глытае сьлімака, і верабей, што пільнуе муху. Тыя, што ловяць драздоў і вераб'ёў, – гэта кіпцюрастыя.*

*З такой высновай цяжка не пагадзіцца.*

*

Ястраб нападае на галубоў, а не на людзей ці вайсковыя аўтамабілі, аднак Станіслаў Смага, хвацкі ўзводны, быў атакаваны птушкай. Вёз баепрыпасы на

39 Будзем дакладнымі і скажам: невялікім! Калі будзем, аднак, дакладнымі, шчырымі і дабрасумленнымі, то павінны адзначыць, што эстрадныя артысты не паміраюць ад галечы, што здараецца не так ужо і рэдка з паэтамі і мастакамі.

40 «Маеш – ня радуйся, ня маеш – не смуткуй!» – часта паўтарала мая бабуля Гэлена. Прыгожыя словы, добрая парада. Ведаю, аднак, што цяжка гэтым прынцыпам кіравацца. Бо цяжка радавацца ад беднасьці, і яшчэ цяжэй смуткаваць ад багацьця.

палігон. Сьвяціла сонца, узводны думаў пра вячэрняе спатканьне зь дзяўчынай, яе пазногці колеру крыві, пяшчотныя слоўцы і шэпты, расшпільваньне гузікаў на блузцы, сьціснутыя калені, якія яму прыдзецца цалаваць і лашчыць, калі з паветра яго атакаваў ястраб, вялікі, як самалёт. Параўнаньне з самалётам, нават з баявым, падаецца адпаведным, бо хто ж, ці што ж атакуе вайсковыя транспарты? «Мабыць свой цень на шкле траспартнага сродку прыняў за лёгкую здабычу», – дакладваў горды за сябе ўзводны, бо яго сродак без пашкоджаньняў выйшаў з птушынага налёту.

*

Даўно-даўно, у часы студэнцкіх эскападаў, я халодным вясеньнім апоўднем рухаўся па адным зь бескідскіх шляхоў[41]. Дарогаю да Яськіні Нядзьвежай я натрапіў на мёртвага ястраба, распасьцёртага ў цярновым кусьце. У кіпцюрах ён трымаў нежывога зайца. Вось, схапіў яго за тыдзень, ці, можа, два перад маім падыходам. Упаляваны шарак апошнім скачком зацягнуў свайго забойцу ў калючы зарасьнік і ўзаемна злавіў яго ў сьмяртэльную пастку.

Ахвяра стала забойцам, забойца – ахвярай.

Гэта навука, паведамленьне, перасьцярога? Якая?

Я доўга кранаў птушыныя пёры, кіпці, разяўленую дзюбу мёртвага караля драпежнікаў, замучанага ў цярновай пятлі.

41 Шляхі Бэскіду Сандзецкага для бясьпечнасьці турыстаў абазначаны каляровымі знакамі. Мой зялёны шлях вёў з Ламніцы праз Халю Пісану і Верх-на-Каменьні. Там, дзе ад Верху адыходзіць сьцежка да Яськіні Нядзьвежай, я і натрапіў на незвычайнае зьвярына-птушынае поле бою.

*

Кажуць, абавязак і сьмерць не мінецца. Сьмерць – згодзен, не міне, ад абавязку ж той і гэты спрабуе выкруціцца. Бывае, што некаторым удаецца. Адзін з маіх вінаваўцаў замест пазычаных грошай прынёс чучала птушкі. Яшчэ кажуць, ад кепскага вінаваўцы і мякіну бяры! Я пакорліва прыняў мёртвага птаха. Быў гэта мышалоў, вялікі драпежнік, карычнева-сіні, і, натуральна, кіпцюрасты. З халоднымі вачыма са шкляных пацеркаў, пад крыламі мяшэчкі зь хімікаліямі, каб ня жэрла нахабная моль. Я падзякаваў і тым жа вечарам вынес экспанат у парк паблізу.

На сьвітанку я птушку не знайшоў.

Не сумняюся – набраў у лёгкія сьвежага паветра.

І адляцеў.

## ЧОРТАВА НАСЕНЬНЕ

*

Завіхост[42], ён стары як Вісла, як яе пяскі і воды, як хмары над ім, як яго касьцёлы і кляштары. Віслаю сплывалі баржы і лодкі, сяляне прыручалі зямлю, бортнікі – пчол, пастухі – кароў і авечак. Жанчыны

42 Пра Завіхост, горад зьнішчаны легендарнай бурай, узгадваюць кожны дзень, у самы апоўдзень, празь першую праграму Польскага радыё, калі паведамляюць аб узроўні вады на галоўных польскіх рэках. Назва мястэчка зьяўляецца жартаўлівай, складзенай з двух элементаў: дзеяслова «zawiń» – «закруці» і назоўніка «хвост». Перш чым перапраўляцца празь Віслу, закручвалі (завязвалі) каням хвасты.

пралі кашулі і нараджалі дзяцей, клярыскі – пабожныя дзяўчаты – маліліся ў тутэйшым кляштары.

А з-за Віслы, з усходу, яцьвягі, як саранча, літвіны, ды татарскія атрады.

Рабавалі касьцёлы і кляштары, замкі і гарады, паселішчы і вёскі, забіралі ў ясыр мужчын, гвалцілі кабет. Калі чулася іржаньне іх коней, гартанныя крыкі, калі над вісьлянскімі водамі разьлягаўся іхны пераможны кліч, клясыркі браліся за нажы і абразалі сабе насы і вусны.

Зьнявечаныя, яны пазьбягалі ганьбы.

*

У першыя дні траўня апошняга ваеннага году жыхаркі нямецкага мястэчка Бомберг зьдзейсьнілі калектыўнае самагубства. Пры набліжэньні да іх дамоў атрадаў Чырвонай арміі, яны кінуліся ў воды мясцовага возера. Калі ўзброеныя ППШ пераможцы ўварваліся ў горад, то не знайшлі там мужчын. Тыя загінулі на вайне, а трупы іх матак, жонак і дачок забрала вада.

Мёртвыя, яны пазьбеглі ганьбы.

*

Двое маладых бандытаў, поскудзі з-пад чорнай зоркі, згвалцілі дзяўчыначку.

Іхнюю аднагодку. Тая вярталася з працы, выйшла з аўтобуса, як заўсёды па дарозе дадому перайшла поле, потым ішла лясочкам. І там накінуліся. Яна была прыгожая, зь зялёнымі вачыма, і глуханямая. Гвалтаўнікі ня трапілі пад суд, і ўсё ж – як падаецца – не пазь-

беглі кары. Першы неўзабаве пакутліва сканаў ад раку, другому языкатая жонка нарадзіла трох глуханямых сыноў. Я наслухаўся пра іх шмат гісторый. Адзін з тых трох, здаецца старэйшы, выламаў штакеты ў агароджы вакол сядзібы майго дзядулі.

– Чортава насеньне! – кляў дзядуля, калі рамантаваў сапсаваны плот.

# ХУТКІЯ ВЯРТАНЬНІ

– Ты нават ня ведаеш, як хутка сюды вернешся! – крычала кабета наўздагон пасьпешна аддаляючамуся мужчыне. З-пад яе неахайна падперазанага і караткаватага халата відаць былі апетытныя яшчэ клубы. Саракагадовы бландын з падбітым вокам уцякаў нязграбна, пад пахай трымаў напханую тэчку, у руках гэтак жа напханыя рэкламныя торбы. З адной выглядалі рукавы пакамячанай кашулі. Ужо праз хвіліну закінуў тую маёмасьць у багажнік «форда» з лысымі шынамі.

Нават ня ведаеш, як хутка ты вернешся! Гэта абяцанка, ці пагроза? Без сумневу, пагроза.

Можна, аднак, суцешыць мужчыну – таго, з падбітым вокам, – пагрозы ж заўжды гэткія жорсткія.

З прыкладамі няцяжка…

Расеец, немец, а таксама жыхар Новага Ёрку, ахвяры караблекрушэньня з тонучага судна даплылі да

бязьлюднай выспы. На трэці дзень зlавілі залатую рыбку, тая ў абмен за волю абяцала выканаць па аднаму жаданьню кожнага вудзільшчыка.

Немец, не марудзячы, закрычаў: «Хачу неадкладна апынуцца ў маім улюбёным Бэрліне!»

І так сталася.

Расеец узрушана ўсклікнуў: «Хачу зноў дыхаць паветрам маёй прыгажуні Масквы!»

І адразу задыхаў.

А той трэці, самотнік з Новага Ёрку, крыкнуў усьлед першаму і другому: «Нават ня ведаеш, як хутка ты вернешся!»

Хто б падумаў, што пагрозы кабет і мужчынаў аднолькавыя?!

## ПРАСІЦЬ НЯ ШКОДНА

Дайшоў да мяне ліст з турмы. Будзем дакладнымі, ліст быў адрасаваны ў літаратурную арганізацыю, нехта з калегаў ускрыў, прачытаў і падкінуў на мой стол. Хутчэй за ўсё палічыў, што тэма мяне зацікавіць. Адпраўнік – малады, трыццаць зь нечым гадовы чалавек, што адседзеў двухгадовы прысуд за напад – зьвяртаўся з просьбай дапамагчы ў папаўненьні выданьняў казкі пра рыбака і залатую рыбку ў перакладах на розныя мовы.

Я сам калекцыянер, маю – гэта відавочна – слабасьць да зьбіральшчыкаў, а да калекцыянераў літа-

ратурных прадметаў адчуваю асаблівую сімпатыю. Не марудзячы, затэлефанаваў да Язэпа Янушкевіча зь Мінску. Пазнаёміў з просьбай. У голасе Язэпа не пачуў зацікаўленасьці.

Хтосьці там пераклаў на беларускую, абяцаў праверыць у вольную хвіліну. Але слова не стрымаў. Я напісаў да калегаў-пісьменьнікаў ва Украіну, у Літву, Латвію, Славакію, у Нямеччыну, Балгарыю, Францыю, Аўстралію, каб прыслалі пераклады казкі на іх мовы.

Не прыйшло мне ніводнага перакладу.

Ня ведалі казкі? – Гэта немагчыма.

Не зацікавіла іх калекцыя чалавека з-за кратаў? – Найбольш праўдападобна!

Ня здолеў я дапамагчы калекцыянеру з турмы, і было мне сорамна з-за сваёй бездапаможнасьці. Мог толькі ўздыхаць, што просьбы, адрасаваныя да залатой рыбкі, бываюць споўненымі, просьбы ж да людзей – бадай што спарадычна.

## ПЕРШЫ МАТЧ ПРАЗ ДВА ТЫДНІ

Здараецца, ня раз і ня два, што пацешнае, але адначасова загадкавае выказваньне набывае ў пэўных колах ці асяродках небывалую папулярнасьць.

– Першы матч праз два тыдні! – гэтая загадкавая фраза, выказаная са сьмехам або часта з горкай іроніяй, бывае ў гутарцы маладых, дасьціпных людзей

паведамленьнем чагосьці нечаканага і цалкам непазьбежнага.

Зь якога літаратурнага твору, зь якога кантэксту вырваны гэты сказ?

З досьціпаў пра залатую рыбку! Жартаў пра гэтую казачную істоту даволі, узьнікае ў іх залатая чарадзейка як стварэньне, адоранае сьпецыфічным, можна сказаць, двудушным пачуцьцём гумару.

Гэты гумар вісельніка падчас выкананьня зычэньняў кліентаў, або дабрадзеяў чарадзейкі, узьнікаў ня столькі са злой волі гэтай усемагутнай істоты, кольькі зь непрадбачанага спосабу адказу на чалавечыя пытаньні, рэалізацыі іх просьбаў, чаканьняў або прагненьняў.

*

Самы багаты чалавек сьвету злавіў залатую рыбку! Лавіў стронгаў, цешыўся, як дзіця, калі злавіў некалькі штук, а тут нечакана трапілася яшчэ залатая рыбка.

– Выпусьці мяне! – просіць залатая рыбка. – Я выканаю тры твае жаданьні!

Самы багаты чалавек нічога ня хоча ад рыбкі, бо ўсё мае! Мае таксама арыгінальныя і сьмелыя планы. Запланаваў зьмясьціць рыбку ў акварыюме – будзе валодаць чымсьці, чаго ўжо ніколі і ніхто не здабудзе.

Але рыбка просіць волі. Найбагацейшы чалавек слухае ўзрадавана, бо гэта ён зараз можа выканаць просьбу рыбкі.

Паддаўся ўгаворам і кажа:

– Вярну табе волю, калі скажаш, калі я памру.

– Гэтага я табе паведаміць не магу, – са смуткам адказала рыбка.

– Тады скажы, ці траплю я ў рай?

– Бясспрэчна, трапіш у рай! – запэўніла яго рыбка.

– І што я там буду рабіць? – зацікавіўся раптам самы багаты чалавек.

– Будзеш гуляць у хакей! – пачуў ён паслужлівы адказ.

– У хакей? – відавочна ўразіўся. – Я ж ніколі не гуляў у хакей!

– Дык рыхтуйся, бо першы матч ужо праз два тыдні!

*

Першы матч праз два тыдні! – гэта сучасная іранічная версія максімы memento mori!

# КОМПЛЕКСЫ: ПІТЭРА ПЭНА, ШАЎЦА, НЯСТАЧЫ

*Фрэйд спрабаваў тлумачыць чалавечыя паводзіны эдыпавым комплексам.*

*Дзеяньні недасьпелых мужчын, пазьбягаючых абавязкаў, адказнасьці, тлумачацца сіндромам Пітэра Пэна.*

*А я ўвесь час баюся беднасьці, таму некалькі меркаваньняў…*

*

– Хачу помсты! – крычала яна. – Ты мяне крыўдзіш ужо пяты год! Вечны хлопчык! Я павінна быць яму маці, апякункай, нянькай, лялькай! А я хачу быць дамай, каханкай, партнёрам! Ты разумееш, што я табе кажу? – пыталася яна, і позірк яе гарэў.

Я павінен узнагародзіць яе за пяць змарнаваных гадоў? Цяпер, тут?

Чаму менавіта я? Відаць, мела для гэтага нейкія жаночыя прычыны.

І яшчэ пытаньне: як яна знайшла мяне, захаванага ад сьвету, удалечыні ад людзей, сярод лясоў, дзе больш за месяц я па ўласным капрызе лічыўся вальшчыкам лесу?

Мне цяжка было прыняць ролю прызначанага для кары, але немагчыма было не пагадзіцца, што яе намаганьне ў пошуку мяне вартае ўзнагароды, якую яна сабе вызначыла[43].

43 Сёньня таго спатканьня нібыта пабольшала ў маёй памяці. Зьяўляюцца перад маімі вачыма вузкія белыя далоні, ружовы лак на пазногцях і мой разьбіты вялікі палец, залеплены пластырам. Зялёная фланэлевая кашуля, накінутая мне на голы торс, белая блузка з глыбокім дэкальтэ, голая шыя, над якой я завіс з пацалункам. І настрой у той момант: дыханьне,

*

Ян Гочаль, настаўнік апрацоўкі скуры ў абутковым тэхнікуме ў Сломніках, спакусіў быў вучаніцу. Казаў: «Прыгожая, высокая, спрытная, не па гадах разьвітая».

– Ці ж мог я падумаць, што яна з маёй школы? Школа вялікая, паўтары тысячы вучняў, зь іх палова вучаніц! Калі яе туліў, не пратэставала, вось і зграшыў. Можа яна любіла дарослых мужчынаў? – уздыхаў ён каб апраўдацца.

– Ніхто нас ня бачыў, а даведаўся ўвесь сьвет! Божа, якія былі непрыемнасьці! Дырэктар, вымовы, выкіданьне з працы! Што было рабіць, я вярнуўся адкуль прыйшоў – у вытворчасьць! Рабіў чаравічкі, туфлікі, сандалі. А зараз, на пенсіі, я не магу жыць без занятку, таму прыпрацоўваю ў прыватным прадпрыемстве: латаю, падбіваю. Пэўна ж, ажаніўся. Маю дзяцей і ўнукаў, але пасьля таго, як мяне выгналі, гады два ці тры мяне аж калаціла, калі сустракаў маладую!

---

уздыхі, шапаценьне лістоты і жаўтадзюбы дрозд на галінцы, які не шкадуе нашаму спатканьню птушынай увагі. Жаночыя пошукавыя намаганьні выклікалі ў ва мне пачуцьцё пыхлівага гонару, а жаночая ўпэўненасьць, што я скаруся перад яе довадамі, аргументамі і целам, змушала да прыемнага спакою. Толькі гэта я магу сёньня напісаць. Аднак я не знаходжу ў прызнаньні задавальненьня, яно хутчэй раздражняе.

Назаўтра я застаўся сам-насам з драздом. Птах сьпяваў, а я паўдня яго слухаў.

Празь некалькі год, у Мюнхене, я трапіў у Пінакатэку, адну з залаў аздабляла карціна Бёкліна «Фаўн і дрозд».

Дрозд сьвістаў. Фаўн слухаў.

Разьленаваны, юрлівы, летуценны.

На яго пажадліва пазіралі дзьве маладзенькія японкі. Спакушаў іх Фаўн. Вабіў. Вызваляў прагу, заклікаў.

Затрымаўся і я. Ужо ў першы момант мяне зачаравала іх захапленьне, але ў другі я нешта выявіў!

Я зразумеў, праз гады, што тады, у тым лесе, лёс сутыкнуў мяне з жанчынай, якая ня помсты шукала, але фаўна!

Распавядае мне пра гэта кожны раз, як я са сьцёртай набойкай пераступаю парог яго прадпрыемства.

*

Зводная сястра маёй бабулі Яніны шукала шчасьця ў Амерыцы.

Не знайшла. Цяжка перадаць ейны лёс, апісаць гарады і паселішчы, куды вялі яе дарогі, пералічыць людзей, што давалі ёй працу, дах над галавою і хлеб. Яе дачка памерла ад голаду пад прыдарожным крыжам – казалі на радзіме. Як дайшла тая вестка? А можа выдумалі?

Пад крыжам – гэта ж паблізу ад Бога!

Той вобраз шмат гадоў не даваў мне спакою. Ды і сёньня не дае.

Не перастаю я баяцца нястачы.

Не абмінаю жабрака, каб ня кінуць яму ў шапку манету[44].

44 Жабрак з жабраком не аднолькавы. Трапляюцца жабракі прафесійныя, аднак пераважаюць – як я думаю – людзі, бедныя як царкоўныя мышы, насамрэч выгнаныя галечай на вуліцу. Неяк, вельмі даўно, зачапіла мяне цыганка зь дзіцяткам на руках.

– Пан, дай пару златувак на дзіцятка, што на руках трымаю!

Ня меў я тым разам ні гроша за душою, таму буркатнуў прабачаючыся: «Трапілі вы на самага беднага з вуліцы». А яна мне на тое: «Хто ж дапаможа беднаму, як ня бедны?»

Аддаў я ёй гадзіньнік, ці нейкую іншую непатрэбную драбязу.

# ЦЫТРА

Над галавой Яна Джазгі штосьці грымнула, а можа, загуло. Той ня раз чуў грымоты і гудзеньне, але гэты гук здаўся яму інакшым, трывожным, быццам зь іншага сьвету. Падняў вочы ўверх, бо гэтае ні то грукат, ні то гудзеньне даносілася з гарышча ягонай хаткі. Джазга – хлопец хоць куды, не дурны і ня самы бедны, меў дваццаць пяць гадоў, а тры тыдні таму скончыў будаваць хатку і хадзіў ганарлівы, пазіраў на пабеленыя сьцены, быццам якую прывабную і сардэчную паненку разглядаў, бо быў гатовы жаніцца, меркаваў, што сьвет належыць яму, а тут ні з пушчы, ні з поля ў ягонай уласнай навюткай хатцы рокат ці гудзеньне.

Паглядзеў у столь, можа хацеў яе позіркам прадзіравіць і ўведаць таямніцу. Але зрокам пранікнуць праз дошкі ня здолеў. Таямніца засталася на гарышчы. Адзінае, што здолеў Джазга, дык гэта за вухам пачухаць.

Неяк ранкам грымнула так моцна, ажно на тапчане падскочыў, ды вырашыў распавесьці пра ўсё дзядзьку, бо той ні ў якія жахі ды страхі ня верыў, і гэта ж ён падгаварыў будавацца ў вёсцы Домбе, пад старым надвісьлянскім Завіхостам. Месца насамрэч было прыгожае, далекавата ад вёскі, над лугамі, за якімі ў трысьнягу хавалася возера, вялікае і глыбокае, некалі яно нават касьцёл паглынула.

Дзядзька на вестку пра гуканьне засьмяяўся, але з адведкамі затрымліваецца ня стаў, ужо наступным вечарам Енджэй Жэпа, разваліўшыся на лаве, чакаў грымотаў ці гудзеньня. А тут ціха-ціхенька, так што Жэпа пару хвілінаў глядзеў на пляменьніка і зь цяжкасьцю стрымліваўся, каб не заўсьміхацца. Праседзеў да апоўначы і нічога не пачуў. А як адыходзіў, запэўніў, што заўтра таксама можа прыйсьці, і прыйшоў. Адразу на сьвітанку. Яшчэ ўсесьціся не пасьпеў, а тут ужо нешта загрукатала. Відаць, на гарышчы. Жэпа раз-другі вылаяўся, а на трэці ўжываць брыдкае слова ўстымаўся, ведаў – праклёнамі гэтую сумятню не прагоніць. Баязьліўцам ня быў, залез на гарышча, а там цёмна і, як здалося, пуста. Зазірнуў пазьней, калі разьвіднела, а там ніякага абсталяваньня, ніякіх прыладаў. Нічога, чым можна было б у дошкі загрукаць, ніякай трубы духавой, каб зараўці, заскуголіць або запішчэць.

Жэпа пашкроб лысіну і пайшоў да сябе, а Джазга той ноччу вочы не заплюшчыў, бо так заўзята на гарышчы грукатала, хоць там – як ужо казалі – нічога, чым грукатаць, не было.

Назаўтра спаткаў старую Агату Капыціну.

– Ты што такі пакамячаны? – пытае яна.

Узрадваўся, што зьвярнулася да яго, можа нават чакаў такога пытаньня, бо шукаў ратунку і ня ведаў, дзе знайсьці, калі нават дзядзька нічога не параіў.

– Ня йначай Цытра, – зрабіла яна выснову пасьля ягонага аповеду. – Бывала ня раз і ня два, што на га-

рышчы гнязьдзіцца. І ня толькі каб перазімаваць! Памятаю, у Смугі два гады сядзела! Выйшла толькі калі пярун ударыў і агонь хату зжэр.

– І ў маю пярун павінен стукнуць? – не на жарт занепакоіўся Ян.

– Сёньня зьдзіўляешся, а назаўтра, можа здарыцца, сам будзеш благаць, каб гром у тваю хату ўпярыў!

І пайшла сабе, а Джазга стаяў зьнямелы і ня верыў, што з-за нейкай Цытры, магчыма, будзе маліцца, каб пярун у хату стукнуў.

«А можа яе стрэльбай настрашыць?» – падумаў так і выправіўся да Уладыслава Клёца. Той быў на пару гадоў старэйшы за Джазгу і з маленства паляваў на качак, зайцоў, лісаў, фазаноў і барсукоў. На Цытру ніколі не спрабаваў, але можа захоча?

Захацеў! Прыйшоў, расьсеўся, стрэльбу з рук не выпускае.

– Сыпану ёй сьвінцу ў дупу, хай толькі варухнецца! – запэўніў ён.

Але не варухнулася. Апоўначы Клёц пахваліўся: «Ведае, чым пахне!» І задаволены пагладзіў прыклад дубальтоўкі.

Наступным днём, толькі парог пераступіў, загрукатала. Проста над ягонай галавой. Адразу – стрэльбу да пляча, і пальнуў у столь. Ажно кавалкі вапны пырснулі. А грукат, бо тым разам не гуканьне і не гудзеньне, а менавіта грукат, не спыняўся. Ну, быццам Цытра загневалася, ці нават абурылася распачатымі карнымі

дзеямі. Вось тут трапіла каса на камень! Бо і Уладыслаў Клёц ня думаў спыняцца і задаволіцца адным стрэлам. Неўзабаве двойчы на спуск націснуў. Зноў вапна са столі, а грукат яшчэ апантаней. Клёц абтросься ад таго бялюткага, бы сьнег, пылу, і зноўку ў столь аддуплеціўся. У суме пяць набояў страціў, а грукат не спыніў. Кулі ў дошках, па ўсёй хаце блакітны дым, у горле пячэ і душыць, быццам махорку тыдзень, а то і месяц жавалі, а Цытры быццам хоць бы што, толькі «вух-бух, вух-бух, вух-бух» па хатцы разносіцца. Там, на гарышчы, дзе яе кулі не дасталі.

Засаромлены Уладыслаў Клёц пайшоў, і тады ў хацінцы змоўкла, Цытра, відаць, за стральцом пабегла, бо той яшчэ на дарозе тры разы выстраліў. Распавёў пазьней, што яго за куртку тузала і намагалася да сябе прыціснуць.

Ян Джазга выслухаў той аповед са смуткам, яго ні за калошы, ні за халат ня тузала, пярыну ўначы зь яго ня сьцягвала, пад яго засьлізнуць не намагалася, але грукатала па-ранейшаму. Упарта і зацята. Ня толькі ўначы, але і белым днём. Неяк у самы поўдзень загрукацела, раптоўна і моцна, у Джазгі нават гарачае малако, якім кашу хацеў заправіць, разьлілося.

Зьвярнуўся да ксяндза-дабрадзея, пра свае нягоды распавёў.

– Прыйду, вады сьвянцонай не пашкадую, толькі ў пляшку перастань зазіраць. І месяц не міне, як Цытра змоўкне.

Ксяндзоўская парада не спадабалася. У пляшку заглядаў, прынамсі, не часьцей за іншых, а ў іх Цытра ня грукатала.

Пачаў думаць, каб хаціну прадаць, і пра тое, каб кудысьці за раку або да бацькоў выбрацца.

Як прыдумаў, так і зрабіў. Хатку прадаў Юзафу Пакжыву, танна, бо слава яе кепская хутка вырасла, на хатку ўвогуле жадаючыя былі, але дом з Цытрай на гарышчы спакусіў толькі Пакжыву.

Юзаф Пакжыва хаціну разабраў, дошкі і бярвёны перавёз у суседнюю вёску Вісьнёва Гура, і там у старым садзе сабраў зноў. Нядаўны гаспадар застаўся ў чыстым полі, цяпер пусьцюткім і сумным, а толькі што цешыўся тут хаткай, пазіраў на лугі, на возера, парослае трысьнягамі, куды, відаць, мусіла вярнуцца Цытра, бо ў Юзафа Пакжывы не грымела, і ніякіх іншых ні гукаў, ні рэха не ўздымала.

«Затанна прадаў», – зь вялікім жалем думаў і пэўны час кусаў локці Ян Джазга. Але калі прыгадаў, як начамі не давала заплюшчыць вочы, шкадаваць перастаў і буркнуў з палёгкай: «А можа і не затанна?»

Ішла дарогай Капыціна, сама з сабою не хітравала, па сваёй, толькі ёй вядомай справе. Абгледзела сваім сьлязістым вокам пусты палетак, заўважыла Джазгу і, нібыта да сябе, нібыта да яго, прамовіла: «Няма хаты, няма Цытры». Джазга падумаў, што пэўна скажа яму: «Добра, сынку, зрабіў». Але не сказала. Паглядзеў насьцярожана. Ці добразычлівая была? Ня ведаў

гэтага і разгадаць ня ўмеў. Хацеў запытацца, кінуць усьлед: «А тая Цытра, гэта што?»

«Што»? А можа, «хто»?

Ня ведаў, як спытаць, дык і не спытаў.

І добра зрабіў. Магла б пырснуць сьмехам, мала таго, была гатовая ганарыста глядзець у вочы і нахабна сьмяяцца! Не пашкадавала б, відаць, нават тады, калі б ад сораму перад ёю, а можа і перад усім сьветам даў лататы і схаваўся ў садзе, лесе, ці стозе.

І як ня ведаў нічога пра Цытру не пытаючыся, так не паразумнеў бы і спытаўшыся.

Бо, можа, гэта зьвер – якая-небудзь куніца, ласіца, выдра, а можа, чалавек – кабета?

Іншыя таксама ня ведалі, аднак у Капыцінай не пыталіся, бо добра зналі гэтую старую, хітрую ведзьму і не былі ўпэўненымі, што ў адказ пачуюць тлумачэньне.

Яна ж высока несла галаву, ганарліва, бо багацеі заўважаюць яе і пытаньні задаюць ёй, беднай удаве, а яна зусім не абавязана дзяліцца зь імі сваімі ведамі, гэтак жа, як яны ня дзеляцца зь ёю хлебам ці малаком.

Людзі жылі ў тым краі ня лыкам шытыя, хутка вучыліся ад іншых, у тым ліку і ад Капыціны, так што калі якога мясцовага разумніка спытаць пра Цытру, фанабэрыста адкажа: «А чаму я павінен табе гэта тлумачыць?»

І не распавядаў.

Іншая справа, калі запытаны ня меў ахвоты тлумачыць, бо сам ня ведаў.

Так што Цытру ахінала таямніца. Вялікая таямніца.

«Што гэта магла быць за істота? Можа, напалову зьвер, а напалову кабета? Няйначай такое стварэньне! – думаў Ян Джазга. – Але бадай што невялікае. Дакладна – невялікае! Бо вялікаму не схавацца ў трысьнягу, на дрэве, у дупле, лісінай нары, ці ў якой дзірцы на гарышчы. Пэўна, невялічкая, з паўкабеты, на чатырох лапах як у ласіцы. Ласіцы? Хутчэй выдры! Так, выдры, не ласіцы. Выдра вадою паплыве, схаваецца пад ёю або ў трысьнягу, ніхто яе не заўважыць і ніхто не пакрыўдзіць, пасткі абміне і з сеткі выблытаецца. Такая спрытная! І незвычайная! З маленькай галавою і лапамі зьвярка, жаночай шыяй, доўгай і прыгожай, а невялікія дзявочыя грудзі густой зьвярынай поўсьцю пакрыты».

*

Здаралася, што ў Домбе, як і ў Вісьнёвай Гуры, распраўляліся з чараўніцамі. Адну, сто гадоў таму, прагналі зь вёскі, другую, што ў куніцу перакручвалася, дзяды Яна Джазгі да брамы гумна прыбілі. Вось злавілі ведзьму, калі перавярнуўшыся ў зьвярка галубку душыла. Прыціснулі куніцыну галаву да зямлі вілкамі, і не марудзячы, бяз суду, бо вырак загадзя вынесьлі, і ясна было, што ведзьма выгляд зьвярка прымала, прыбілі куніцу да гумна. Але дзіва – з пашчы зьвярка ніводнага слова чалавечага не пачулі, толькі струменьчык крыві пацёк.

*

Цытра чараўніцаю не была.

Ян Джазга думаў сабе, што гэта казачнае стварэньне. Што ж, уяўленьні Яна Джазгі не маглі быць доказам у справах чараўніцаў. Самае большае – маглі ўвесьці ў памылку.

Пра Цытру багата ведала Капыціна, а можа ведала толькі тое-сёе. Бо магла таксама ледзьве ўяўляць. Але яна, як ужо казалі, аб сваіх здагадках умела маўчаць.

– Можа, гэта дух? – голасна думаў Енджэй Жэпа, але праз хвіліну запярэчыў: – Не, бо я ў духаў ня веру.

*

Рэдакцыя вельмі каштоўнага геаграфічна-этнаграфічнага часопіса «Вісла», што выходзіў у 1887-1905 гадах, заахвочвала сваіх чытачоў дасылаць усё цікавае зь іхных мясьцінаў – паданьні, легенды і мясцовыя сенсацыі. У канцы XIX стагоддзя народны настаўнік з Завіхосту, Ян Казёл, занатаваў паданьне пра багатага памешчыка, удаўца, які (о, жудасьць!) захацеў узяць шлюб з уласнай дачкой. Моцна спалоханая паненка залівалася сьлязьмі, але ўрэшце аб'явіла, што згодзіцца, калі юрлівы бацька выканае чатыры ўмовы: падаруе ёй убраньне колеру часу, колеру золаку і захаду і залатую цытру.

Думала, што выкананьне ўмоваў зойме трохі часу. Так, заняло. Але прыйшоў момант выпасажэньня, і наступаў час шлюбу. Не хацела мець мужам бацьку, рашылася на ўцёкі. Знайшла ў лесе над возерам

схованку, а там выглядзеў яе адзін малады вясковец, дужы, толькі не надта кемлівы, і ўдумаў ён, што калі выкрадзе і ўтопіць цытру, дзяўчына мусіць узяць зь ім шлюб. Як выкраў і ўтапіў інструмент у возеры, стаў перад дзяўчынай поўны спадзяваньняў, а яна пагрэбвала ім і ўчынкам ягоным, і тым жа днём ад роспачы кінулася ў воды возера.

«Хоць верце, хоць ня верце, упадабала Цытра (так мы яе клічам) палохаць вясковых кавалераў. Шчэ зусім нядаўна добра давалася ім у знакі», – скончыў свой невялікі артыкул народны настаўнік.

*

Паданьне, запісанае вясковым настаўнікам, як кропля кроплю нагадвае вядомую ў сьвеце вершаваную гісторыю Харлеса Пэрраульта «Асьліная скура». Толькі багацейшае і больш драматычнае, чым старая французкая байка. І, можна сказаць, застаецца вечна жывой. Прынамсі, не бракуе доказаў, што з-за ўкрадзенай цытры дзяўчына з зарослага трысьнягом возера мучае маладых вяскоўцаў.

# ЧОРТ, НЕМЕЦ І ЗДАНЬ. ЗДАРЭНЬНІ ЦЁТКІ ГАНАРАТЫ

*Цётка*[45] *не жыве, жывуць яе аповяды, сваім жыцьцём, ведама.*

*

Пачну з чорта. *Для падману людзей* – я гэта добра ведаю – ён прымае выгляд сабакі, ката або жарабя, пакрываецца петушыным ці паўлінавым пер'ем. Чорт з Качых *Долаў* упадабаў сабе тоўстую парсючыную скуру. Грузны, на кароткіх нагах, зьяўляўся ён на шляху навукоўцаў і блазнаў, гувернантак і кухарак. Хутчэй вечарам, уначы, чым у зьзяньні дня. Забаўляўся чалавечым перапудам, трывогай, паралізуючым рухі страхам. Хто яго адчуў – дранцьвеў. Толькі не яна. Выхаваная на жыціях сьвятых, узброеная бутэлькай сьвянцонай вады[46] яна ішла на спатканьне, якое павінна было пакрыць яе славай. На сваю бяду ён загарадзіў ёй дарогу. Я пішу «на сваю бяду», але ж не спаткаў нікога, у каго б ягонае няшчасьце выклікала шкадаваньне ці смутак. *Для* ўмацаваньня сэрцаў і душ дадам яшчэ, што яна выцерла аб чортаву скуру ногі[47].

---

45 Яна была сястрой маёй бабулі Гэлены. Яе маладосьць пачалася ў 20-я гады мінулага стагоддзя і ніколі ня скончылася. Лічыла сябе маладой, калі прымала мяне на сваім васьмідзесяцігадовым дні народзінаў. Я не казаў ёй «бабуля», а называў «цёцяй». Замужам не была. Яна не любіла мужчын, не цярпела жаўнераў, рамесьнікаў, музыкаў, паштальёнаў. Паважала сьвятароў.

46 Чорт, як і кожны нячысьцік, баіцца сьвянцонай вады. Пра гэта кажа старая польская прымаўка. Яна яе ведала, як і шмат іншых. Галоўнае, што схаванае сярод прыгожых слоў навучаньне яна здолела прымяніць ва ўжытку.

47 «Ляжыць як чортава скура». Чорт пасьля купаньня ў сьвянцонай вадзе скідваў зь сябе – як верыў польскі люд – ускудлачаную скуру. Вось тады і можна было выцерці аб яе абутак.

«Ляжыць як чортава скура», – са сьмехам казалі таксама пра п'яніц, што спалі пад лаваю ў карчме. Такога – без асьцярогі – можна было піхаць абцасам.

На ростанях дарог у Качых Долах, дзе некалі стаяла кузьня Антонія Забавы, а зараз газетны кіёск, ніхто ня бачыць чорта. Можаце мне ня верыць, але гэта заслуга цёткі Ганараты.

*

Немец меў на сабе шэра-зялёны мундур, каску, пас з надпісам «Гот міт унс», за сьпіною карабін. У хляве стаяла карміцелька, чорна-белая карова. У каго была карова, мог ператрываць, перажыць, дачакацца вясны, лета, канца вайны. Немец прыйшоў па карову. Цётка загарадзіла яму дарогу і гыркнула: «Пакінь». Пакінуў – насуперак загаду. Забаяўся ці пашкадаваў?

Тую гісторыю ведала ўся вёска, а сёньня я запісваю, што тая хвіліна трыюмфу многія месяцы – не, гады! – ушаноўвалася кубкам малака. Сёньня ва ўсёй вёсцы няма ніводнай каровы. Солтыс частуе мяне кавай і падсоўвае ў пластыкавай ёмістасьці нямецкія вяршкі. Я п'ю каву зь вяршкамі, якая мае смак распушчанай вапны, і насалоджваюся ўспамінамі пра цётчыну перамогу.

*

У дзяцінстве яна любіла гуляць у хованкі, умела схавацца так, як ніхто з аднагодкаў. Неяк схавалася за сьціртай саломы. Хіхікала, бо чула бездапаможныя галасы дзяцей, што шукалі яе схованку. Радасная і гордая, адчула на сабе нейчы позірк. Падняла вочы і зьнерухомела. На яе глядзеў заяц. Вялізны, ня меншы за яе. Прыглядаўся бяз страху, у той час, калі яе душа была ў пятках.

Яна ахвотна пра гэта распавядала. Я сам больш дзесяці разоў чуў пра тое здарэньне. І ніколі ніякіх інтэрпрэтацый, упрыгожваньняў, метафар[48]. Тая гісторыя была каментаром да складанасьці сьвету.

# ЛІЛІН, ЛІТЫНЯ, ЛІЛІНА: ТРЫ ЧАРТОЎКІ ЗЬ ЛЮБЛІНА

*Каб зразумець жах, але і прыгажосьць спрадвечных сувязяў, трэба ведаць, што чэрці хоць і не паміраюць, аднак састарваюцца. У маладосьці не адзін зь іх быў ласы да прыгожага полу, ды і чартоўкі зазнавалі ўцехаў з мужчынамі рознага веку, стану і прыгажосьці, аб чым я – у дадзены момант – сьведчу…*

*

Травень 1728 года, бязьветраны дзень, сьпякотна. Процьма сьвяточна апранутых кабет і гэтак жа шмат мужчын, што распаўсюджваюць пах гарэлкі і поту.

Ян Тжос, хлопец хоць куды, спрытны стальмах зь Ленчны, на любельскім бруку паклаў галаву пад сяке-

48 Яшчэ слова пра зайца. У разьдзеле «Пра духаў, вампіраў і жахі» кнігі «Гісторыі Качых Долаў» натрапіў я на абзац, прысьвечаны панне Клементыне Н-скай, якая, расчараваная ў сваіх пачуцьцях, шмат гадоў таму наклала на сябе рукі, і яшчэ да сёньняшняга дня – як кажуць – у выглядзе вялікага шарака гойсае па навакольных палетках.

Кніжка выдадзена пасьля сьмерці цёткі Ганараты. Мне цяжка вызначыць, адкуль аўтар чэрпаў сваю інфармацыю. Ніхто ў ваколіцах ня памятае памешчыцы Н-скай, я ж апавяданьні цёткі пра зайца памятаю.

ру ката… За месяц да гэтага зь сякерай у руцэ стаяў над сваёй жанчынай і ня меў да яе літасьці.

– Ён ашалеў, – казалі, – пакутуючы ад дікай прагі да каханкі. А ёю была – калі верыць людской гамонцы – сапраўдная чартоўка!

Чарнявая, густавалосая, тэмпераментная, гожая!

З-за яе страціў галаву, якую – скрываўленую – кат падняў і паказаў натоўпу! Млелі паненкі, сплёўвалі мужчыны, старыя набожна шапталі пацеры. Была яна ў тым натоўпе[49]? Крык жаху, або дурнаваты сьмех страсянулі яе цела?

Хто-небудзь, апрача яго, здолеў даведацца яе імя?

І дзе яго сёньня знайсьці? У якой песьні, ці казцы?

У нямецкай газэце «Бэрлінішэ Прывілігрыртэ Цайтунг», што выходзіць тройчы на тыдзень, якую падсунуў мне мінулай восеньню берлінскі антыквар з плошчы Жандараў, у летапісе за 1728 год, адшукаў я карэспандэнцыю зь Любліна[50]! Пад паведамленьнем пра сьмерць Яна Тжоса была прыпіска: «Гэта мая работа – Лілін», зробленая – магу прысягнуць – жаночай рукою.

---

49 Сьмяротныя прысуды выконваліся публічна, рэакцыі гледачоў бывалі, так бы мовіць, розныя. Каетан Казьмян (мемуарыст) у 1787 годзе назіраў з другога паверху ў любельскім старым горадзе, як напісаў, «адсячэньне галавы габрэйскага гультая». Пасьля абезгалоўліваньня труп гультая чвартавалі і тыя чвэрці доўга віселі на мураванай шыбеніцы. Тая карціна, прызнаецца мемуарыст, «выклікала ў ва мне такую агіду да мяса, што і праз месяц я ня мог на яго ні глядзець, ні ўжываць».

50 У берлінскай газэце «Бэрлінішэ Прывілігрыртэ Цайтунг» добрасумленна занатаваны прысуды да сьмерці, выкананыя ў Любліне, Луцку і Замосьці. Інфармацыю зь берлінскай газэты падаў у сваёй кніжцы ўзгаданы ксёндз Ярахоўскі.

Прызнаньне – гэта яшчэ нічога ня значыць, няшмат кажа, але калі ў кніжцы Ярахоўскага «Берлінская газэта як матэрыял да падзеяў у Польшчы XVIII стагоддзя» (Познань 1863) пад той самай інфармацыяй пра сьмерць Яна Тжоса, перапісанай зь нямецкай «Цайтунг», я ўбачыў размашыстую прыпіску знаёмым мне почыркам, хоць гэтым разам па-польску: «Гэта мая работа – Лілін», я зразумеў, што не хачу, каб сьмерць каханка і яе імя былі забытыя.

*

Ня ведаю, які гэта год. Пэўна, 20-30-я гады сямнаццатага стагоддзя. У Любліне налічваецца 8 тысячаў кабет і крыху меней мужчын. У горадзе, вядомая рэч, былі сабакі, каты, каровы, коні і сьвіньні. Яшчэ козы. Выява адной зь іх дагэтуль аздабляе пячатку горада. Былі эпідэміі, пажары, чэрці і чарцяняты.

Чэрці – яны як людзі – упартыя і зухаватыя, і ня кожны баіцца сьвятой вады. Траплялiся і паважныя, якія шанавалі спакой і парадак. Здарылася, што чалавек насьмяяўся з права, а чорт абурыўся. Склікаў чарцячы суд, больш строгі за чалавечы. Але ж і незвычайнае гэта было, скажу я вам, відовішча ў любельскім Трыбунале[51] Уначы чарцяняты ў бар-

51 Любельскі Трыбунал (Галоўны Каронны Трыбунал у Любліне, найвышэйшы (апеляцыйны) суд для шляхты ў 1578-1794 гадах). Падчас таго начнога разбору Хрыстос на ўкрыжаваньні, прымацаваным у зале абмеркаваньняў, адвярнуў галаву, каб не глядзець на суддзяў-чарцей, якія судзяць больш справядліва за людзей. Сёньня трыбунальскі крыж знаходзіцца ў любельскай арцыкатэдры, стол з выпаленай чортавай рукой – у музеі ў любельскім замку.

вовых мантыях, у кунтушах, тогах і парыках, зь вялікімі ведамі трыбунальскіх законаў, склалі дэкрэт на карысьць пацярпелай у тым выпадку беднай удавы. Дэкрэт той мае штэмпель, а калі каму цікава паглядзець яго сёньня, то адбітак чортавай далоні ёсьць на дубовым стале.

Ёсьць і выява таго суду: сярод купкі чарцей – ганарыстая чартоўка ў сукенцы з дэкальтэ.

Яшчэ дымеў на стале выпалены сьлед лапы, як яна ўвайшла ў семінарыста па імені Антоні, ёй хутка даў рады Ян Бартос, экзарцыст зь вёскі Дзесёнта. Перш чым плябан Мруўка адчытаў тры малітвы, Ян вывеў яе зь цела клерыка, схапіў за карак і кінуў, якката да сабак. Засаромленая, блукае яна і па сёньня сярод сьцежак і трысьнягоў на рацэ Быстжыца. Палохае хатніх гусей і чароды дзікіх качак, ірве кашулі і майткі падлеткаў, якія купаюцца. Пра яе чарцячае жыцьцё распавёў мне Чэслаў Май, народны філосаф і паэт, вясковец зь Цяцежына.

– А як яе клічуць? – спытаўся я.

– Клічуць? *Ліліна*… *Ліліна*, – двойчы паўтарыў філосаф.

Пра семінарыста Антонія я ня чуў, але справы Яна Бартоса, экзарцыста зь вёскі Дзесёнта, былі мне добра вядомыя. Чартоўку *Ліліну*, як я думаю, надарылася бачыць і мне. Выглядзеў неяк асобу, якая плюхалася ў абалоне Быстжыцы, дзе раней стаяў млын фермера Зарубы. Я замёр, як слуп. Пырскала на сваё старое, мар-

шчыністае цела цёплай ліпеньскай вадою. Яе сівыя валасы засланялі твар, а калі іх адхінула, заўважыла мяне і выбухнула зьдзеклівым, гарлавым сьмехам. Выставіла ў мой бок азадак, пляснула па ім і зьнікла ў трысьнягах.

*

Ідзі Пжыбыльскі быў ксяндзом, пісьменьнікам, перакладчыкам. Духоўны стан кінуў, зь літаратурай не расстаўся. Пераклаў Вальтэраўскага «Кандыда», але свайго прозьвішча ў кніжцы не абазначыў. Працу прысьвяціў князю Ігнасю Патоцкаму, той падарунак прыняў, пахваліў, нават прэміраваў, але наклад даручыў зьнішчыць. Спаліць. Пжыбыльскі, як можна меркаваць, і з гэтым даручэньнем справіўся. Асобнік, ацалелы ад пагібелі, які знаходзіцца ў маім валоданьні, зьмяшчае прысьвячэньне «Маёй Літыніі»[52], накрэсьленае рукою аўтара. Цяжка пра адораную ня думаць зь сімпатыяй – выратавала тое, аб чым не засталося сьледу.

---

52 Скуль вядома, што гэта чартоўка? А дзеля каго пісьменьнік і ксёндз у адной асобе маглі згубіць галаву? Ліберцінскія погляды Пжыбыльскага выклікалі абурэньне самаго Хугона Калантая і… чарговы загад канфіскацыі кніжак. Агаворкі касьцёла да – як бы сказалі сёньня – ідэалагічнага грунту Пжыбыльскага, прывялі да таго, што любельскі перакладчык у 1785 годзе ў лісьце рэктару Галоўнай Каронай Школы акрэсьліў сваю стрыманую пазіцыю ў адносінах да «вялікіх філосафаў» таго часу. Мала таго, у творы пад назовам «Гістарычна-крытычныя весткі пра жыцьцё і творчасьць пана Вальтэра і іншых філосафаў», падпісаным ужо сваім прозьвішчам, ён быў вымушаны адрачыся ад выказаных раней ухвалаў і захапленьняў творамі Дзідро, Гобса, Мантэкс'ё. Вядома, Пжыбыльскі а ні на ёту ня верыў у абвінавачваньні, якія яму прыйшлося выказаць модным пісьменьнікам і філосафам, але што зробіш, дрыготкай рукою і з агідаю да сябе напісаў пра ўлюбёнага ім Вальтэра, што «з-за злоўжываньня талентамі стаўся абразаю нашага стагоддзя».

# ЗАКАХАНЫ ЧОРТ

Сярод польскіх людзей панавала перакананьне, што чорт надзвычай ласы да прыгожага цела. Да нашых часоў дайшло нямала сказанкаў аб чортавых заляцаньнях. Не адну панну яны давялі да згубы, але шмат спрытных і пранырлівых кабетаў, у народных паданьнях гэта былі зазвычай удовы, здолелі абвесьці закаханага чорта вакол пальца. У тых апавяданках партрэт нячысціка пазбаўляўся драпежнасьці. Прадстаўнік пекла паўставаў як неабчасаны вясковы хлопец, непрактычны грубіян, разявака зь нялюдзкай моцай. І без усялякіх там дэманічных рысаў.

Ніхто ўжо ня памятае, якое імя насіў слупянскі чорцік. Суседзі кепска азываліся аб жыхарах Слупі Новай, што ляжыць ля падножжа Сьвентакжыскіх гор, абзываючы іх «лыкамі» – мяшчанамі. Відаць чорт, які жыў сярод такіх, мусіў быць «лыкаватым». Але на сьвет глядзеў па-свойму, ведаў – хто злавіў у пятлю зайца ці казулю, а хто крадзе пакрысе панскі авёс, сена ці бульбу. А яшчэ меў сваё заданьне, самыя пажылыя запэўнівалі, што пільнаваў скарбы. Аднак трацiў час не толькі на старажоўства.

Трапіла на чортава вока адна ўдоўка. Ня брыдкая, не старая і даступная. Зьяўляўся чорт у яе двары часьцей за ўсё ўвечары, здаралася, частавала яго вячэрай. Звычайны чорт, а як чалавек, прагне гутаркі і цяпла, часам галодны, што воўк. Мог некалькі тузінаў піра-



*Чорт і баба. Геронім Босх*

з Назарэту, і Ён хадзіў, дабро ўчыняючы і ацаляючы ўсіх, паняволеных д'яблам, бо Бог быў зь ім».

Вяртаўся задуменны. Думкі аб моцы Бога, крохкасьці чалавечага жыцьця і д'ябальскай мізэрнасьці выклікалі ў ім неспакой. А яна тым часам, як ужо казалі, выкрала са схованкі золата і рушыла ў сьвет. Толькі дарогаю згубіла шнур караляў. Суседка знайшла і занесла Сьвятой Панне ў касьцёл.

Ці далёка рушыла? Да Францыі? Сярод народных чуткаў няма згоды наконт месца ўцёкаў. Адны даводзілі, што ў далёкую Амерыку, другія – што ледзьве не ў блізкую вёску, дзе сваякі жылі.

Мог пагнацца за ёю ў сьвет і спрабаваць пакараць, адпомсьціць, але застаўся. Самотны і абсьмяяны. Можа быў прыпісаны да гэтага месца, а можа яму ў пашпарце адмовілі? Дык пякельная адміністрацыя пераглядзела картатэкі і ня мела сумненьня, што слупянскі лык да помсты не прыбегне. Пакараньне даручылі іншым. І тыя выканалі заданьне. Зладзейку задушылі і павесілі на сухой галіне. З павешанай зваліліся каралі і зачапіліся за куст дзікай ружы. Хтосьці іх падняў і занёс у слупянскі касьцёл.

Так што зноўку зьявілася тэма караляў. У слупянскім касьцёле пад заклікам сьвятога Ваўжынца, у бочным нефе вісяць крывава-чырвоныя шнуры. Хіба тыя, выкрадзеныя ў чорта? Пэўна, тыя. А можа, і іншыя.

Шымон Міхніо, народны апавядальнік, неаднаразова бачыў і неаднаразова дзівосны факт пракамента-

гоў з капустаю праглынуць і запіць хлебным квасам, трыма чвэрцямі кварты. І ведала ж, зь кім дачыненьні мае. Госьць жа не хаваў свайго паходжаньня. Як і мэту сваіх візітаў. Хацеў жаніцца. І неадкладна. Вымаў з-за пазухі падарункі: каралі, пярсьцёнкі, залаты дукацік, а часам і два. Шчодры быў, так, але ў меру. «Сапраўднае багацьце, – казаў, – толькі пасьля шлюбу».

У ваколіцах Сьвентакжыскіх гор заўсёды хапала спрытных кабетаў. Але чортава абраньніца належала да найспрытнейшых. І хоць была сквапная, за чорта ісьці не зьбіралася. Нават за самага багатага. Хуценька выведала, дзе яе залётнік каштоўнасьці хавае і абрабавала. Тымі хвілінамі, калі чарцяка пайшоў… у касьцёл.

У Слупі Новай, як і ў Слупі Старой, нават сёньня той-сёй думае, што чэрці абавязаны нядзельныя чытаньні Евангельля слухаць. А раней дык усе былі ў гэтым перакананыя. Такі факт занатаваў Мікалай Рыбоўскі ў 1906 годзе на старонках этнаграфічнага часопіса «Люд», артыкул «Чорт у народных павер’ях».

Украсьці золата ня фокус, нават калі яно чортава. Аднак належыць вынайсьці спосаб, каб унікнуць помсты. Удава здолела вывучыць пякельныя звычкі, мела для гэтага даволі часу і здольнасьцяў, бо не адзін вечар прагаманілі. Высьветліла, што чорт ня помсьлівы, лютасьць жа яму аднолькава незнаёмая, як і хітрасьць. Быў наіўны, нудны, лёгкаверны. От лык слупянскі!

Неяк у нядзелю закінула яму паціху ў капусту прусака. Заўважыў яго, а як жа?! Лыжкай не падхапіў, ня

зьеў, толькі папрасіў у гаспадыні солі або перцу. Толькі адвярнулася да буфету, а ён тады вусяка лапамі выхапіў, пад стол кінуў і раздушыў ступаком.

Можа варта было б талерку аб падлогу ляснуць, пырхнуць па-хамску, як п'яны багацей у карчме, а гэты трымаўся, як, бяз малага, сьвецкі чалавек.

Соль ці перац падсунула, угледзела, як страсаў з лап капусту, пра прусака нічога не сказаў, толькі вусны пагарду выдалі.

– У Францыю б зьезьдзіць, альбо ў Бадэн-Бадэн, – прамовіла яна.

Шмат чаго мог, толькі пасаду пры скарбах пакінуць ня меў права. «Мярзотны гэны чужы край, – кажа. – Там нават вясковыя бабы на фартэпіянах граюць!» З панталыку яе зьбіць не ўдалося, наадварот, яшчэ большую цікаўнасьць да таго капрызнага ды эксцэнтрычнага сьвету ўзбудзіў. Дакляраваў неадкладна фартэпіяна набыць, калі ўжо яна музыку любіць, а можа таксама бубен, скрыпку, ці арган. Парадавацца не давялося. Набыў скрыпку і сам на ёй граць вывучыўся. Здольны, музыкальны і нават сентыментальны, чарцяка.

Пайшоў Велікоднай Нядзеляй у касьцёл, а ксёндз чытаў фрагмент зь «Дзеяў сьвятых Апосталаў»: «Калі Пётр прыйшоў у дом сотніка зь Кесарыі, ён сказаў: «Вы ведаеце, што адбывалася па ўсёй Юдэі, пачынаючы ад Галілеі, пасьля хрышчэньня прапаведанага Янам? Як Бог Духам Сьвятым і моцай памазаў Ісуса

ваў, паведаміў, што людцы гэдак свае асабістыя сілы, фантазіі, уяўную ўладу і хітрасьць выпрабоўваюць. І яна спрабавала, бо найшло яе грэшнае жаданьне.

Хто ведае, якімі яна часамі жыла. Можа, не так даўно, на газэты ўжо магла падпісацца, там і вычытала пра Бадэн-Бадэн і вежы Эіффля, адтуль і жаночая прага пабачыць тыя цуды. А можа, шпацыр па бадэнскім курорце, як і пад знакамітай вежай, – адзінае жаданьне апавядальніка? Паклікаў яго ў сваё апавяданьне як нязбытныя хвіліны цуду і101 мараў. Гісторыя адразу напоўнілася драматызмам і настальгіяй, пасьпешна запісаў яе, спадзеючыся захаваць клімат таго вечара, калі вільготная і халодная імжа ахінула піхты і лістоўніцы, а Сьвентакжыская пушча губляла свае абрысы, станавілася грознай, хмурнай і таямнічай. Магло нават скласьціся ўражаньне, што каменная статуя пілігрыма, адпаведна легендзе, выправілася ў бок вяршыні Лысай гары – закалыхалася, здрыганулася і ў гэты момант быццам пасунулася на тое легендарнае макавае зернейка, таўшчыня якога штогод зьмяншае шлях скамянелага вандроўніка да мэты.

*P.S. Для перакладчыка і для чытача.*

*Слупя Нова, у якой адбываюцца падзеі апавяданьня, знаходзіцца ля сьхілаў невялікіх Сьвентакжыскіх гор, узгаданых у апошніх сказах апавяданьня.*

*Тыя горы парасьлі цямнеючымі піхтамі і лістоўніцамі Сьвентакжыскай пушчы... Самым высокім месцам Сьвентакжыскіх гор зьяўляецца Лысая гара, на ёй – павод-*

*ле старой легенды – ідзе каменная статуя пілігрыма, які штогод пасоўваецца на макавае зярнятка ў бок вяршыні. Калі дойдзе да яе, адбудзецца канец сьвету. Наступіць гэта ня хутка, бо тэмп каменнай статуі не шалёны, так што палохацца блізкага канца сьвету ня трэба.*

## ГРОШЫ БЕДНЯКОЎ – ТОЛЬКІ БЕДНЯКАМ

Адзін вельмі бедны чалавек маліўся, каб палепшыць сваю долю. Маліўся старанна, але зьмяніць свой лёс ня мог. Па-ранейшаму пакутваў ад беднасьці. Таму прасіў Бога, каб дазволіў яму што-небудзь украсьці і гэтым паганым учынкам выратаваць сваю сям'ю ад немінучай галоднай сьмерці. Маліўся перад алтаром, а пасярод касьцёла стаяла на катафалку труна. Неўзабаве павінны былі хаваць пакладзенага ў ёй багацея. Бядак заўважыў, як у касьцёл прабраўся густоўна апрануты мужчына, і, ня ўбачыўшы пагружанага ў малітву, стаў труну адчыняць. Быў гэта ніхто іншы, як сам чорт. Калі ўжо даў рады аддзерці накрыўку, паклікаў пагружанага ў малітву: «Дам табе грошай, наўзаем забяру душу!». І пакаціліся па каменнай падлозе залатыя манеты. Галадранец устаў з каленяў, пазьбіраў дукаты ў сьвітку і шчасьлівы вярнуўся дахаты. Неадкладна набыў дзецям на вячэру хлеба і сыру, а наступным днём кавалак зямлі. Пачаў жыць заможней і спакойней. Вяскоўцы, як і ўсе людзі

на зямлі, з зайздрасьцю назіралі за сваім суседам, які нечакана зь бедняка ператварыўся ў заможнага гаспадара. Не затрымліваючыся, данесьлі пану пра ўзбагачэньне галадранца.

– Відаць украў, – давалі паказаньні ў сваіх даносах, – бо зямлю толькі набыў, а з-за стала не ўстае!

– Адкуль грошы?! – пытаўся селяніна ўжо назаўтра пан.

– Я ня краў, – паўтараў дапытваемы, бо што яшчэ мог сказаць?

Пан загадаў зачыніць селяніна ў склепе, а ў яго халупе правесьці ператрус. У каморы знайшлі золата. І хто павінен дапамагчы няшчаснаму? Натуральна, сам чорт! Дукаты ж даў яму не для таго, каб нарабіць непрыемнасьцяў.

Падараваў грошы ўбогаму таму, што ліхвяр, які некалькімі днямі раней разьвітаўся са сьветам, назьбіраў іх, абяздоліўшы бедакоў. Нават пасьля сьмерці не хацеў ні зь кім падзяліцца. Таму распарадзіўся, каб пахавалі яго зь кішэнямі, набітымі золатам. Між тым – паводле д'ябальскіх загадаў – грошы, што ад бедных прыцяклі, да бедных павінны і вярнуцца.

У апошнюю ноч зьявіўся чарцяка ў доме падступнага пана і вынес ложак са сьпячым гаспадаром на самае высокае гумно. Прачынаецца пан і бачыць над сабою зоры.

– О, мой Ісусе, чаму я апынуўся так высока? – усклікнуў ён.

Але не Госпад Ісус адказаў яму, а сам чорт:

– А чаму гэты бядак апынуўся так глыбока? – прагучала чортава пытаньне.

Адказу не было, таму чорт сам скончыў сваю рэпліку:

– Калі ня вернеш грошы, ня выбавіш з кабалы, жыцьцё скончыш у бусьліным гнязьдзе!

*

Гэтую гумарыстычную сцэнку ажыцьцяўленьня чортавага правасуддзя ігралі групы калядоўшчыкаў, якія ў часы майго дзяцінства наведвалі хаты ў вёсках і мястэчках[53].

53 У гэтым месцы я павінен прыгадаць яшчэ адно здарэньне з групкай калядоўшчыкаў, якое шырока каментавалі ў маіх родных мясьцінах. У перыяд Каляд і Новага году моладзь, ды і дарослыя мужчыны, пераапранутыя ў караля Ірада, яго гетмана і жаўнераў, а часта і ў Багародзіцу са сьвятым Юзафам прадстаўлялі сцэны з апокрыфаў і Сьвятога Пісаньня. Групку, чый выпадак я ўзгадваю, утваралі чатыры небагатыя мужчыны рознага ўзросту. Апраналі строі Анёла, Чорта, Ірада і Сьмерці. Анёла іграў Мацей Тамаля, якому было ў той час за пяцьдзясят, надзяваў на плечы белы хітон, прымацоўваў крылы, а лысы чэрап прыкрываў кудлатай шэрай грывай, зробленай з канаплянай вяроўкі. Распачынаў ён як падлетак. Нехта падумае, што ў моладасьці – у якасьці анёла – ён бы выглядаў лепей, бо херувім павінен мець мяккія рухі, лагодны і нават нявінны позірк, хлапечы тварык і доўгія дзявоча-анёльскія валасы. А Мацей меў ужо цьвёрдыя, спрацаваныя далоні, вялікія, як боханы хлеба, квадратную фізіяномію, пакрытую сівеючым шчаціньнем, праніклівыя сьветлыя вочы пад калматымі бровамі, словы ж вымаўляў цьвёрда і гучна. І пасланьнік нябёсаў мог быць такім? А чаму ж не? Свамі трубным голасам ён распавядаў дзецям, іх бацькам і бабулям зь дзядулямі як Бог стварыў неба і зямлю, як назваў сьвятло днём, а цемру ночай, як настаў першы ранак і першы вечар. Яго слухачы, маладыя і старыя, раскрыўшы рот ад зьдзіўленьня і захапленьня, углядаліся ў Мацея-Анёла нібыта ў сапраўднага пасланьніка Бога, адзінага ў сьвеце настаўніка, і дрыжыкі прабягалі па іх сьпінах як самыя працавітыя мурашкі. Мацей, як сказалі б зараз, быў знакамітым апавядальнікам, непараўнаным народным казачнікам, таленавітым прыдумшчыкам і фантазёрам. Трое астатніх ігралі сцэны, якія ён тлумачыў гледачам. Ніводзін сьвятар з навакольля ня здолеў бы з такім запалам прамаўляць пра зьяўленьне на зямлі мужчыны і жанчыны, пра боскія запаветы і іх парушэньні першымі людзьмі. Распавядаў яшчэ, як прыйшоў загад цэзара Аўгуста правесьці ва

# ТРЫ ПАСЕЛІШЧЫ І ТРЫ КАХАНЬНІ

*Гэтыя тры паселішчы – Астравец, Труйца і Дзьвікозы.*

*У Астраўцы Сьвентакжыскім, буйным прамысловым горадзе, прайшло маё дзяцінства. Непадалёку ад надвісьлянскай вёсачкі Труйца, разьмешчанай у 35 кіламетрах ад Ас-*

ўсёй дзяржаве перапіс насельніцтва, і першы гэтакі сьпіс складаўся, калі намесьнікам у Сірыі быў Квірыній. І выправіўся Юзаф з Галілеі ў Юдэю, горад Давыдавы, каб запісаць сябе і Марыю, зь якой быў абвянчаны, і якая была ў «цікавым» стане…

Адкуль ведаў ўсё гэта Мацей, малазямельны селянін, які відаць здолеў бы расьпісацца, але бадай што ня ў стане быў чытаць і пісаць? Відаць распавядаў тое, што запомніў. Хутчэй за ўсё ня здолелі б паўтарыць тыя ролі яго сябры: Юзаф па-мянушцы З-за Вады, бо жыў за ракой, Яська-шавец і Вацлаў, худы як трэска – таму ўбраны ў Сьмерць.

Тым разам чакалі яго дома ў Яські. Юзаф са сьвітанку быў ужо замурзаны сажай нібы сапраўдны чорт, гаспадар – таксама ў гарачай вадзе купаны – пасьля сьняданьня ўзьдзёр на галаву бляшаную карону. Пазьней за іншых апрануў касьцюм Вацлаў, але і ён хваляваўся, нервова стукаў касільном аб падлогу. Штохвілінна паглядаў у вакно. Парушыў сьнег, мінаў дзень, а Мацея не было.

– Што яго магло затрымаць? – пыталіся яны самі сябе і рабілі розныя здагадкі.

Нарэшце ён прыйшоў, і яны з палёгкай уздыхнулі. Хуценька пайшлі, бо ў мястэчку Красныстаў іх чакалі. Мацей, як заўжды з натхненьнем распавядаў пра рай і пекла, абвяшчаў хвалу дабру і асуджаў зло. І як заўсёды зачараваныя гаспадары аддзячылі іх каўбасой, крывянкай, сальцісонам і аладкамі. Вярнуліся ўначы, і Мацей-Анёл не захацеў браць сваю частку заробленага пачастунку! Сябры зьдзівіліся. Бо заўсёды ж браў!

Гэта быў не Мацей, гэта быў нехта іншы. Потым у Краснымставе і навакольлі казалі, што гэта быў сапраўдны анёл! Мацей, стары Мацей пяцьдзесят гадоў іграў анёла, а тым разам нябесны анёл сыграў Мацея!

Чаму?

Бо Мацей памёр! Ранкам адчуў сябе кепска, але яшчэ апрануў анёльскі ўбор, наклаў валасы зь вяроўкі, крылаў не прышпіляў яшчэ, бо хацеў на хвіліначку прылегчы, а з крыламі нязручна, і так, як Анёл-чалавек, памёр. Праўда, некаторыя казалі, што не прыйшоў да дому Яські, бо зламаў нагу, іншыя намякалі на нейкую хранічную хваробу.

Але завітала да яго, мабыць, сапраўдная сьмерць. Нябесны анёл ня ўзяў пачастунку, бо навошта анёлам каўбаса і аладкі? Калі б Мацей ляжаў са зламанай нагой або зь нейкай іншай хваробай, то яго нябесны заступнік дакладна бы не пагрэбаваў часткай, што належала хвораму.

*троўца, у маіх бабулі зь дзедам, Гэлены і Аляксандра, я праводзіў канікулы. Невялікія Дзьвікозы – ня вёска, ні мястэчка – таксама разьмешчаны на Вісьле, вышэй па рацэ ў 10 кіламетрах ад Труйцы. Тут ёсьць чыгуначная станцыя, на якой спыняюцца цягнікі з Астроўца да Сандаміра. І адтуль недалёка да Астроўца, таксама 35 кіламетраў.*

*А цяпер пра тры каханьні двух мужчын і двух кабет у 1939-1942 гадах, у суправаджэньні некалькіх маіх каментароў.*

*

Ядзьвіга З., была адзінай дачкой у самай заможнай сям'і ў Труйцы. Была яна ня толькі багатай, але і прыгожай.

– На ўсю ваколіцу! – казалі тамтэйшыя людзі. Гэта значыць, што ва ўсім навакольлі ніводная панна не магла раўняцца зь ёю прыгажосьцю. Карысталася яна посьпехам у кавалераў, сялян-мацакоў, гатовых да рамансаў, ды і жаніхоў хапала. Зьнешнасьцю, інтэлектам, сьвецкімі манерамі, ды і заможнасьцю, выдзяляўся аптэкар з Астроўца, Антон Павуй. Не хаваў сваіх сур'ёзных намераў, падабаўся панне, бацькам таксама, зрабіў прапанову, якая была прынята. Шлюб і вясельле прызначылі на кастрычнік 1939 году. Вядома, была вайна, не сьціхалі стрэлы, гінулі жаўнеры і цывільныя, але жыцьцё працягвалася: адны змагаліся, іншыя гандлявалі, людзі нараджаліся і паміралі… Успыхвалі каханьні, часам гарачыя і моцныя, але здараліся і здрады, калі каханка ці каханку кідалі.

Малады набывае на вясельле гарэлку, сям’я маладой стараецца прыняць гасьцей як мага больш пышна – гэты прынцып стары як сьвет. Так павінна было адбыцца і ў Труйцы – малады планаваў цягнікам перавезьці гарэлку з Астроўца ў Дзьвікозы, там загрузіць скрынкі зь ёю на фурманку і даставіць пад дах бацькоў маладой. Тым асеньнім ранкам пан Антон выскачыў з вагона на перон і не пабачыў фурманкі.

– Што за ліха? – відаць, падумаў ён. Часу на высьвятленьне не было, цягнік павінен ехаць далей. Пасьпешліва выгрузіўшы скрынкі, аптэкар абтрос рукі. Тут падыйшоў да яго ўбогі небарака.

– Вясельля ня будзе! – заявіў ён. – Панна Ядзьвіга выбрала іншага.

Пра такія сітуацыі кажуць, што вестка шакіравала. Можа, і аптэкара шакіравала?

Я думаю, што шмат хто на яго месцы сьціснуў бы зубы і кулакі і што моцы кінуўся да цесьця зь цешчай, у Труйцу. І праз гадзіну бегу – ён несумненна заняў бы гадзіну – раздаўся поўны болю і роспачы крык: «Заб’ю яе і яе бацькоў! Заб’ю ўсіх!»

Але не аптэкар з Астроўца.

Удар ён прыняў з годнасьцю. Надзвычай спакойна.

Ён выпаліў папяросу, сабраўся з думкамі, і… вырашыў пачаставаць жыхароў Дзьвікозаў! У адзін момант вырашыў зладзіць на станцыі п’янку для тутэйшых. Сёньня на такую выпіўку напэўна ня далі б дазволу, бо ў грамадскіх месцах піць алкаголь забаронена, тады даз-

волу ён ні ў кога не пытаўся – скрынкі занесьлі пад дах станцыі, гарэлку разьлілі па шклянках і хто хацеў, мог піць хоць да раніцы, да апошняй кроплі. Вестка, што на станцыі можна выпіць, разнеслася бліскавічна. Прыходзілі зблізку і здалёк, сядалі на лавах, зычылі аптэкару з Астроўца здароўя, нехта ня ведаючы закрычаў: «Здароўя маладым!». Аптэкар зьедліва ўсьміхнуўся. Другі, нейкі мясцовы філосаф, імкнучыся спадабацца фундатару, паправіў тост папярэдніка, крыкнуў: «На пагібель маладой!», але аптэкар запратэставаў.

– Пра панну Ядзьвігу ні слова! – загадаў ён прысутным.

Адзін з маіх інфарматараў запэўніваў мяне, што знайшоўся нейкі разумнік са спагадлівым сэрцам і падкінуў ідэю зрабіць фундатару нешта накшталт шлюбнай ночы, і нібыта паслалі ў Сандамір за паненкай. Пэўна, гутарка ішла пра нейкую дзяўчыну лёгкіх паводзінаў.

Можа дайшло і да гэтага?

Праз тры гады яго як жаўнера-падпольшчыка павесілі на астравецкім рынку гітлераўскія каты. Ягоную сьмерць аплаквала ўжо другая кабета.

*

Панна Ядзьвіга выйшла замуж за пана Тадэвуша К., сына багатых суседзяў.

Межы, разьдзяляючыя дагэтуль іх палеткі, разаралі, і пану Тадэвушу, пра якога ведалі, што ён працавіты і рана ўстае, прыйшлося зрывацца з ложка яшчэ раней. Ён быў ня толькі працавіты, але і кемны, чуйны

на сельскагаспадарчыя новаўвядзеньні. Па вайне першы пабудаваў цяпліцу і шырока праславіўся выгадаванымі там цудамі садаводзтва – ружамі, цюльпанамі, гіяцынтамі. Апрача таго, сеяў рапс, садзіў гародніну, у пачатку шасьцідзясятых у вялікай колькасьці гадаваў трускаўкі. Я памятаю іх смак! У той час, як я ўжо казаў, я праводзіў вакацыі ў суседняй вёсцы ў бабулі і дзеда. Пасьля купаньня ў Вісьле мы з сябрамі крадком забіраліся на плантацыю. Аднойчы я забавіўся і ў апошні міг ледзьве здолеў пазьбегнуць пугі ахоўніка, бо вялікую плантацыю ўдзень і ўначы пільнаваў добра аплочваемы сторож.

Нашчадкі Ядзьвігі і Тадэвуша рушылі ў сьвет на пошукі яшчэ большых грошай і ўдач. Мінулым летам на цьвінтары ў Труйцы я знайшоў недагледжаную магілу іх бацькоў.

*

У Астроўцы, на вуліцы Польнай, у доме пад нумарам 13 прайшло маё дзяцінства. На суседняй тэрыторыі, абазначанай нумарам 15, у вялікім занядбаным аднапавярховым доме з чырвонай цэглы, жыла адзінокая, псіхічна хворая асоба. Паўсюль яе ўзгадвалі як «дурніцу Славікоўску». Яе вокны, што выходзілі на вуліцу, былі заўжды завешаныя. Неахайна і бедна апранутая, яна часта размаўляла сама з сабою, людзі ўступалі ёй дарогу, дзеці сьмяяліся. Здаралася, яна зьяўлялася на нашым падворку, прасіла вады, маці падавала ёй шклянку, часам лусту хлеба з тлушчам

або маслам і сырам. У дні, калі яна лепш пачувалася, калі спыняліся нервовыя прыступы, можна было – хто меў цярпеньне – паслухаць яе прызнаньні. Распавядала маёй маці, што чуе – і ўдзень, і ўначы – як нямецкія жандары зьбіваюць шыбеніцу.

– Забралі майго самага дарагога чалавека, – роспачна казала яна.

Толькі праз шмат гадоў пасьля яе сьмерці я даведаўся, што ўсё сваё жыцьцё яна аплаквала свайго каханага, Антона Павоя, аптэкара з Астроўца.

## АКРАЕЦ ХЛЕБА

Раней за многіх пасяліўся ў вёсцы Ясёны чорцік Кічка. З хвастом, рагамі і незвычайнай сілай. Мог, шэльма, кола млынарскае круціць. Сваволіць любіў. Быдла напалохае, загоніць у балота ці лужыну, вандроўнікам шлях зблытае. Дзяўчатам у абутак крапівы напхае. Заўсёды, аднак, Кічку можна прагнаць было – пырснуць сьвянцонай вадой ці знак сьвятога крыжа зрабіць.

Працаваў неяк на полі бедны вясковец. Надрываўся са сьвітанку з матыкай, бо ня меў каня, бядак. На мяжы паклаў загорнуты ў ільняную хустку акраец хлеба. З хмызоў за чалавекам чорт назіраў, і выглядзеў на мяжы сьняданак. Падкраўся, схапіў, а як ськібу ўпісаў, зарагатаў задаволена. А селянін, што хлеба паз-

бавіўся, заплакаў. Звычайна, па-чалавечы. Плакаў, бо забраў з дому апошнюю лусту. Мог дзецям пакінуць, але забраў, каб сілы падтрымаць – працаваць жа ўвесь дзень. А яе чорт зьеў. Кічка ад радасьці ажно сябе па кумпяках заляскаў. І тут якраз зьявіўся адзін з паслугачоў самога Вельзэвула, гаспадара пекла. Невядома, ці яго чалавечы плач ўзрушыў, ці сьмех таварыша. Паглядзеў і зразумеў, што адбылося.

– За свой непрыстойны ўчынак, – вылаяў Кічку паслугач, – будзеш працаваць у таго бедака. Канём! І датуль, пакуль ён не набудзе якую кабылу!

І нікуды ня дзенешся.

Працаваў Кічка нястомна. Раздвойваўся і растройваўся. Араў, сеяў, касіў, зьбіраў. А як ужо вясковец сабраў грошай і набыў спраўнага коніка, пакінуў Кічка вёску. Ад сораму. Чэрці таксама свой гонар маюць. Пасяліўся побач, у трысьнягах ля возера. У адзіноце. Па суседству зь дзікімі качкамі, маўклівымі рыбамі і ракамі.

Гадоў сто пяцьдзесят, а мо дзьвесьце пазьней ехаў роварам празь Ясёны Стах Капэрак. На багажніку прыціснуў спружынай бохан хлеба. Набыў дзецям, бо як кабета спачыла на могілках, сам гадаваў чатырох дашкольнікаў. Не даехаў да дому, як з хаты Тадзіка Клоса, таксама ўдаўца, пачуў узбуджаныя мужчынскія галасы.

– П’юць! – адразу ськеміў Стах Капэрак. – Пэўна, яблыкі прадаў.

Сапраўды, Тадзік ранкам нарваў тры скрынкі садавіны са сваёй адзінай у садочку антонаўкі. Хапіла на паўлітэрак чыстай гарэлкі і пляшку самага таннага віна.

Пакінуў ля плоту ровар, хуценька пераскочыў чатыры спарахнелыя прыступкі, парог расчыненай насьцеж хаты, лічыў, што яму тут не адмовяць. І гэтым разам не памыліўся.

Шум п'янкі завабіў яшчэ і Зыгмунта Дуду. Стаяў ён пад плотам у горычы – хацелася далучыцца да кампаніі, цягнула, але ведаў: келіх не паднясуць. Бо сам ён, хоць і аматар выпіць, нікога ніколі гарэлачкай не ўганараваў.

Стаяў так, ажно пакуль ня ўгледзеў ровар з боханам на багажніку. Выпіць не выпадала, але хлеба паспытаць мог. Той быў на адлегласьці працягнутай рукі. Дастаў, палову зьеў, палову кінуў сабакам.

Ніхто ня бачыў, як Дуда ламаў хлеб, запіхваў яго сабе ў рот, а потым карміў сабак. Заўважыў толькі паслугач Вельзэвула, бо гэты са сваёй пякельнай місіяй няспынна шнарыць па зямлі.

– Будзеш смажыцца ў пекле! О то ж я паклапачуся! – шалёна завыў нячысьцік.

Дуда пра чортава рашэньне нічога ня ведаў, таму не хваляваўся. Зрэшты, а ні ў пекла, а ні ў байкі ня верыў.

Пякельны вястун пайшоў далей і ўбачыў Кічку. Сядзеў той пад вярбой і грэў старыя косьці. Чэрці хоць і не паміраюць, але старэюць. Так бабуля Стаха

Каперкі казала. Адкуль гэтыя веды чэрпала – невядома, але кабета была разумная.

«Заплаціў за свой учынак стогадовымі пакутамі, – падумаў ён. – Гэта ж трэба было? Ні пеклу ніякай радасьці, ні людзям ніякай навукі».

На імгненьне шкада зрабілася яму пякельнага таварыша. Але што Кічцы да спачуваньняў, хай сабе нават і ад такога саноўніка? Ведаў гэта прыслужнік, таму прысьпешыў крокі, каб Кічка ня ўгледзеў.

А праз хвіліну ішоў Зыгмунт Дуда. На сажалку. З кашом, уюноў лавіць. Убачыў – пад вярбою чорцік сьпіць.

«А што гэта за страшыдла?» – спытаўся сам у сябе і нахіліўся за каменем. Шпурнуў, і трапіў чорту ў вуха...

Заскавытаў Кічка ад болю. От жа бедны чорт.

## МАНАХ. ПТАХ ЦІ АНЁЛ?

Увесну паехаў я ў Падую, да сьвятога Антонія. Мне паказалі ягоны хабіт і косьці. Не хацелася верыць, што яго няма. Гэта ж апякун няўважлівых, які ўжо семсот гадоў падкідвае людзям згубленыя рэчы.

Зь велічэзнага падуанскага храму я выйшаў на маленькі дзядзінец. Пах магноліі запоўніў яго. Куст, а дакладней цалкам ужо сфармаванае дрэўца, абсыпанае бела-ружовым квеценем. З хвіліну цешыўся я незям-

ным водарам. Грэшна падумалася: так павінен пахнуць анёлак пасьля купаньня. І раптам... Высока, за тры метры над зямлёй небясьпечна выгнутыя галіны. І там, быццам птушка, учапіўшыся за вяршынку, сядзеў манах. Сядзеў, але хацеў спусьціцца. І ня мог. Немалады ўжо, нават стары, страшэнна перапалоханы. Заўважыў мяне і пачаў крычаць. Я ведаў, натуральна, восем, можа нават пятнаццаць італійскіх словаў, але ніводнага знаёмага не пачуў. Здагадаўся толькі, што ён просіць дапамогі. А я быў адзін, і ня мог яго выратаваць.

– Божа! – узмаліўся я, – зрабі яго птушкай.

І мне здалося, што ён каркнуў.

– Можа ў цябе вырастуць крылы?! – з надзеяй усклікнуў я. – Вытрывай яшчэ хвілінку. Пацярпі трохі!

Манах няўцямна глядзеў на мяне, і я адчуў сябе ніякавата. А раптам ён пакрыецца пер’ем? Не, быць сьведкам цуду мне не па сілах. Я кінуўся ў цёмны калідор кляштару. Трэба было нешта рабіць. Залементаваў: «Драбіна, драбіна, дайце драбіну!»

Дзіўным рэхам загучалі польскія словы ў цёмным і таямнічым італійскім інтэр’еры. Але да кагосьці даляцелі. Высунулася лысая галава манаха.

– Ваш Шымон Драўнянік хоча яшчэ раз ступіць на зямлю! – закрычаў я.

Мяне не разумелі. Манах бездапаможна разьвёў рукамі.

– Божа, – прашаптаў я, – здымі з гэтай Бабілонскай вежы!

Жэстамі паказаў, што трэба драбіна. Маю пантаміму той не зразумеў. Ня дзіва. Актор я кепскі. Расчараваны, я вярнуўся пад квітнеючае дрэўца.

На бруку стары манах абтрасаў ад пылу ўбранства. Пазнаў мяне.

– Бачыш, сынку, што тут робіцца! – казалі ягоныя вочы.

– Зьляцеў?

– А што было рабіць?

На яго стаптаныя сандалі вецер кінуў пёрка з птушыных, а мо анёльскіх крылаў.

## ДЗЬВЕ СЯСТРЫ І АДЗІН АНЁЛ

Чэслаў Май, апавядальнік, паэт і народны філосаф, жыў у Мотычы пад Люблінам, адносіўся да мяне з прыязьзю і часта запрашаў да сябе. Ён любіў расказваць, але і слухаў ахвотна. Зь дзяцінства запамятаў гісторыю пра дзьвюх сясьцёр. Пачуў яе ад вандруючага па сьвеце дзеда-жабрака, які спыняўся ў Мотычы, дзе заўжды мог разьлічваць на начлег, лусту хлеба і кубак малака. Нічога болей яму не было патрэбна. Для шчасьця дзеду патрабаваліся толькі ўдзячныя слухачы, якіх ён бяз цяжкасьці знаходзіў у тых, спагадлівых для яго ваколіцах. Чэслаў Май чуў тую гісторыю толькі аднойчы, але і па сёньня застаецца пад яе ўражаньнем і ахвотна пераказвае сваім

слухачам. Аднак заўсёды згадвае, што лёс яшчэ ня раз сутыкаў яго з тым сівабародым вандроўнікам, але прышлы чалавек ужо больш ніколі не зьвяртаўся да гісторыі згаданых сёстраў. Абедзьве былі – як сцьвярджаў ён у сваёй першай і адзінай версіі – здаровыя, «кроў з малаком», і мажныя. Пра іх бацькоў вядома было няшмат. Верагодна, рана памерлі. Дзяўчынак выхоўвала бабуля, аднак парадавацца ўнукам не пасьпела, яе таксама забраў да сябе Госпад Бог. Адна зь сясьцёр, старэйшая, бяз шлюбу нарадзіла дзіцятка, неўзабаве яшчэ. Малодшая пастрыглася ў манашкі і ўжо ў хабіце набыла вядомасьць набожнасьцю. Сястры пазьбягала, бо пра яе ішла шырокая пагалоска, што нарадзіла дванаццаць дзяцей, і кожнае ад іншага бацькі.

Сплываў час, прыгінаў людзей да зямлі, часта руйнуючы іх узьнёслыя ідэі, але бывала, што чалавечыя высілкі, ахвяры і праца ўхваляліся бліжнімі і Богам. Манашка не прапусьціла за жыцьцё ніводнай імшы, у кляштары дажыла да глыбокай старасьці, спакойна рыхтавалася да сьмерці. У куце кельлі – яна выразна бачыла – маліўся анёл-ахоўнік. Бачыла Божага Пасланьніка каля тыдня, але неяк абудзіўшыся, заўважыла, што ён зьнік. Зьявіўся толькі назаўтра.

– Дзе ты быў? – насьмелілася спытацца яна.

– На пахаваньні тваёй сястры! Разам зь іншымі анёламі я сьпяваў ёй псальмы. Бо яна заслужыла такую хвалу. Ажыцьцявіла за сваё жыцьцё незвычайную

рэч. Адна выгадавала дванаццаць дзетак. Усе сталі добрымі людзьмі – запэўніў ён іхную цётку.

## СЬВЯТЫ МІКОЛА З ЗАВІХОСТУ

Сёньня амаль кожнае дзіцяня верыць, што сьвяты Мікола заяжджаў у Польшчу з Лапландыі на санях, запрэжаных паўночнымі аленямі. Такі памылковы вобраз замацавала тэлебачаньне. Насамрэч гэты папулярны сьвяты паходзіць зусім зь іншай часткі сьвету, ён нарадзіўся ў заможнай шляхецкай сям'і ў горадзе Патара, Малая Азія, стаў біскупам Міры (цяпер Дэмрэ або Кале), разьмешчанай на тэрыторыі сучаснай Турцыі. У Польшчы сьвяты біскуп Міры ўжо колькі стагоддзяў як апякуе пастухоў і статкі, а ў Заходняй Эўропе быў апекуном бацькоў і дзяцей. Калісьці ў пустым касьцёле (так кажа добра вядомая ў Эўропе легенда) ён пачуў поўную драматызму малітву. Нейкі абарваны чалавек дапытваў Бога, ці можа ён сваіх дачок зрабіць блудніцамі, каб прастытуцыяй выратаваць ад галоднай сьмерці. Сьвяты тым жа вечарам падкінуў сям'і бедака залаты шар, і гэты шчодры жэст у бліжэйшыя дні паўтарыў двойчы. Дочкі гаротніка, якія цудоўным чынам сталі ўладальніцамі пасагу, зіхацелі радасьцю і красою. І зараз жа знайшліся ахвотнікі ўзяць зь імі шлюб. Можна дапусьціць, што сьвяты

папярэдне ўпэўніўся, каб гэта былі маладзіцы шляхетныя і пабожныя, а не звычайныя паляўнічкі за пасагамі. А сабе сьвяты Мікола тым прыгожым учынкам прыдбаў у іканаграфіі дадатковы атрыбут – на гравюрах бываў прадстаўлены з трыма залатымі шарамі.

*

Араштэйны перад апошняй вайной належалі да самых багатых у Завіхосьце, але некалькі гадоў раней, ня больш за два дзесяткі, былі вельмі беднымі.

Іцхак Араштэйн у тыя свае гаротныя гады марыў аб мяшку бульбы, каб хоць на некалькі тыдняў заглушыць голад у падрастаючых дзяцей. Нечакана зьявіўся шанец есьці бульбу ўвесь год, але Іцхак павінен быў згадзіцца на страшную рэч – аддаць дачку, сваю ўлюбёную Сару, у бардэль. Ён прыняў гэтае адчайнае рашэньне, Сара некалькі дзён выплаквала вочы, і раптам хтосьці нечакана да іх пастукаўся. Дзяўчына была адна, выцерла вочы, доўга выцірала, а калі адчыніла дзьверы, за імі нікога ня ўбачыла, толькі на парозе ляжала нешта шэрае. Што гэта, ня ведала, толькі імгненна зразумела: з-за гэтага скрутку памяняецца яе лёс і лёс усіх завіхосцкіх Араштэйнаў. І лёс зьмяніўся. Гэта было срэбра, а Іцхак неўзабаве стаў купцом драўніны.

*

Быў сьнежань сямідзясятых гадоў, калі дакладна – шостага сьнежня. У нашым выпадку дзень важ-

нейшы за год. Бо гутарка пра дзень сьвятога Міколы. Вось тады і выарала на сваім полі Ванда Кавалёва пару кілаграмаў срэбра. Муж яе ляжаў хворы, гаспадарка трымалася на плячах жонкі, якая высільваючыся несла – так сама казала – крыж Гасподні. Сьнежань быў цёплы, скарысталася надвор'ем, каб скончыць асеньняе ворыва, зь якім суседзі ўправіліся ўжо некалькі, больш за дзесяць, тыдняў таму. Ішоў тады дарогаю дзіўны чалавек, з барадою, у расхрыстаным халаце, можа бадзяжнік, можа гандляр старызнай.

– Прыціскай цапігі! – з прыязьзю зьвярнуўся ён да спрацаванай кабеты.

Незразумелае слова «цапігі», што зараз прагучала, – гэта руль плуга, яго стырно. Яна націснула з усяе сілы, і тады пад лямешам штосьці завішчэла – ні то косьць, ні то метал. Прысела, адгрэбла вільготную зямлю, выцягнула камяк, потым другі, трэці… Хацела спытаць незнаёмца што гэта, падняла галаву, але ўжо нікога ня ўбачыла. Праз хвіліну здагадалася, што трымае срэбра.

З таго моманту Кавалёвай сям'і пачало шанцаваць. Муж выздаравеў, набраўся сілаў, прыдумаў сьмелы план, набыў грузавічок пад назовам «Жук». Вазілі гародніну ў Сандамір і Астравец. «Агароднікі», – казалі пра іх зь непрыкрытай зайздрасьцю.

*

«Краса-хараство, каб цябе мела, прывабіла б хлопца, якога хацела!» – муркала сабе Ануся з вуліцы Ры-

бітвы ў Завіхосьце. Ды дзе там, ня толькі красы ня мела, але і маёмасьці. Хадзіў да яе работнік гміны, не стары яшчэ, хоць і не малады ўжо. Мужчына, бясспрэчна элегантны, адзінае – трохі кульгавы. Яго ня столькі бянтэжыла адсутнасьць у дзеўкі красы, колькі недахоп уласнасьці. Дом, пабудову якога распачаў Анусін бацька некалькімі гадамі раней, ужо вымагаў рамонту. Неяк вецер сарваў зь яго дах – як шапку з галавы п’яніцы. І не было за што наняць цесьляра, каб усталяваў кроквы. Не было, але толькі да шостага сьнежня. Тым днём дзяўчына знайшла ў нейкай расколіне, выпаласканай дажджом (як некаторыя знаходзяць грыбы ў лесе ці яблыкі пад яблыняй) вялікія срэбныя шары. Ужо ў той дзень цесьляры ахвотна сабраліся на працу, а ў наступны чыноўнік папрасіў руку панны і пасьля кароткага ваганьня атрымаў згоду.

*

Сьвяты Мікола шырока вядомы ва ўсім сьвеце, меў золата. Вядома, валодае ім і зараз. Мікола ж з Завіхосту сыпле срэбрам. Срэбра, калі верыць мясцовым паданьням, закапалі ў той прыгожай надвісьлянскай мясцовасьці татары ці яшчэ літвіны. Даўно, вельмі даўно, у пачатку трынаццатага стагоддзя. Рыхтаваліся да бою з польскім князем Лешкам Чарным, былі ўпэўненымі, што пасьля пераможнай бітвы адкапаюць свае багатыя трафеі і павязуць на ўсход. Бітву прайгралі, срэбра засталося.

Ці насамрэч гэта сьвяты Мікола справіў падарунак Аранштэйнам?

Гэтага ўжо ніхто не даведаецца. Але людцы дакладна ведаюць, што падставай да посьпехаў Кавалёў зьяўляецца выараны скарб. Ва ўзгаданым выпадку ўдача – гэта мураваны дом, вялікі і зручны, гаспадарчыя пабудовы, тры гектары саду, грузавы «мэрсэдэс», памідоры, што пад плёнкай высьпяваюць ужо ў красавіку, а перад усім – радасьць і спакой у жыцьці! А стары «Жук», які за праданае срэбра набылі ў першую чаргу, толькі нядаўна пайшоў на злом. Людцы таксама дакладна ведаюць, каторы дом на завіхосцкай Рыбітве паўстаў за знойдзеныя каштоўнасьці.

*

Тры прыклады шчодрасьці на некалькі дзясяткаў гадоў. Шмат гэта ці мала? Досыць шмат, каб падтрымаць легенду. Мала, калі ўлічыць усіх, хто ў нястачы. Вядома, шмат хто бядуе, таксама шмат хто ахвотна займеў бы гаршчок, напоўнены старымі манетамі ці дарагімі брускамі з каштоўнага металу. Ня выключана, што сьвяты Мікола не аднаму бедаку падкіне тое ці гэта. Можа, яшчэ нават сёлета.

# КАЛЯДНАЯ ГІСТОРЫЯ, АБО ЯК СЬВЯТЫЯ ЮЗАФ З МАРЫЯЙ ПА СЬВЕЦЕ ХАДЗІЛІ

Зьмяркаецца хутка, хатаў ня бачна, а на душы радасна.

Бог нарадзіўся!

Тры каралі ўжо ў дарозе, бэтлеемская зорка зьзяе, хлопцы вучаць ролі Ірада, Анёла і Сьмерці. Дзядуля нож вострыць, каб зручней карпа вытрыбушыць, з кухні соладка печывам патыхае, у пакоі елачка блішчыць.

Гэтым вечарам ніхто не павінен быць у адзіноце, таму самотнага вандроўніка чакае месца за кожным накрытым сталом. Але тыя, што засталіся ў адзіноце, і якіх належала б на вячэру запрасіць, часьцей за ўсё брудныя, сьмярдзючыя і хворыя. І той, і гэты прадбачліва замыкае дзьверы перад няпрошанымі гасьцямі.

Над Санам і Саннай, прыгожымі польскімі рэкамі, расказваюць, што ўвечары перад Калядамі ў пошуках гасьціннасьці вандруюць па тых мясьцінах сьвятыя Юзаф і Марыя, Маці Божая. Даклад аб тых вандроўках сьвятой пары ўжо ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя запісалі дасьледчыкі польскага фальклёру. Шмат хто прымаў сьвятых асобаў. Шмат хто ім адмовіў.

Пажылыя сужонкі зь вёсачкі на Санне – Баровай, Ірэны ці Лонжка, у марозную ноч перад Калядамі

прытулілі дваіх заблуканых вандроўцаў. Было гэта зусім нядаўна. Можа сто гадоў таму, а можа толькі трыццаць ці нават дваццаць… Старыя былі адзінокімі, іх дзеці даўно рушылі ў сьвет і шмат гадоў не падавалі вестак. Таму шчыра ўзрадаваліся, калі ўбачылі ў сваім падворку чаканых гасьцей.

А адкуль маглі ведаць, што гэта Юзаф і Марыя?

Ня ведалі. Гэтага немагчыма адгадаць. Над галовамі сьвятых у час зямных вандровак не блішчаць німбы, іх твары стомленыя, а ўбраньне беднае і заношанае. Гаспадары частавалі гасьцей усім, чым была багатая хата, прасілі застацца начаваць, і ім не адмовілі.

Але па ўсёй вёсцы, па ўсёй ваколіцы разнеслася вестка, што ў бядняцкім доме гасьцююць незвычайныя асобы. Адкуль пра тое даведаліся?

Былі знакі! З акенца хацінкі, быццам ад бэтлеемскай зоркі, біла паласа сьвятла! Гаспадары, ясная рэч, таго зьзяньня ня бачылі, толькі суседзі. Бяз цяжкасьці здагадаліся, хто наведаў гэтыя мясьціны. Так што, калі сьвятыя асобы пакінулі хацінку гаспадароў, абкружылі іх вяскоўцы і прасілі аб ураджаі бульбы, аўса, проса, ільну, аб здароўі для дзяцей, для сябе, для быдла. І былі просьбы выкананыя. Абміналі вёску буры, мяцеліцы і залевы. Ураджаі былі шчодрымі, а людзі жылі здаровымі і ў дастатку.

Неяк увосень памерла тая добрая кабета, труну зь яе целам павезьлі ў касьцёл. Ксёндз адслужыў імшу, палымнелі сьвечкі і іграў арган. Прагучаў тады натхнё-

ны голас мясцовага арганіста, і жалобнікаў агарнула зьдзіўленьне: ніколі на іх памяці ён не сьпяваў так кранальна. Пазьней казалі, што быў гэта, магчыма, сьпеў анёла, бо арганіст, які любіў зазірнуць у кілішак, падчас пахаваньня бавіўся ў карчме.

Анёл мог замяніць арганіста?

Так кажуць.

Але ці могуць людзкія гутаркі або прыдумкі быць доказам анёльскіх сьпеваў? Відавочна, ня могуць. Аднак нельга забывацца, што нябожчыца прымала калісьці сьвятую пару і заслужыла боскую ласку, і тое, што здаецца немагчымым, можа, аднак, быць магчымым.

Муж той жанчыны дажыў яшчэ больш паважнага веку, але прабіла і яго гадзіна. Памёр у пакойчыку, у якім прымалі калісь сьвятых асобаў. Ляжаў пакінуты, не было каму вынесьці труну і пакласьці на стары воз, да якога прыпрэглі нейкую кашчавую клячу. Можа суседзі пасьпяшаліся ўжо ў касьцёл, а можа соваліся яшчэ па сваіх падворках або толькі нацягвалі сьвяточныя нагавіцы і чысьцілі выходны абутак? У гэткую хвіліну зьявіўся там сьвяты Юзаф, толькі ня сьціплы і ціхмяны, як тады, калі завітаў напярэдадні Калядаў, а вялікі, годны, у залатых шатах і са зьзяючым німбам. Паглядзеў на тую бяду, засмуціў яго недахоп людзей, паклікаў чатырох анёлаў, і тыя панесьлі труну дзядка – паднялі яе на свае плечы і памаршыравалі праз поле да касьцёлу. А ламаны воз, запрэжаны сівой клячай, пасунуўся вясковай дарожкай.

Яшчэ казалі некаторыя, што калі сьвяты Юзаф зазірнуў у хацінку гасьціннага гаспадара, то ўбачыў чатырох састарэлых дзядкоў. Тайстру ня здолелі б несьці, ня тое, што лядашчую дамавінку, але сьвяты Юзаф ад кожнага зь іх адняў – адразу ж – па паўвеку! Не пазналі іх, як памаладзелі, дык можа таму і казалі пазьней, што нябожчыка анёлы несьлі?

Дык анёлы ці дзядкі,ператвораныя ў анёлаў?

Гэта мажліва?

У тым выпадку тое, што здаецца немажлівым, магло здарыцца.

*

Цярушыць сьнег, але ў доме цёпла. З радыё разносіцца калядка: «Не было месца для Цябе». На вясковай вуліцы, а можа на прыступках дому, дзе твая кватэра, або перад брамай тваёй сядзібы прыселі на кукішкі двое бедакоў. Каму хопіць адвагі запрасіць іх на калядную вячэру?

## ЧАЛАВЕЧЫ ГОЛАС КАНЯ

На куцьцю жывёлы размаўляюць па-чалавечы.

Ці гэта магчыма?

А магчыма, што нарадзіўся Сын Божы? Людзі не хацелі верыць у нараджэньне Збаўцы, не хацелі прыняць Яго пад свой дах, не было для Яго месца ў карчме, на сьвет зьявіўся у благой стаенцы. Нарадзіў-

ся як чалавек, і з той памятнай ночы пачаліся рабіцца цуды. У прыгожай калядцы «Бог нарадзіўся» іх апісаў, апроч іншых, вялікі польскі паэт Францішак Карпінскі. Гэтая заўжды папулярная песьня працягвае гучаць у польскіх храмах, але людзі часта не разумеюць, што сьпяваюць аб цудах, аб зьявах, якіх не ў стане ахапіць чалавечая думка. Нарадзіўся Збавіцель, і агонь, як пісаў паэт, рабіўся лёдам, бляск – цемрай, а сіла – нічым, пустэчай, мерцьвячынай.

На памяць аб Нараджэньні Госпада кладзем мы на калядны стол сена. Яно нагадвае аб беднасьці Сьвятой Сям'і. За стол сядаем, як блісьне першая зорка. Кажуць, што ў гэтую асаблівую ноч выюць сабакі, бо ў дварах зьяўляюцца духі продкаў. Для іх у даўнейшай Польшчы іншы раз падрыхтоўвалі асобны столік, дзе ставілі ўлюбёныя стравы памерлых. Дагэтуль пакідаем пры сьвяточным стале вольнае месца для зьгінулага вандроўніка.

Але ўрэшце, як ужо сказана, таксама на памяць аб той цудоўнай ночы – размаўляюць жывёлы.

Адзін багаты гаспадар зь Якубовічаў, што пад Люблінам падслухаў размовы коней. Гутарка ішла пра яго самога. Разважалі, што неўзабаве вывязуць яго на цьвінтар. Так і сталася. Памятаюць людзі той выпадак. Дагэтуль тыя Якубовічы называюць «Конскімі».

Адкуль тыя сьвірэпы аб тым ведалі? Адкуль ведалі будучыню свайго гаспадара? Цяжкае пытаньне, але пасьля пэўных развагаў знойдзем адказ.

Коні ня гутарылі пра кішэнь капусты ці пра латаньне платоў, бо гэта чалавечыя, банальныя справы. Гэта ня значыць, барані Божа, што чалавечыя справы жывёлам чужыя. Ведаюць, хто заходзіць у адсутнасьці гаспадара да гаспадыні, да парабчанкі, да яго дачкі. Ведаюць таксама, чый дух блукае па двары, жывёлы ж маюць большую за людзей магчымасьць прыкмячаць зьявы і зданяў.

Гэта натуральна, цікава, і гэта яшчэ адна падстава, каб падслухоўваць размовы клячы, жарабятаў і жарабцоў!

Ёсьць адзін цікавы аргумент, каб зацікавіцца размовамі коней. Бо часта гутараць яны пра закапанае золата. Няма ў нашай прыгожай краіне ваколіцы, вёскі, мястэчка, дзе не было б закапанага золата! Ляжыць сабе ад вякоў, ці часам усяго некалькі дзясяткаў год, і толькі чакае – каму захочацца варухнуць рыдлёўкай.

Адкуль? Адкуль у зямлі золата?

Закопвалі яго палякі, туркі, татары, жыды, расейцы…

Расейцы мелі золата?

Рускім ніколі яго не бракавала! Рабавалі нас і нашых суседзяў, дзе толькі ўдавалася. А шмат гадоў пазьней, у сямідзесятых і васьмідзесятых мінулага веку, гэта мы, палякі, вазілі ад іх золата – пярсьцёнкі, завушніцы, ланцужкі. Хто што любіў, якая каму была патрэба. Так што не можа падлягаць сумненьню – на польскай зямлі ёсьць шмат золата, якое пабывала ў руках ра-

сейцаў. Нямала золата закапалі жыдоўскія карчмары. Спойвалі польскіх сялянаў, увесь век зьбіралі сялянскія грошыкі і медзякі, набывалі за іх залатыя зьліткі, але часта ніяк іх не выкарыстоўвалі. А сёньня ляжаць сабе яны ў зямлі, закрытыя ад людзкога вока. Людзі пра тое золата забыліся, а коні ведаюць.

Усё ведаюць?

Нейкі ня ведае, бо дурнаваты, толькі і глядзіць, каб аўсом і сенам напхацца, іншы ж сенам і аўсом, ясная рэч, не пагарджае, жарэ, жарэ, ажно вотруб'е сыплецца, але вока мае хуткае, глядзіць і што трэба бачыць. Ведае, золата не ляжыць бяз знаку, пра гэта і нашы дзяды ўжо ведалі, яно сьвеціцца. Яно кожныя сем гадоў перагараецца! Гэта значыць, ачышчаецца ў агні. Не згарае і не плавіцца, а – як сказалі ўжо – перагараецца. Чалавек гэтага сьвячэньня ня бачыць, а конь бачыць. І ведае.

Каму заўгодна пра яго распавядзе? Падчас кожнай куцьці?

Разумны чалавек – ведае, што кажа, дурны – кажа, што ведае. З канём падобная ж справа. Так, урэшце распавядзе, бо навошта каняку золата, але павінен быць упэўненым, што гаспадар будзе аб ім дбаць, што заўсёды накорміць, ня будзе шкадаваць пашы, што на зіму падкуе, каб не сьлізгаў, а калі не падкуе, то не выправіць на лёд. А да млыну паедзе, як сьнег растане.

Адна кляча прабалбаталася дзе золата, селянін выкапаў, разбагацеў, набыў новую хату, воз, укормлена-

га буланчыка. А старую кабыляку якомусьці жабраку ці рэзьніку аддаў.

Набліжаецца незвычайная ноч. Людзі зьбіраюцца за калядным сталом, пад прыбранай елачкай і весела сьпяваюць:

Хрыстос нарадзіўся, каб нас збавіць,
Анёлы іграюць, Караля вітаюць,
Укленчыўшы жывёлы, пастухі сьпяваюць,
Цуда, цуда, цуда абвяшчаюць.

Польскія каляды ня толькі самыя прыгожыя ў сьвеце, а і самыя глыбокія, гэта своеасаблівыя тэалагічныя трактаты. Людзі верылі: жывёлы ўкленчылі перад Новароджаным і ля бэтлеемскіх яселькаў атрымалі дар перадачы зьвестак пра схаванае золата. І мелі доказы, што асабліва коні бывалі вельмі шчодрымі, карыстаючыся тым дарам.

## СЬМЕРЦЬ У ЧОРНЫМ ХОДЗЕ

Ідзе дарогай Ліс у капелюшы і з палкай. Ага, яшчэ ў жоўтай камізэльцы. То шпарчэй ідзе, то павольней. Думае над чымсьці, нешта яго мучыць, бясспрэчна заінтрыгаваны нечым. Спыніўся ля клеткі. Там Папугай. На Ліса – ніякай увагі.

– Дайшлі да мяне чуткі, – упікае Ліс, – што ты вырашыў стаць чалавекам.

Слухае пыхлівае, іранічнае скрыпеньне Папугая. Так трымаецца чалавек, які кімсьці пагарджае, які мае маральную перавагу. Можа, Папугай і мае перавагу. Але ж гэта не чалавек. Бо нават Ліс сказаў «вырашыў стаць», а не «стаў». І што ён можа адпавесьці, што сказаць?

Не! Сказаў! Нават заявіў:

– Я не раблю з гэтага таямніцы.

– Распавядзі падрабязьней, – папрасіў Ліс.

– Калі чалавек паходзіць ад малпы, то здолее і ад папугая! Зьмяняю структуру на чалавечую!

– На гэта трэба шмат гадоў! Ды што гадоў – пакаленьняў! Ты ж ня можаш жыць вечна. Таго часу не дачакаешся.

– Дастаткова, што я пачну. А можа, мне ўдасца паскорыць эвалюцыю?

Няблага, шэльма пачынае. Можа збавіць зьдзеклівы тон?

Бо гэтак змагацца цяжка. Трэба падымаць планку вышэй.

– А калі чалавека стварыў Бог?

– Не зразумеў?!

– Бачыш, – узрадаваўся Ліс, – ёсьць і такі погляд. Што чалавек не паходзіць ад малпы!

– Яшчэ лепш! Будзе паходзіць ад папугая! Толькі ад мяне. Ад папугая Клітаймэстры!

Ён адвярнуўся і не глядзеў на Ліса. Ці не занадта цікаўная гэтая навалач? Узіраўся некуды ўдалячынь,

у толькі сабе вядомым кірунку. Можа нават у будучыню? Хто ведае, што яшчэ ўдумае. Але і ў Ліса галава не дзеля красы.

– Ты прыгожы, я ж спрытны, – нагадаў Ліс пра сябе. – Хай чалавек паходзіць ад папугая і ліса. Ад цябе залежыць, калі гэта табе важна, каб нашчадкі мелі тваю прыгажосьць і мой спрыт.

– А як гэта зрабіць? – абыякава спытаў Папугай.

– Я папросту павінен цябе апладніць, – сказаў Ліс, з усяе сілы робячы таксама абыякавы выгляд.

– Ну, ведаеш!.. – няшчыра абурыўся Папугай.

– Усяго толькі дам пачатак новаму роду, трэба згаджацца, – даводзіў Ліс. Погляд меў ганаровы, мужчынскі. Вядома... Ведаў, на што рашаецца. Відавочна, і яму быў неабыякавы лёс новага чалавека. Вельмі хацелася даць яму нешта сваё. Але ці возьме гэтае «нешта» Папугай?

Возьме!

– Я згодны, – сказаў Папугай. – На карысьць чалавецтву.

І адчыніў дзьверы клеткі.

Ліс кінуўся на яго і зжэр.

Якія былі планы! Але ці зрабіўся з-за іх Папугай меней апетытным?

Падняўся ветрык і панёс некалькі барвовых пёраў з папугайскага хваста. Шкада, вельмі. Хто яшчэ калі падыме такую важкую праблему? Прынамсі, ня Ліс. Гэты мярзотнік, крывапівец, далакоп высокай ідэі!

Зжэр і яшчэ незадаволены. Бурчыць нешта сам сабе. Зьеў Папугая і ўсё ж чатыры дні дабіваецца ад мяне пірагоў з капустай.

## СЬЛЯДЫ АНЁЛЬСКІХ НОГ, АНЁЛЬСКІЯ СЛОВЫ І ЎЧЫНКІ

*

Мы спаткаліся толькі аднойчы, на аўтобусным прыпынку ва Ўладаве. Яна ехала да недалёкага Парчэва, я накіроўваўся ў бок Любліна. Было холадна і сыпаў сьнег.

– Зусім як тады, – сказала яна ні то сабе, ні то мне.

Мне? Я б мог быць яе ўнукам. Сьціпла апранутая, у руках дзьве напханыя боханамі хлеба пластыкавыя торбы. Адставіла іх на лаву.

– У гэткае надвор’е я несла загад Ястрабу. Вы ведаеце, хто такі быў Ястраб? – Я ведаў, але яна не чакала майго адказу. – Гэта самы адважны партызан! Ня літаваў ні немцаў, ні Саветаў, ні камуністаў. Я павінна была папярэдзіць аддзел да аблавы. Але, каб дабрацца да іх першай, я мусіла рушыць неадкладна, адразу, самай кароткай дарогай, праз лес, раку… Дарогу я ведала як ніхто, перабегла лес, доўга шукала лодку і змарнавала паўдня… а за ракой міннае поле. Не было часу яго абысьці! Я ледзьве не плакала. Тады ўспомніла пра яго.

Я не зразумеў.

– Пра анёла-ахоўніка! – патлумачыла яна. – Не хавайся за мной! – сказала я яму. – Ідзі першым! Я не прасіла, не маліла, я патрабавала! І ведаеце што? На белым, сьвежым сьнезе, проста перада мной, зьявіліся сьляды ног. Я сьмела рушыла па тых сьлядах. Выратавала, мы выратавалі, – папраўілася яна, – усіх трыццаць чатырох! Адзін зь іх стаў маім мужам.

Ад'ехаў аўтобус. Не пераставаў сыпаць сьнег.

Чым заслужыў я такое прызнаньне?

Ня ведаю. Я ўдзячны ёй за тыя словы.

*

Часам я сустракаў Сюзану Б., жанчыну бальзакаўскага ўзросту, якая нямала перажыла радасных хвілінаў, але і на боль ейны лёс не паскнарнічаў. Мы любілі пагаманіць пра жыцьцё, Бога, паэзію, дэсэрты і птушак. Часам яна гаварыла пра анёлаў. Заўжды пра адных і тых жа. З варшаўскіх каналаў. У 1944 годзе, калі немцы душылі Варшаўскае паўстаньне[54],

54 Варшаўскае паўстаньне закончылася праз 63 дні трагічнай барацьбы. З кварталаў, адбітых у ворага, паўстанцы і цывільныя асобы эвакуяваліся каналамі, якімі транспартавалі таксама зброю, амуніцыю і пошту. У каналах, запоўненых фекаліямі, трупамі, вышынёй часам ледзьве дасягаючай 110 сантыметраў, панавала магільная цемра. Бывала, што пераадольваньне кіламетровага адрэзку займала шэсьць гадзін. Каналы ратавалі жыцьцё, але здаралася, што нават самыя моцныя не вытрымлівалі цяжкасьцяў пераправы і выходзілі на паверхню, на пазіцыі ворага, дзе іх адразу расстрэльвалі. На праваднiках – у першую чаргу гэта былі жанчыны, потым харцэры – ляжала велізарная адказнасьць. Яны павінны былі – кожны дзень, кожную хвіліну – праяўляць небывалую цьвёрдасьць духу, арыентацыю ў падзямельлях, бо свае жыцьці ім давяралі жаўнеры, камандзіры, маці і дзеці. У ролі праваднікоў найлепей паказалі сябе малыя хлопцы, у асноўным, харцэры. Ім, з малым ростам, было лягчэй, чым дарослым праціскацца праз падземныя каналы.

шмат хто ратаваў жыцьцё, уцякаючы каналамі. Лёгка сказаць: «Уцячы каналам». Без праваднiка ніхто не дасягнуў бы мэты. Ёй было тры гады, яна на сьпіне маці, паўзьлі ў групе зь некалькіх чалавек за тройкай хлопцаў у харцэрскіх мундурах.

Калі, ужо на паверхні, на варшаўскім бруку, заплюшчыла на яркім сонцы вочы, то сказала матулі: «Гэта анёлкі нас уратавалі».

– Можа і анёлкі, – пагадзілася пасьля невялікага ваганьня маці.

Я адразу паверыў, што анёлы.

*

Я шмат гадоў размаўляю з маім анёлам-ахоўнікам. Гэта асаблівыя гутаркі: я кажу, ён слухае. Не адказвае, але я ведаю, што слухае ўважліва. Дзякую за дапамогу, ахову і апеку, іх ніколі не бывае зашмат, бо па людзях ходзяць няшчасьці, а я пазьбягаю здрадаў, варожых ударaў, шчасьліва абмінаю пастаўленыя пасткі. Мая ўдзячнасьць бязьмежная.

– З табою хоча сустрэцца Зыгфрыд Грушка, – нечакана сказаў ён мне аднойчы ўначы, і я пачуў.

Зыгфрыд Грушка?! Мой сваяк. Два гады, як нябожчык. Пяць ці шэсьць гадоў таму пераконваў мяне, каб паверыў довадам, якія ён прыводзіў. Я паверыў, толькі час паказаў, што Зыгфрыд ня меў рацыі. Ня мог ведаць праўды. Быў ён чалавекам добрым, але наіўным і лёгкаверным. Ашукалі яго, ён ашукаў мяне. Цяпер прыходзіў з таго сьвету, каб, я так зразумеў, праба-

чыцца за словы няпраўды. У мяне не было сьмеласьці – галяком, вырваным са сну, успацелым, – сустрэцца зь ягоным прывідам. Я ад сустрэчы адмовіўся. Хачу верыць, што маёй адмовай не пакрыўдзіў як майго анёла, так і дух Зыгфрыда Грушкі.

А на Зігфрыда Грушку я не трымаю благога.

## ЯК БУСЕЛ ВУЧЫЎ ЗАЙЦА ЛЁТАЦЬ

На небе вісеў месяц. Жоўты, круглы, быццам крыху пузаты, таму цяжкаваты і інакшы, чым звычайна. Быццам бы бліжэйшы да зямлі. Так здавалася Эдку Мазуру. Мала таго. Ён уяўляў, што як выедзе на ўзгорак, то дастане да яго пугай! І Эдак, калі ўзьехаў на вяршыню, моцна размахнуўся.

Каля яго сядзеў поўны пыхі солтыс Ян Бонк. Глядзеў зь сярдзітым шкадаваньнем, і відаць думаў, што Эдак дае шмат падставаў для высьмейваньня жыхароў Ксенжых Гурак. Жартаўнікі сьцьвярджалі, што вароны над Ксенжымі Гуркамі, калі ня хочуць бачыць невуцтва, павінны лётаць дагары нагамі. Солтыс ведаў гэтыя жартачкі і злаваўся. (Гэта ён яшчэ ня ведаў, што на ягонай тэрыторыі бусел вырашыў навучыць лётаць зайца. Чаму зайца – таго ніхто ня ведае. Каб лётаць трэба было солтысу, то, несумненна, ведалі б усе).

Ну, дык тут Бусел неяк казаў Зайцу:

– О, каб ты мог лётаць, было б на што паглядзець.

– Някепска было б, але гэта нешта нерэальнае... – зусім не засмучана пярэчыў Заяц. Ён не падзяляў бусьлінага зачараваньня палётам.

– А хацеў бы? Прызнайся шчыра! – налягаў Бусел.

– Можа і хацеў бы, але як?

– Я скажу як. Лезь на дах, – закамандаваў Бусел.

– Зараз не магу. Выпіў замнога, – выкручваўся Заяц.

І тады Бусел падумаў, што ня проста дасягнуць сваёй мэты.

*

Добра мець мэту.

Жыць бяз мэты цяжка. Але і дасягнуць яе нялёгка. Трэба шмат намаганьняў, часам нават гадоў самаахвярнасьці. Так кажуць.

Цяжка не паверыць. Можа таму некаторыя, перш чым закасаць рукавы, разважаюць, падлічваюць, думаюць – ці варта яно працы. Якую мэту дасягнуць лёгка? – пытаньне...

Хто адкажа на яго і разьвее сумненьні? Колькі гадоў будаваў Ной каўчэг? Доўга? Колькі гадоў выкладаўся кітайскі мур, Бабілонская вежа, варшаўскі Дом Селяніна? Як доўга дабіваўся ў свой час солтыс ордэра на «Фіат»?

Што мог ведаць пра гэта Бусел?

*

Эдак паганяў каня.

Над ім зорнае неба, пад ім асфальтаваны гасьцінец. Сноп іскраў з коміна. Можа асядуць на небасьхіле, і зор стане болей.

Вось стары дом. У ім ніхто не жыве. Хто ж тады паліць старую печ? Старую печ чорт паліць (аналаг бел. прымаўкі «Сівізна ў бараду, чорт ў галаву» – заўв. перакл.).

Конь панёс, Эдак чорту пугі даў. Звычайныя справы.

Вёска ўжо блізка. Зьлева – лугавіна, справа – солтысава поле канюшыны. У канюшыне заўважылі самалёт. Блішчэў, як бляшаны дах на гумне. Калі зь вёскі выязджалі, яго там не было. Зь неба ўпаў, вядома. Такое ня кожны дзень здараецца. Падыйшлі. Укленчылі перад ім, намачылі калошы вячэрняй расою.

«Бусел» – прачытаў солтыс надпіс на фюзеляжы. Калі б тут разьмясьціўся харцэрскі табар, солтыс ведаў бы, як зь імі гутарыць. А гэты тырчэў нерухома, і хоць нёс ганаровую назву, мёртвы быў і бяздушны.

Яго нават пугай перацягнуць не выпадала.

Солтыс вылаяўся і помсьліва наступіў на крыло.

І паўтарыў: «Бусел».

– Хе, хе, бусел, – радасна зарагатаў Эдак. – Бусел, а як заяц, у канюшыне.

Узьлезьлі на воз.

Солтыс плюнуў:

– Аэрадром сабе прыдбаў.

– Добра, што на полі, бо мог і на даху, – разважаў Эдак.

Солтыс да сябе такіх думак не дапускаў.

– Я яго навучу!

– Запозна, – хіхікнуў Эдак.

– Вучыць ніколі ня позна, – расхадзіўся солтыс. – Запамятай гэта. Запамятай настаўніка!

Адчуў у сабе пакліканьне, патрэбу вучыць працавітасьці, парадку, павазе. Устаў. Падняў рукі. Як сьвятар на амбоне. Як Хрыстос у чаўне. Вочы разгарэліся. Воз ехаў. Месяц сьвяціў. Эдак углядаўся ў солтыса. Са зьдзіўленьнем. Набожна. Як на прапаведніка. Як на прарока. Падумаў, што солтыс мог бы навучыць нават зайца лётаць, але агучыць думку не адважыўся.

Распаленая фантазія. Раскілзанае ўяўленьне.

Жах.

У сэрцы – агонь, у горле – як пасьля шклянкі сьпірту.

*

– Ці магчыма гэта? – выпытваў Заяц.

– Заяўляць, што магчыма, то не. Але цябе пакінуць у спакоі – і кухарка, і, тым больш, паляўнічы. Іначай я б цябе ніколі не намаўляў.

– А чаму ты так у гэтым зацікаўлены? – не ўступаў Заяц.

– Нідзе не напісана, што зайцы ня могуць лётаць. Праўда, ня выключана, што ў цябе антыталент да палёту...

– Антыталент? – спахмурнеў Заяц.

– Ты зразумей, – працягваў Бусел. Я магу табе дапамагчы. Ніхто ня супраць, каб зайцы лёталі. Ніхто іх адмыслова не перасьледуе, ня тушыць як... ну хоць бы вашых пабрацімаў – трусоў. Маеце зашмат свабоды, якая, аднак, з кожным годам скарачаецца, бо арэал

культурнай глебы таксама зьмяншаецца. Яшчэ скачаце, але гэта часова. Потым будзеце як трусы ў клетцы, як гіпапатамы ў заалагічным парку. Заплывяце тлушчам, мускулы страцяць эластычнасьць, будзеце есьці канюшыну з рук. Кепская перспектыва. Але яшчэ можаш рашыцца на прыгожы жэст, рыкнуць ільвом. Твой прыклад падштурхне да дзеяньняў іншых. Баязьліўцы стануць дзёрзкімі, цяльпукі – энэргічнымі, няўклюды – гнуткімі і скакучымі, усіх агорне энтузіязм, натхненьне, давер спантаннасьці, упэўненасьць у лепшыя дні. Праўда, з часам мяняецца і мода. Толькі не зьнікае патрэба ў героях нашага часу. Бо няма часоў безь герояў. Недахоп герояў – гэта апатыя, стома, упадак духу. Бо памяці няма за каго зачапіцца. Я хачу стварыць для цябе выключную магчымасьць, непаўторны шанец! Ты прыгадваеш першы палёт у космас? Памятаеш тое імя – ЛАЙКА?

– Пра тое шмат казалі!..

– Вось бачыш! – узрадваўся Бусел. – Ці ёсьць дзе вуліца Зайца? Няма і ня будзе. Нідзе! Ёсьць Гагарына і Заёнчка. Генерал Заёнчак ня меў з вамі, палявой галотай, нічога агульнага. Таксама і Гагарын. Але ты можаш быць як ён, як Юрый Гагарын! Падобным да яго. Даб'ешся такога ж самага, вялікага посьпеху!

– Але ж і вуліцы Лайкі няма? – удакладніў Заяц.

– Ня будзь у гэтым вельмі ўпэўнены. У польскім горадзе няма. Аднак сьвет на ім не канчаецца.

– Хачу знаць праўду. Толькі сур'ёзна, – загарачыўся Заяц. – Што мне дасьць гэты палёт? Ці варта рызыкаваць?

– Даведаешся, які прыгожы бывае сьвет для таго, хто дабіўся посьпеху. Уганараваньні, павага... Атрымаеш пасаду. Можа нават...

– Дэлегата! – вырвалася ў Зайца.

– Дэлегата можа і не, але ў кіно запросяць дакладна. Лятучы шарак! Такога яшчэ не было. Пакажаш трусам, што здольныя толькі для даставаньня з капелюша, ці яшчэ лепш – у сьмятану!

– Што з гэтага людзям? Хто я для іх, кім буду?

– Ты для іх толькі мяса. І не адрозьніваешся ад труса. І ўсё ж – такі палёт. Падумай! Палёт над зямлёй!

Узвышаешся над самім сабой!

У хмарах!

Пад табою людзі, сабакі, каты і трусы!

І яшчэ палеткі, засаджаныя да краёў капустай!

– Ты блефуеш, – сур'ёзна заявіў Заяц. – Хочаш мяне выкарыстаць. Такое ўзьнікае непераадольнае ўражаньне. Праўда, гаворку вядзеш перакanaўча. Тыпу: усе гуртуйцеся. Не магу сфармуляваць каверзнага пытаньня, каб злавіць у тваіх нахабных аргументах ману. Прызнайся! Ты вядзеш нейкую гульню?

– Як ужо будзеш лётаць, – разважаў Бусел, зусім ня зьбіты з тропу, – не забудзься зьняць куртку з надпісам «US Army». У цябе сапраўды маськіровачны колер, які цудоўна вытрымаў выпрабаваньне, калі ты шнарыў па капусных палетках, але ў час палёту трэба мець на

сабе звычайную баваўняную кашульку. Не зашкодзіць надпіс: «Вас вітае Польшча».

– Можа, якія крылы? – падказаў Заяц.

– Ня трэба. Чуў пра Ікара?

– Ён кепска скончыў! – заяц пацёр лапкі. – Кепска.

Празь нейкі час хіхікнуў,быццам толькі зараз усьвядоміў, які лёс хоча падрыхтаваць яму Бусел. Але Бусла нават крылы ня зьбілі, ён весела дадаў:

– Бачыш. Ня верыў сабе. Даверыў крылам. Ты павер сваім лапкам! Сваёй поўсьці. Вырві невялічкі касмык! Ну, сьмела! Дзьмухні на яго! Ляціць?

– Ляціць...

– Ну, бачыш! І ты паляціш!

*

Адзінае ў вёсцы бусьлінае гняздо знаходзілася на гумне Эдака Мазура. Ён быў бацькам сямёх дзяцей, але ўсе лічылі, што без удзелу буслоў тут не абышлося.

Эдак ня быў уломкам. Мог несьці два мяшкі збожжа, а за абедам зьесьці цэлага пеўня і выпіць бутэльку віна. Любіў добра паесьці, а яшчэ больш – добра выпіць. Курэй не трымаў, таму цэлага пеўня мог зьесьці толькі ў выпадку вялікага сьвята. Можа, раз ці два на год. Так што часьцей здавальняўся бутэлькай віна. Не, ён не займаўся вытворчасьцю гэтага шляхецкага напою. Эдак працаваў на дзяржаўным прадпрыемстве пераапрацоўкі садавіны, і, ідучы з працы, выносіў у кальсонах дзьве бутэлькі

сьпіртаўтрымліваючага напою пад мясцовай назвай «Кубак дзяржсельгасу».

Старэйшая Эдкава дачка мела ўжо 16 гадоў, дзеўкай была не па гадах разьвітай і не пераацэньвала ролі буслоў, бо хадзіла на чацьвёртым месяцы цяжарнасьці, пра што – возьмем гэта ў дужкі – Эдвард Мазур яшчэ ня ведаў.

*

– Ты гатовы? – спытаў Бусел безапеляцыйным тонам.

– Так, але ў мяне сумневы. Што будзе, калі разаб'юся пры пасадцы?

– Будзеш выглядаць як пасьля мясакруткі. Але не прымай да сэрца. Ніхто ня ведае свайго канца!

– Так па-дурному скончыць? Зваліўшыся з даху! Гэта добра для камінара, але для зайца?..

*

У мястэчку паблізу адбыўся выпадак. На прыпынку натоўп пасажыраў выпхнуў пад аўтобус кабету. Яна трымала ў руках два боханы хлеба, дома двое малых дзетак.

– Хлеб не выпусьціла, – сказаў Эдак з павагай. І праз хвіліну дадаў: – Цісканіна была, бо два папярэднія аўтобусы не пайшлі. А наступнага ніхто не хацеў чакаць.

Солтыс паганяў каня. Пракаментаваў:

– Так па-дурному скончыць. І дарэмна.

– Ніхто ня ведае свайго канца, – уздыхнуў Эдак.

А солтыс падумаў, што Эдаку цяжка адмовіць у лёгкасьці фармулёвак філасафічных думак.

*

Страха. Пашкамутаная. Зімы можа ня вытрываць.

На грушы тэлевізійная антэна. Груша – вышэйшая кропка ў ваколіцы. Бусел на гумне.

Этэрнітам пакрыць нельга, новыя дэкрэты забараняюць, бо шкодны.

А бляха задарагая!

*

Ля свайго дому Эдак зьлез з солтысавага возу і тады ўбачыў зайца.

– Байка! Кусі яго! – закрычаў ён на сабаку. Але сучка Байка толькі што ашчанілася і не вытыркала з будкі носа.

Брудна вылаяўся. Ня выключана, што вырашыў паставіць петлі.

Паглядзеў на бусла. Набожна і з шанаваньнем. Бо Эдвард Мазур шанаваў і любіў гэтага вялікага птаха. Магчыма той хвіляй падумаў, што ні разу не паспрабаваў яго прыручыць, ці хоць прывучыць да чагосьці, хоць бы паляваць на зайцоў. А меў магчымасьць вучыць! Бо трымаў у руках! Гэта ён, Эдвард Мазур, калі бусьляня выпала, падняўся зь ім па драбіне да гнязда. Што ж. Было і мінула. Шанец згублены.

Эдак замаркоціўся, і на бусла паглядаў ужо зь меньшай сімпатыяй. Магчыма, пазіраючы на яго, адчуваў сваю мізэрнасьць.

– Хрызантэмы залацістыя, усьміхніцеся мне! – напявала Хальшка, дачка Эдака. Заўважыла зайца. Хацелася б яго пагладзіць. Толькі заяц ня хоча. Зьнік у хмызах. «Нехта бачыць індыка, нехта – мяса», – казаў хлопец, якога Хальшка падазравала ў бацькоўстве.

*

З хмызоў высунуўся Заяц:

– Якім курсам паляцім?

– Наўпрост на лугі!

– На захад? Не перашкоджу авіялініі Варшава-Лёндан? Ведаеш, што б было, калі б аб мяне разьбіўся які-небудзь самалёт накірункам з Англіі? Хто б паверыў, што ляцеў заяц? Ну скажы – паверылі б, што заяц вучыўся лётаць?

– Паляціш іншым курсам!

– Гэтыя – з усходу – паверац у лятучага зайца?

*

– Цяжка цябе пераконваць, – з жалем сказаў Эдаку солтыс. – Ты быццам зусім ня чуў пра часовыя гаспадарчыя праблемы. Папросту не хапае цэглы і цэменту. А бляхі, дык і пагатоў. Нават Стэць не можа вілу дабудаваць. Усім нялёгка. Але даю слова ўладзіць. Вер мне.

– Хутчэй паверу тым, якія заяўляюць, што скупляюць коней, каб вялізны воз зь неба сьцягнуць!

Солтыс змаўчаў. Што казаць? Такога жарту яшчэ ня чуў. Было яму прыкра. Солтыс жа таксама жыхар Ксенжых Гурак. То чаму яго ня любяць? Чаму пад’ялдыкваюць? Вёска мае дасягненьні. Збудавалі

дэпо і дзіцячы садок, адрамантавалі млын і шашу. Журналісты ня раз прыязджалі. З газэт, радыё і тэлебачаньня. Запісвалі, што солтыс казаў. Паўзімы з радыё ягоны голас чуўся. Зараз зноў з тэлебачаньня абнадзеілі. Мабыць, будуць рабіць забаўляльную праграму? – уразіўся раптам сваёй думцы.

Зірнуў на Эдака. Той меў іншы клопат і чаканьне. Вырашыў, што калі ў наступным годзе Ян Бонк зноў захоча стаць солтысам, то ён прагаласуе супраць.

*

– Ты гарантуеш мне посьпех? – спытаўся Заяц.

– Посьпех – так. Толькі не магу засьцерагчы цябе ад аферыстаў, якія таксама хочуць посьпеху. Можа здарыцца, што які-небудзь трус прыпіша сабе твой палёт.

– Як гэта?

– Выдасьць сябе за цябе!

– І што тады?

– Прыйдзецца ляцець другі раз!

– Другі раз? Адным палётам ня скончыцца?

– Трэба будзе замацаваць посьпех. Узьляціш другі раз. Будзеш ужо майстрам. Гэта табе не дадасьць клопату.

– А калі і ён, ну, той аферыст – узьляціць?

– Я не падазраваў бы яго ў гэтым.

*

– Часам хочацца быць як бусел, – рашуча заявіў Эдак Мазур.

А солтыс падумаў, што Эдак п’яны. І запярэчыў:

– Чалавек, гэта – чалавек. Павінен жыць на зямлі і ня лезьці ў хмары. Чалавек павінен мець нешта такое, што называецца чалавечнасьцю.

– А заяц? – зацяўся Эдак, бо якраз уначы яму прысьніўся паштэт. – Павінен мець заечнасьць?

– Хто яго ведае... Зайцамі высокая навука не цікавіцца. Зайцамі цікавіцца кухня!

...І цяжка гэтаму меркаваньню адмовіць у рацыі!

*

Заяц стаяў слупком. У гэтым не было б нічога дзіўнага, каб ня тое, што стаяў на даху. Бачыў дом, падворак, курэй на ім, індыкаў, сучку Байку са шчанятамі. Далей сад, луг, дэпо і вежы царквы. Бліжэйшага поля з капустай было, аднак, не відно.

– Зараз або ніколі, – рашыў Заяц. І перасьцярог Бусла. – Ня думай, што гэтае дасягненьне – тваё. Я хацеў бы, каб гэты мой палёт лічыўся пратэстам. Вялікім пратэстам у абарону асяроддзя. Хто як, але я маю права на пратэст. Дзядзьку забілі гэтым годам, дзеда і яго брата злавілі петлямі. Але я выйшаў сюды, на дах, не казаньні прамаўляць, і не мітынгаваць, таму заканчваю. Узгадваю: заўсёды я побач каля сьмерці, няспынна ўцякаў, для людзей быў сымбалем страху, і толькі зараз зьдзяйсьняю палёт у бяссьмерце.

Зірнуў уніз. Моцна адштурхнуўся. Замахаў лапкамі.

Паляцеў!

Да канца ня верыў сам сабе. Бусел ня верыў вачам.

Ляцеў!

Я гэта бачыў!

# АДНОЙЧЫ ПАД БЯЛАЙ

Вяртаецца з сотак Стась Крулік, жыхар Бялай Падляскі. Загарэлы і хвацкі, з буйной чупрынай, усыпанай срэбнымі ніткамі сівізны. Вязе на ровары моркву, часнык, бурачкі. Ведаем ужо, што Стась моцны і здаровы, ведаем таксама, які часнык, як выглядаюць бурачкі і морква. А як прадставіць яго ровар? У-га! Гэта не абыякі рыштунак! Ужо не чытаецца на раме назва фірмы «Балтыка», але колы круцяцца каля трыццаці гадоў! На гэтым ровары яшчэ бацька вазіў яго ў дзіцячы садок. Зараз ён абмінае ямкі і лужыны, відавочна, ашчаджае агрэгат. Рэч пахвальная, можа, біцыкл паслужыць і ягоным дзецям? Едзе, едзе, раскашуецца яздой, а ля дарогі стаіць пажылы мужчына. Станіслава нешта як торкнула.

– Можа падвезьці? – запытаў ветліва. – Служу багажнікам!

І сеткі з гароднінай пераклаў на руль. Дзядок без ваганьня на багажнік ускочыў, веласіпедыст закруціў педалямі, рушылі. Праехалі кіламетры са тры, ужо высоткі Бялай Падляскі як на далоні.

– Дзякуй, злажу, – паведаміў дзядок. – Колькі зь мяне за паслугу? – спытаўся і дастаў гаманец.

«На папяросы зарабіў, – узрадваўся пра сябе перавозчык. І адразу падумаў: – А што мне тыя некалькі злотых? – І заявіў: – «Мяне Бог аддзячыць».

– Калі вы такі прыязны, – кажа дзядок, – у мяне прапанова. Выканаю тры вашыя пажаданьні. Хоць зараз.

Станіслаў пісаў вершы, крытычныя нататкі, нават даў рады разьдзелу дысертацыі, прамаўляў на мітынгах і браў голас у навуковых дыспутах, а тады мову заняло. Нічога сьмешнага. У такой сітуацыі шмат хто не ўзгадаў бы і свайго прозьвішча. А Стась, аб чым нельга забывацца, хлопец надзвычай начытаны. Яму не чужыя меркаваньні Паскаля, афарызмы Шапенгаўэра, ведае таксама народныя байкі. Памятае, як безадказна паводзіўся чалавек, калі гэткі ж дабрадзей ахвяраваў яму столькі зямлі, колькі здолее аббегчы. Небарака сканаў бегучы. Іншы, якому паабяцала паслугі залатая рыбка, прагнуў паправіць свае фізічныя параметры, хацеў мець дзетаробнік да самай зямлі! На жаль, рыбка кепска зразумела жаданьне і не падоўжыла целяпаку, а (о, іронія!) падкараціла ногі! Хто набыў, – такіх мала, а хто страціў, – зь іх сьмяемся ўвесь час.

Што б ён мог страціць? Шмат! Ну хоць бы добрае самаадчуваньне. (Ад прадастаўленьня жаданьняў адмаўляцца ня думаў. Толькі б ахвярадаўца здолеў.)

Дарога, якой ехалі, была ў кепскім стане. Таму аўтобус не даяжджаў да Вулькі Дзядоўскай, дзеці да школы дзесяць кіламетраў мусілі пяхтурыць.

– Хай дарога будзе добрай! – выказаў жаданьне, і сэрца загрукатала. Падумаў з жахам: «Яшчэ загадае

мне адрамантаваць. Заўтра на сьвітанку павінен буду зьявіцца з рыдлёўкай і кайлом!»

Стах не слабы. Рыдлёўкай здолеў паўгектара ворнай зямлі за тры месяцы перавярнуць. Але зруйнаванай шашы, як здаецца, не паправіў бы і за два гады. Таўчы камень – не для яго.

– І толькі? – зьдзівіўся дзядок. – Да заўтра зробім.

І пашамулькаў у бакавую вулку, а Стах пераклаў гародніну на багажнік. Наступным ранкам выправіўся па крамах. Глядзіць і вачам ня верыць – рамонтная брыгада заканчвае асфальт класьці, яшчэ толькі валікам прыкатаць па чорным кілімку, і канец працы. Гарадскіх чыноўнікаў ня бачна, кіравальнікі з ваяводзтва таксама не прыехалі. Няма каму стужку перарэзаць. Цуд. Сапраўдны.

Вяртаецца з набыткамі, зноўку вочы працірае ад зьдзіўленьня: дзядка спаткаў. Зьдзівіўся страшэнна. Аддаў бы ў заклад булкі і малако, якія ў торбе нёс, што іхныя дарогі нідзе не сыдуцца. Кепска б зрабіў. Ляснуў бы сьняданак.

– Я прыйшоў другое жаданьне выканаць, – заяўляе дзядок.

Станіслаў глядзіць падазрона, зноўку не давярае. І баіцца трохі. Ведае некалькі гарадскіх болек. У стрыечнага брата дах працякае, грошай на новую бляху і рыны няма, вада ў склепе кампоты залівае. Мог бы папрасіць, каб у камяніцы на вуліцы Будкевіча дажджы шкоды не рабілі. Але які можа быць фінал? А раптам

прымусіць яго месяц, а то і болей з тазам пад дзіркай у даху стаяць?

– Калі ласка, рашайцеся! – нецярпліва прысьпешыў зычэньне выканаўца.

Які цяжкі выбар! Няма жонкі паблізу, не падкажа. Зрэшты, калі верыць у байкі, жонка ў такіх выпадках была не самым лепшым дарадцам. Ніадкуль няма дапамогі, бо і дачка ў школе. Можа штосьці для яе? Кітайскую самапіску, або пастэльныя алоўкі? Успамінаў што-небудзь самае канкрэтнае. Дзеці зь яе класа мараць аб народных строях, кракаўскіх. Для выступленьняў. Хай ім дасьць. Не для сябе просіць, для другакласьнікаў! Можа не загадае яму да канца сьвята гойсаць у паласатых нагавіцах і сьвітцы? Пустыя страхі. Яшчэ тым самым днём касьцюмы ў школу прывезьлі. Аднекуль, зь нейкай фірмы. Прыехалі, пакінулі, адʼехалі. Невядома адкуль, невядома куды. Даведаўся пра гэта ад дачкі. Малая фарсіла перад домам у гарсэце і каляровай спадніцы. Што ж, усяму дому радасьць. Усе атрымалі задавальненьне. Стась жа здолеў спакойна апошнія паведамленьні па тэлевізару глядзець. Раптам знаёмы твар дзядка яму на экране мільгануў. Хічкок часта ў сваіх фільмах паказваўся, часам гэтак і польскія рэжысёры рабілі, Вайда і Занусьсі. Але дзяржаўнае тэлебачаньне ягонай уласнасьцю ўсё ж здаецца не было?

– Трэцяе жаданьне! – крыкнуў дзядок і высунуўся з-за шапіка, у якім Станіслаў ранкам папяросы купляў.

Трусік аслупянеў. Так трэба выславіцца, хоць выхаванаму інтэлектуалу ня вельмі зручна такімі словамі карыстацца. У чарговае спатканьне ня верыў. Не падрыхтаваўся. Калі б задумаўся, памеркаваў, можа і выбраў бы штосьці добрае. Але ня выбраў. І вось стаяў і думаў. А час ішоў. Закрычала дачка:

– Тата, спозьнімся ў школу!

– Каб толькі не спазьнілася, – сказаў Стась дзядку, і позірк меў благальны.

– Вы хочаце паляцець з дачкой? – дзелавіта пытаецца суразмоўца.

– Хачу! – кажа, страціўшы надзею, і ўяўляе сабе, што, відаць, пагубляе абутак, калі паімчыць у школу тэмпам 60 кіламетраў у гадзіну. Але што там туфлі! Усё роўна зьдзёртыя. Пасьпець бы ў школу да званка.

– Ляціце! – выдае той загад.

Станіслаў бачыць, як з вакна на другім паверсе выплывае дачушка. На ёй блакітны фартучок зь белым каўнерыкам, і кеды. За сьпіною ранец. Хвіліну планіруе над падворкам. Бацька ўглядаецца ў яе бяз страху. З захапленьнем. Але і яго нейкая сіла штурхае ўверх. Да дачкі далучыўся на ўзроўні самай высокай таполі. Гэта добры курс. Не зачэпіць тэлефонныя драты. Ля плеч крылы. Трапечуць, як у матыля. Дзеці на падворку задралі тварыкі, махаюць ручкамі. Старэйшыя таксама заўважылі, але ў рэакцыях стрыманыя. Хустачкамі не махаюць, толькі вочы праціраюць

ад зьдзіўленьня. А добры незнаёмы дзядок зычліва ўсьміхаецца. Таксама махае рукою. На разьвітаньне.

Можа калісь і вас спаткае, можа захоча выканаць ваша самае запаветнае зычэньне. Сьмела кажыце аб чым моцна марыце. Не бянтэжцеся. Жадайце многага. Майце адвагу паляцець у аблокі.

Ці Стась думаў калі, што здолее? Ня думаў. А ўзьляцеў. Высока.

Добры чалавек увесь час усьміхаецца. Адшукайце яго ў натоўпе. Ці споўніў вашае жаданьне? Падазраю, што нямногія гэта могуць. Усё залежыць ад вас. Майце адвагу быць шчасьлівымі.

# ЗЬМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

ФРОНЧАК Зьбігнеў Уладзімеж

# АНЁЛЫ, ЧЭРЦІ І КАБЕТЫ

## Апавяданні

Рэдактар *Я. Янушкевіч*
Тэхнічны рэдактар *Н. Матвеева*
Карэктар *Т. Дзебіш*

Падпісана ў друк 03.08.2017. Фармат 84×108 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 11,7. Ул.-выд. арк. 11,3.
Тыраж 300. Заказ 1256.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
прыватнае вытворча-гандлёвае ўнітарнае прадпрыемства
«Издательство Альтернатива».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/193 ад 19.02.2014.
№ 2/47 ад 20.02.2014.
Пр-т Машэрава, 75/1, к. 312, 224013, Брэст.